УДК [821.161.3]
ББК 83.3(4Беи)
П30

Рэцэнзенты:
*доктар філалагічных навук* З. П. Мельнікава,
*кандыдат філалагічных навук* А. А. Брусевіч

Прадмова
А. М. Пяткевіча

Пад рэдакцыяй
*кандыдата філалагічных навук, прафесара*
А. М. Пяткевіча

**Петрушкевіч, А. М.**
**П30** Наталля Арсеннева : Шлях да Беларусі : манаграфія / Ала Мікалаеўна Петрушкевіч ; прадм. і рэд. А. М. Пяткевіча. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 180 с.
ISBN 978-985-7057-44-3.

Гэта першая ў айчынным літаратуразнаўстве манаграфія-кніга, у якой даследуецца творчасць беларускай паэткі-эмігранткі Наталлі Арсенневай, што плённа працавала ў літаратуры яшчэ ў заходнебеларускі перыяд. Два раздзелы кнігі даволі поўна асвятляюць розныя аспекты паэтычнай спадчыны: творчасць паэткі ў кантэксце часу і ў кантэксце айчыннай літаратуры, дзе поруч з ёю бачацца постаці М. Багдановіча, Л. Геніюш, М. Танка і інш.

Адрасавана студэнтам, настаўнікам, выкладчыкам ВНУ, усім аматарам беларускага прыгожага пісьменства.

**УДК [821.161.3]**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-44-3**





# ДАСЛЕДУЕЦЦА ЧЫСТАЯ ЛІРЫКА

Паэтка ад Бога Наталля Арсеннева стала ўжо міфам-легендаю, аддаліўшыся ад нас і ў часава-прасторавым плане, і, асабліва, паводле таго сціплага месца, якое яна займае ў цяперашняй масавай свядомасці. Ды гэта толькі ўзбуйніла яе постаць. Да таго ж Беларускі лёс, які ніколі не быў літасцівым да сваіх таленавітых і неардынарных асоб, жорстка абышоўся і з ёю. Яна ж пранесла праз усе выпрабаванні і сваю арыстакратычную эстэтыку, нетрадыцыйную для нашай літаратуры, і чалавечы гонар, і моцную нацыянальна-патрыятычную годнасць, якую, між іншым, гадавала ў сабе спакваля, але назаўсёды.

Хіба не трэба сёння прыглядзецца да яе складанага мастацкага свету? Гэта зрабіла Ала Петрушкевіч, знаная ўжо стосікам сваіх кніг, дацэнтка кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Яна ўмее чуць паэтычнае слова, мае адпаведны душэўны слых, пра што добра ведаюць яе студэнты. Таму ўвага да творчасці Наталлі Арсенневай тут не проста літаратуразнаўча-прафесійная, а і асабістая, вынашаная. Паэтка такога ладу, творчага духу, які стала трымаўся на вышыні таемна-прыгожага, недаступнага рацыянальна-зямным вымярэнням, не магла не «зачапіць» гэтую даследчыцу. Праўда, Ала Петрушкевіч бачыць у Наталлі Арсенневай і зямное, сацыяльна дэтэрмінаванае: тое вымагаецца сённяшняй рэчаіснасцю. За ігнараванне сацыяльна-грамадскіх фактараў жыцця паэтку няспынна вінавацілі. Аднак прырода мастацкага таленту мае свае законы, якія нельга не ўлічваць. Гэта добра ведае аўтарка літаратуразнаўчай працы, у якой творчасць Наталлі Арсенневай успрымаецца шматгранна, з розных ракурсаў. Чуйнасць да яе паэтычнага дыхання, багацця мастацкай фантазіі, дзівоснасці вобразатворчага раду дазваляюць прачытаць спадчыну гэтай яркай творчай індывідуальнасці пранікліва і грунтоўна. Вядома, Ала Петрушкевіч не ўсё змагла сказаць пра такі талент. Ды «ўсё» сказаць немагчыма, тым больш адной кніжкай.

Тут хочацца выказаць адно сваё назіранне. Вершы вялікай беларускай паэткі яўна не роўныя ў мастацкіх адносінах. Побач з лірычнымі шэдэўрамі трапляюцца тэхнічна не апрацаваныя, паэтычна не выверыя радкі. Чаму? Адказ адназначны — Арсенневай не хапала школы, прычым на працягу ўсёй творчай дарогі. Яна ўвесь час заставалася адна з сваімі вершамі. Праўда, гэта мае дачыненне і да іншых нашых класікаў. У іх тэкстах таксама назіраем такія ж перапады мастацкасці. Мы на гэта закрываем вочы, прымаем як дадзенасць. Бо разумеем: а адкуль ёй, літаратурнай школе, тады было ўзяцца? Такая нацыянальная рэальнасць нашай літаратуры часоў яе сталення, прынамсі першых двух дзесяцігоддзяў XX ст.

Гэты postscriptum — не ў дакор, вядома, нашай выбітнай паэтцы, тым больш яе даследчыцы, якая пра згаданае не піша. Мы ўсе не пішам. Наталля Арсеннева ж застаецца з’явай нашай эпохі, і кніжка пра яе спатрэбіцца вельмі многім, хто любіць паэзію.

*Аляксей Пяткевіч*





*Замест уступу*

## ЧАС ВЯРТАННЯ,
## або МОЙ ШЛЯХ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Лета, 1989 год. Курсы настаўнікаў у Інстытуце ўдасканалення ў Гародні. Слухаю лекцыю Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча пра творчасць беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў. Між іншым размова ідзе і пра паэзію Наталлі Арсенневай. Да таго гэтае імя сустракала ў друку. Але ніколі ў часе вучобы на філалагічным факультэце. Аляксей Міхайлавіч раіць набыць кнігу «Туга па Радзіме», якая нядаўна выйшла. Не думала тады, што гэта будзе першая кніга ў маім неблагім на сёння зборы твораў беларускіх эмігрантаў. Як не марыла нават, што праз нейкі час менавіта мне давядзецца прапанаваць у Гродзенскім дзяржуніверсітэце для студэнтаў беларускага аддзялення курс «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа».

На пачатку 90-х, калі працавала над дысертацыяй па творчасці Дануты Бічэль, пачула ад кіраўніка, акадэміка Івана Якаўлевіча Навуменкі:

— Што гэта ваша Данута адна, як Піліп з канапель, выскачыла? Каго яшчэ побач паставіце?

— Ларысу Геніюш.

— Пастаўце і Наталлю Арсенневу. Але ж і кампанія!

І калі я пабедавала, што больш няма дзе прачытаць яе вершаў, апроч як у анталогіі «Туга па Радзіме», падказаў, што ў аддзеле рэдкай кнігі акадэмічнай бібліятэкі ёсць першы зборнік паэткі «Пад сінім небам». Лішне казаць, што ў той жа дзень я ўжо трымала ў руках тую кнігу.

Падборка вершаў у анталогіі, як мне здавалася, зусім неблагая, сама паэтка, праўда, была не надта задаволена («падбор твораў нейкі дзіўны»). Але чамусьці тыя вершы і блізка

не зрабілі на мяне такога ўражання, як тая незвычайная кніга. Яна і сапраўды незвычайная. У руках яе трымала сама Наталля Арсеннева. І бацька Максіма Багдановіча Адам Ягоравіч, якому кніга і была падараваная. «Бацьку майго ўлюбёнага паэты…» — аўтограф паэткі сведчыў пра тое. Не магла адвесці вачэй ні ад гэтага надпісу, ні ад фотаздымка, ні ад сціплай, але такой далікатна-прыгожай зжаўцела-белага колеру вокладкі. І вершы ўспрымаліся зусім па-іншаму. Ад іх веяла такой пяшчотай, такой выкшталцона-жаноцкай тугой па высокім сінім небе, па золаце восені. І чымсьці, што нельга вытлумачыць проста словамі, а толькі вершамі, тымі яе вершамі. Увесь час, чытаючы паэтычныя радкі, бачыла яе, уяўляла нават, як яна выглядае, як апранута. Мо смешна, але здавалася, што адчуваю водар яе парфумы… Не заўважыла, як закончыўся дзень, бібліятэкарка ветліва папрасіла вяртаць кнігі. Назаўтра зранку я ізноў трымала гэтую кнігу ў руках.

Напэўна, гэта праўда: чалавек прыцягвае да сябе тое, што жадае мець. Наступная сустрэча з паэзіяй Наталлі Арсенневай адбылася ўжо ў часе маёй працы ва ўніверсітэце. Здавалася б, зусім выпадкова атрымала ў якасці падарунка ад калегі з суседняй кафедры кнігу. Выпадкова зайшла да іх, ён таксама выпадкова з'явіўся там, нешта патрэбна было яму ў сейфе, дзе, апроч усяго іншага, ляжалі кнігі, якія ён атрымліваў з Амерыкі. Узяў адну і працягнуў мне. «Дарую. Напэўна, табе гэта спатрэбіцца», — было сказана як пра нейкае звычайнае выданне, якое лёгка можна было набыць у кожнай кнігарні. А была гэта кніга, што стане адной з самых дарагіх для мяне ў маёй бібліятэцы, — **Наталля Арсеннева. Між берагамі**. Адзіная, якую нікому ніколі не пазычаю, бо не магу дазволіць сабе страціць яе, як тое ўжо здарылася з многімі. Заўсёды прыношу на лекцыі і паказваю студэнтам, але папярэджваю, што кніга не выдаецца. Менавіта тады, калі займела гэтае выданне, вырашыла, што распрацую для студэнтаў курс пра тую нашу міжбераговую літаратуру.

«Між берагамі» — гэта кніга, атрымаўшы якую, Наталля Арсеннева (як яна пра тое сведчыла пазней) адчула сябе паэткай. Вокладка колеру марской хвалі, ярка-бірузовая, у цэнтры залатым цісненнем профіль аўтаркі. Прадмова самага знакамітага эмігранцкага крытыка Антона Адамовіча, якая і сёння ўспрымаецца як вельмі цікавае, цэласнае, грунтоўнае даследаванне і жыццёвага шляху, і творчасці паэткі. Змешчаны партрэт работы Пётры Мірановіча. Прыгожая жанчына прыгожа-восеньскага веку, часу залатой, жоўтай восені. Размытыя абрысы. Толькі выразна вылучаюцца вочы, яркія, цёмныя. І столькі ў іх болю, столькі стратаў адбілася. А погляд — удалечыню, напоўнены мудрасцю і тым унутраным спакоем, якога здольны дасягнуць натуры моцныя, нескароныя. Не ведаю, у якіх колерах выкананы гэты партрэт, але ўяўляю, што ў бляклa-жоўта-залатых. Пра паперу адмыслоўцы, напэўна, могуць сказаць: няякасная. А як па мне, то цудоўная, моцная і пажоўклая, як тая згадка ў эпіграфе Максіма Багдановіча да ягонага «Вянка». «Між страніц старых, пажоўклых» заўсёды знаходжу для сябе тое, што дапамагае выжыць і ў пару вясновую, калі неба такое сіняе-сіняе, а ў душы холадна-холадна, і асабліва ў пару залатой восені, калі так адчувальны подых сцюжы…

Зімой 1998 года ў нашы школы паступіў указ, часта ў выглядзе тэлефоннага званка, пра забарону вывучэння творчасці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва. Прамаўчаць было нельга. Напісала артыкул, які так і называўся «Ці можна сёння прамаўчаць?». Ён быў апублікаваны ў «ЛіМе» 25 мая 1998 года пад назвай «Ці дажывём?..» Зразумела, нічога змяніць не здолеў. Сёння такое ў «ЛіМе» не публікуюць. Газета творчай інтэлігенцыі не згадала нават пра 100-гадовы юбілей паэткі. Затое палічыла магчымым пакінуць абразлівыя выказванні на яе адрас з даклада літаратурнага генерала на з'ездзе СПБ…

Да практычных заняткаў па творчасці Наталлі Арсенневай прапаноўваю студэнтам згадаць, што ведалі раней пра паэтку, ці вывучалі ў школе. Дзесьці да 2000 года большасць адказаў былі амаль аднолькавымі: ведалі гэтае імя, вывучалі ў школе паэзію. Пазней многія студэнты гаварылі пра тое, што або ніколі не чулі нават імя, або калі і чулі, то нічога не ведалі пра яе творчасць. Самая недарэчная сітуацыя сёння: ніхто са студэнтаў-першакурснікаў ніколі не чуў імя паэткі. Як і імя Ларысы Геніюш.

А раней былі вельмі цікавыя выключэнні. Аднойчы пачула такі аповед. Студэнтка працавала летам у дзіцячым садку ў заходнебеларускім мястэчку. У адным з пакояў, на ўсю сцяну, па-мастацку напісаныя словы «Малітвы». Спытала ў дзяцей: «Што гэта такое?» Малыя адказалі: «А хіба вы не ведаеце? Гэта ж наш гімн "Магутны Божа"!» Які́м жа было маё здзіўленне, калі на пытанне, хто тая патрыётка-выхавацелька, пачула: «Ваша аднакурсніца». І назвала імя вельмі мілай, прыгожай дзяўчынкі, якая ў студэнцкія часы не вельмі ўлягала за навукай, здавалася, была зусім абыякавай да нейкіх нацыянальных праяваў жыцця. «Яна і ёсць тая Дзіўная, бо зрабіла тое, чаго ад яе не чакалі», — гэтак ахарактарызаваў яе наш калега прафесар Ігар Васільевіч Жук, калі пасля заняткаў расказала на кафедры пра вельмі прыемны для мяне выпадак.

Параўнальна нядаўна пачула аповед, як дырэктар школы ў адным з гарадоў, што на Гарадзеншчыне, падкрэсліваў у размовах з вучнямі, што сапраўдным гімнам Беларусі з'яўляецца «Магутны Божа». І гэта ў наш час! Ёсць жа яшчэ і дырэктары!.. Дзяўчынка запомніла гэта. Як ім, вучням, важным бывае слова настаўніка. Як часта яно падае на вельмі ўрадлівую глебу. Менавіта пра гэта не раз чула ад аднаго з самых лепшых нашых беларускіх настаўнікаў з Гудзевічаў Алеся Мікалаевіча Белакоза.

Адна са студэнтак вучылася ў музычнай школе, спявала ў хоры. Песня, якую выконвалі амаль заўсёды, — «Магутны Божа». З тых часоў памятала яе, але імя паэткі не ведала. Наогул, часта студэнты памятаюць малітву, якую яны чулі ці спявалі ў касцёле. Але вельмі рэдка ведаюць імя аўтаркі верша.

Апошнім часам усё меней аповедаў пра Наталлю Арсенневу. Варыяцыі на адну і тую ж тэму: нічога не ведала са школы, вельмі шкада, што паэзія не вывучаецца. Дабавілася яшчэ адно нечаканае ўспрыняцце: калі ў школе ў аглядзе сучаснай паэзіі пачула гэтае імя, падумала, што гэта маладая сучасная паэтка. Студэнтка-выдатніца, у тым часе вучаніца-выдатніца, у якасці прызу на алімпіядзе па роднай мове атрымала кнігу Лідзіі Савік «Пакліканыя» (Які цуд! Як бы ні глядзелі ўсе іх ідэалагічна-вертыкальныя цэнзары, усё ж і нашы кнігі даходзяць нават да школьнікаў і такім чынам). Тады і прачытала ўпершыню гэтае імя. Але тэкст падаўся занадта складаным, чытаць не стала, а вось ужо ва ўніверсітэце!..

Гэтая кніга стваралася на працягу амаль пятнаццаці гадоў. Многае з напісанага было прэзентавана на навуковых канферэнцыях. Праўда, далёка не ўсё можна было надрукаваць у нашых зборніках. Таму артыкулы ў большасці сваёй выходзілі ў навуковых і перыядычных выданнях Польшчы, па-за межамі Беларусі.

Кніга ўяўляе сабой не храналагічна паслядоўнае даследаванне жыццёвага і творчага шляху паэткі, а аналіз самых, на маю думку, цікавых старонак жыцця і творчасці, якія могуць успрымацца і як асобныя артыкулы. Таму ў некаторых месцах вымушана пакінуць паўторы.

У якасці дадатку прапануецца агляд жыццёвага і творчага лёсу паэткі. Ён не абрываецца 1997 годам, бо пасля сыходу аўтара працягваецца ягоны творчы лёс: выдаюцца кнігі, друкуюцца літаратуразнаўчыя матэрыялы. Падрыхтаваць дадатак, што да жыццёвага шляху паэткі, было складана, бо матэрыялаў, асабліва па эміграцкім перыядзе жыцця, бракуе. Дапамаглі тут выданні, якія рыхтуюцца супрацоўнікамі БІНІМ: «Запісы», «Шматгалосы эпісталярыум» Лявона Юрэвіча. Што да польскага перыяду жыцця паэткі, то сёння гэтым стала займаецца прафесар Алена Глагоўская, якая ласкава прапанавала свае артыкулы з польскіх выданняў, што таксама дапамагло ўдакладніць некаторыя даты. Найбольш поўныя бібліяграфічныя звесткі 20–30-х гадоў і паваеннага часу сабраныя Зорай Кіпель, пазнейшыя, да 2000 года, апрацаваны Лідзіяй Савік. Яны таксама выкарыстаны ў дадатку. Праўда, многія звесткі ў розных крыніцах пададзены па-рознаму. Да прыкладу, першым вершам Наталлі Арсенневай Зора Кіпель лічыць «Восень» («Наша думка», 8 верасня 1921 года), у каментарох да кнігазбораўскага выдання пазначаны іншы — «Мой родны край» («Наша ніва», 28 кастрычніка 1920 г.). Відавочна, што мае рацыю аўтарка каментароў Лідзія Савік, бо Зора Кіпель арыентавалася на кнігу «Між берагамі», а верш «Мой родны край» у гэта выданне не

ўвайшоў, наогул, пазней не перадрукоўваўся, таму, відавочна, і быў абыдзены эмігранцкай даследчыцай.

Да гэтага часу не выдадзена ні адна кніга пра Наталлю Арсенневу. Даследчыцай творчасці беларускіх паэтаў-эмігрантаў Лідзіяй Савік напісаны грунтоўны раздзел пра паэтку ў манаграфіі «Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа». Літаратуразнаўцу з Беласточчыны Яну Чыквіну належыць артыкул «Між Вільняй і Рочэстэрам (Творчасць Наталлі Арсенневай)», змешчаны ў кнізе «Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа». Ён з'яўляецца аўтарам і манаграфічнага артыкула пра паэтку ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.». Мікола Мішчанчук — аўтар артыкула «Між берагамі (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай)». Гэта самыя грунтоўныя працы пра творчасць паэткі.

20 верасня 2013 года споўніцца 110 гадоў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай, чыя творчасць усё яшчэ не можа вольна вярнуцца ў Беларусь, так, як ніколі не вярнулася сюды аўтарка. У лісце да яе літаратара Антона Адамовіча чытаем: «Вы зусім правільна пісалі, што Вас будуць чытаць і разумець па сьмерці. Гэта ж з паэтамі часта бывае, а з запраўднымі — бадай заўсёды». Час — чытаць і разумець творы паэткі — хіба ж не прыйшоў?

Наталля Арсеннева, бясспрэчна, вартая таго, каб кнігі пра яе з'явіліся. Спадзяюся, што гэта праца стане першай у тым шэрагу.





*Раздзел I*

# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА Ў КАНТЭКСЦЕ ЧАСУ І ПА-НАД ІМ



# ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА
## *(кароткі агляд)*

Найбольш значны, плённы перыяд беларускай літаратуры, створанай па-за межамі Бацькаўшчыны, — другая палова XX ст., калі вялікая плеяда творцаў апынулася на эміграцыі, увайшоўшы ў склад восьмай (па вызначэнні Аўгена Калубовіча), «самай вялікай хвалі беларускай палітычнай эміграцыі ў некалькі сот тысяч (без ваеннапалонных і прымусова вывезеных на працу)» [1, с. 45]. Прычыны, што штурхалі творцаў на гэты няпросты шлях, у кожнага свае, асабістыя. І разам з тым агульнай прычынай было вяртанне ў Беларусь таго нялюдскага рэжыму, што нішчыў усялякую свабоду, усё нацыянальнае, ад чаго ўжо паспелі адпакутаваць многія з выгнанцаў, якія ў завірушным 1944 годзе падаліся на Захад, напачатку ў Нямеччыну, затым — на сталае жыхарства ў Амерыку, Аргенціну, Аўстралію, Канаду.

Імёнаў пісьменнікаў гэтай хвалі — дзясяткі. Многія з іх сёння ўжо вядомыя на Бацькаўшчыне, іншыя — амаль не. А вяртанне пачалося з канца 80-х гадоў. Ледзьве не паўстагоддзя былі пад забаронай на Беларусі, дзеля якой жылі і тварылі. Гэта Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Кастусь Акула, Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Клішэвіч, Янка Юхнавец, Аляксандра Саковіч, Аўген Калубовіч, Юрка Віцьбіч, Рыгор Крушына, Янка Золак, Міхась Кавыль, Вінцук Адважны, Анатоль Бярозка, Сяргей Ясень, Уладзімір Случанскі, Мікола Цэлеш, Антон Адамовіч, Уладзімір Сядура-Глыбінны, Лявон Савёнак і інш.

У цэнтры творчасці беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў заўсёды заставалася Беларусь, яе багатая гісторыя, культура, сучаснае і будучае. Гэта зыходныя, асноўныя моманты, што натхнялі да стваральнае працы, насычалі яе. Зразумела: ад самага пачатку матыў тугі па Радзіме меў месца ў творах эмігрантаў.

Але неабходна зразумець і іншае: да чаго прыводзіў гэты матыў? Ці можна цалкам прыняць сцверджанае Барысам Сачанкам ва ўступнай прадмове да выбраных старонак паэзіі «Туга па Радзіме» — першай ластаўкі з далёкага замежжа: «“Смачная і даўкая костка” — “Бацькаўшчына і Радзіма” — не дае нікому спакойна жыць на чужыне. Успаміны маленства трывожаць, мучаць гадамі. Адсюль і хвароба — страшная, невылечная — настальгія» [2, с. 7]? Падаецца, аўтар прадмовы занадта згусціў фарбы, гледзячы на праблему з далечы другога берага, што быў для эмігрантаў недасяжным. Больш слушнымі тут ёсць сведчанні саміх эмігрантаў, што ад пачатку свайго няпростага шляху, яшчэ з лагераў ДП у Заходняй Нямеччыне, імкнуліся ў розных варунках цвяроза асэнсоўваць свой стан, не паддавацца настальгіі. Сучасны даследчык беларускага эміграцкага руху Лявон Юрэвіч, які ўжо багата часу жыве ў Амерыцы, піша, што туга па Радзіме «для асобных пісьменнікаў была больш як сумніўнаю, а таму з’яўлялася прыдатнаю тэмаю для сатыры» [3, с. 13]. Аўтар прыводзіць верш Палікарпа Манькова, напісаны ў 1946 г., у якім у здзекліва-сатырычнай манеры высмейваліся песімістычныя настроі:

*Цяжка, цяжка сіраціне*
*У чужой, сухой краіне,*
*Дзе ў людзей, у небарак*
*Усё ня гэтак, ўсё ня так.*

Бадай што найбольш слушна, дакладна гэтаю праблему абазначыў Янка Запруднік, эмігрант восьмай хвалі, знаны грамадскі дзеяч, публіцыст, як паэт вядомы пад псеўданімам Сяргей Ясень. Палемізуючы са згаданым артыкулам Барыса Сачанкі, Янка Запруднік пісаў: «Туга ў эмігрантаў, бясспрэчна, была, бо глыбінную існасьць Радзімы, як пра гэта сказаў яшчэ выгнанец Адам Міцкевіч, спазнае толькі той, хто Радзіму страціў. Туга — гэта адчуваньне страты. Але туга сама па сабе — пачуцьцё пасыўна-адмоўнае. Нармальны чалавек, калі ён жыве ўва ўмовах свабоды, не абмяжоўваецца да тугі. Туга стымулюе яго да дзеяньня, стаецца маторам — тым магутнейшым, чым глыбейшае пачуцьцё страты Бацькаўшчыны. Тужыць па Радзіме — гэта не значыць упадаць у пэсымізм. Наадварот, гэта значыць дзеяць, жадаць павароту на родную зямлю, прагнуць свабоды для яе, намагацца й змагацца за вызваленьне ды верыць, што ўсё гэта прынясе жаданы плён. Туга… можа быць дынамічным стымулам пазітыўнага дзеяньня і аптымістычнай перакананасьці. Гэткай яна і была ў пераважнае бальшыні беларускіх паваенных эмігрантаў. Іншай яна не магла быць, бо альтэрнатыва — няволя з абразаю чалавечай і нацыянальнай годнасьці — была відавочнай» [4, с. 7].



На эміграцыі пісьменнікі імкнуліся гуртавацца, стваралі літаратурныя аб’яднанні. Найбольш вядомыя з іх «Шыпшына» (заснавальнік Юрка Віцьбіч) і «Баявая Ускалось» (заснавальнік Сяргей Хмара). Шыпшынаўцы лічылі сябе спадкаемцамі «Узвышша». Сам Юрка Віцьбіч — колішні сябра гэтага знішчанага згуртавання. Таму невыпадкова, што адна з мэтаў «Шыпшыны» была сфармулявана з вялікім і шчырым пажаданнем і з гэткай жа прэтэнзіяй: «Працаваць над стварэннем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу» [5, с. 16].

Што да жанравай разнастайнасці літаратуры беларускага замежжа, то найбольшае развіццё атрымалі жанры паэтычныя, у якіх тварылі Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Уладзімір Дудзіцкі, Янка Юхнавец, Янка Золак, Рыгор Крушына, Хведар Ільяшэвіч і інш.

У гэтым шэрагу першынство звычайна адводзіцца паэтцы Наталлі Арсенневай. І гэта невыпадкова. Асноўным паэтычным жанрам, у якім тварыла паэтка, быў лірычны верш часцей элегічнага зместу. У адрозненне ад свайго паэтычнага настаўніка Максіма Багдановіча Наталля Арсеннева не здольна была гарачае жывое пачуццё закаваць у халодныя, правільныя рамкі. Яе паэтычны радок плыве ўслед за пачуццём, падпарадкаваны выключна гэтаму пачуццю. Таму ад некаторых твораў узнікае адчуванне пэўнай неўладкаванасці, неўпарадкаванасці, стыхійнасці.

Пачатак ейнага шляху — не ад зямлі, а ад імклівага лунання над ёю — «Пад сінім небам». Сіняе неба — як бязмежнасць усёабдымнай плыні, дзе заўсёднае свята для душы, дзе адхланне,

супакой, гармонія. Туды, да сіняга неба, яна, юная пяснярка, і ляцела «па слова-чар», пакідаючы ў суровым зямным жыцці клопаты, беды, трагедыі. Здаецца, нішто не хвалявала яе гераіню, апроч пошукаў святла і прыгажосці. І тое змаганне, якім жылі многія і якое бачыла паэтка, усё ж засланялася «восені чарам», бо паня, гаспадыня ў яе чароўным свеце — залатая «Жоўтая восень». Недарэмна яшчэ ад 20-х гадоў Наталлю Арсенневу называюць паэткай восені. І гэтак жа недарэмна Ян Чыквін назваў паэзію Наталлі Арсенневай ціхай.

Але быў у творчасці час, калі цішыня адступіла, калі на змену «ціхай» лірыцы прыйшлі вершы грамадзянскага гучання, вершы-заклікі, звароты, патрыятычныя песні. Гэта быў час ваеннай пары, яе «Сягоння».

Наталля Арсеннева не звярталася да класічных паэтычных формаў. У эміграцкай паэзіі належную даніну ім аддалі Рыгор Крушына і Алесь Салавей, які ў сваёй паэзіі ішоў шляхам Максіма Багдановіча. Першы «дарослы» верш яго і быў санет «Гайна», не прыняты да друку ў савецкай газеце: класічныя формы ў тым часе лічыліся архаікай, якую трэба выкінуць на сметнік. Ім напісана многа санетаў. Уплыў Багдановіча што да гэтага жанру асабліва выявіўся ў трыпціху «Гуманізм» («Францішак Скарына», «Васіль Цяпінскі», «Сымон Будны»), эпіграфам да якога ўзяты радок «*Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць*» з тэрцынаў класіка. Гэтая цытата вар'іруецца ва ўсіх трох творах, штоpазу набываючы новыя сэнсы. Так, у першым санеце «Францішак Скарына», дзе паўстае вобраз вялікага гуманіста, асветніка, сам паэт, углядаючыся ў часы Скарыны, прыпадымае завесу часу: «*Стагоддзі пылу я страсаю з друку*». Класічныя формы верша сталі ў яго спадчыне дамінуючымі: трыялет, рандо, актава, гекзаметры, раманс. Паэма «На хуткіх крылах вольнага Пегаса» цалкам напісана ў форме санета. Апошняя з створаных Алесем Салаўём паэмаў «Сын» (1947) таксама вызначаецца строгай інструментоўкай: васьміpадковае рандо.

Гэты прыгожы беларускі паэт, што амаль трыццаць апошніх гадоў пражыў у далёкай зялёнай Аўстраліі, гэтак жа аддаў даніну высокай красе, найпрыгажэйшым сімвалам якой была для



яго Беларусь. Таму невыпадкова, што ягоныя творы, выдадзеныя па смерці, маюць назву «Нятускная краса» (1982).

Пяру Алеся Салаўя належыць і адзін з першых у беларускай літаратуры вянок санетаў пад назвай «Вянок першы» (1958). Былі яшчэ «Вянок другі» і «Вянок трэці». Але яны страціліся ў няпростых варунках вандроўнага жыцця.

У тым жа часе вянок санетаў быў напісаны і Міхасём Кавылём, паэтам са Случчыны, аўтарам выбранага пад сімвалічнай назвай «Міжагнёўе». Гэты вянок быў створаны ў 1956 г., меў назву «Цяжкія думы». Першы ж у «падсавецкай» (Антон Адамовіч) літаратуры вянок належыць Нілу Гілевічу («Нарач», 1965). Звяртаўся Міхась Кавыль і да жанру балады: «Дума аб герою», «Балада аб Тані», «Дума пра Андрэя Кміціца», «Жаўрук». Міхась Кавыль — аўтар першай віланелы, шасцістрофнага тэрцэта, што быў характэрны для італьянскай паэзіі XV ст.

Рыгор Крушына свой паэтычны зборнік «Сны і мары» цалкам уклаў вершамі класічных формаў: санетамі, актавамі, тэрцынамі, трыялетамі, рамансамі. Апроч таго, увайшлі сюды і ўзоры ўсходняй паэзіі: газэль, туюг, танка, хайку — і першыя ў нашай паэзіі паліндромы. Услед за Міхасём Кавылём напісаў віланелу.

Надзвычай адметная постаць сярод паэтаў-эмігрантаў — Янка Юхнавец, чыя творчасць мае глыбокі філасофскі змест, «прадстаўнік, паводле яго ўласных словаў, метаду асацыізму, што азначае "Асацыяцыя ўсіх літаратурных метадаў", школ, стыляў, якія існавалі дагэтуль» [5, с. 16]. Ягоная творчасць значна апярэдзіла з'яўленне ў беларускай паэзіі Алеся Разанава. У Беларусі выйшла выбранае Янкі Юхнаўца «Сны на чужыне» (1994).

Адным з самых вядомых паэтаў эміграцыі быў Масей Сяднёў, чые вершы ўжо з 30-х гадоў вылучаліся надзвычайнай лірычнасцю, шчырасцю пачуцця. Маладосць, што мінула пад суровым знакам «Патушаных зораў» (назва выбранага), змяніла жыццё пад акупацыяй, а пазней — эміграцыя. Асабліва плённым быў у яго творчасці паслямюнхенскі перыяд, калі лірыка ўзбагацілася вобразамі сусветнай класікі, антычнай літаратуры, біблейскімі матывамі: «Мая Lorelej», «Распяты Хрыстос», «Арфей», «Прароцтва сівілаў», «Малітва», «Руф», «Рааў». Вобразы сусветнай культуры паэт пераносіў на беларускую глебу.

Наогул, пісьменнікі-эмігранты мелі неаспрэчную перавагу перад творцамі «падсавецкімі»: ім былі даступныя скарбы, здабыткі сусветнай культуры, недасяжныя цалкам на Бацькаўшчыне. Пісьменнікі замежжа плённа наследавалі традыцыі сусветнай класікі, перастваралі ў беларускай мове творы еўрапейскай літаратуры. Так, Масей Сяднёў перакладаў творы нямецкіх рамантыкаў Гейнэ, Рыльке, Мёрыке. Наталля Арсеннева перакладала з Гётэ, Адама Міцкевіча, Юзафа Лабадоўскага і інш.

Шмат было зроблена і дзеля ўзбагачэння беларускага паэтычнага эпасу. Гэта паэмы Алеся Салаўя «Сын», «Домік у Менску», «Звіняць званы святой Сафіі», Рыгора Крушыны «Персідская легенда», «Песня песняў Саламона», «Эротава іскрыпка», «Паэма пра вусны», Масея Сяднёва «На край святла», «Цень Янкі Купалы», «Мая вайна», «Мікола Бугроў», Уладзіміра Дудзіцкага «Прысяга», «Звер двухногі», «Маіх уяў ружовых ранак», «Сцені», Уладзіміра Клішэвіча «Васіль Каліна» і інш.

З празаічнымі творамі эмігрантаў беларускі чытач амаль незнаёмы. На пачатку 90-х у нашым друку паспелі з'явіцца раманы Масея Сяднёва «І той дзень надышоў», Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», А. Калубовіча «На крыжовай дарозе». «Полымя» змясціла раман Масея Сяднёва «Раман Корзюк» і аповесць Васіля Стомы-Сініцы «Маё мястэчка»; «Спадчына» — аповесць Юркі Віцьбіча «Лшоно Габоо Бійрушалайм»; некалькі апавяданняў Юркі Віцьбіча, Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага, Аляксандры Саковіч, Міколы Цэлеша ўвайшлі ў анталогію «А часу больш, чым вечнасць». І гэта літаральна ўсё, што паспелі зрабіць у той час. Пазней выйшаў раман Кастуся Акулы «Заўтра ёсць учора» ў перакладзе Ірыны Верабей.

А між тым проза беларускай эміграцыі багатая і разнастайная. Пра тое сведчыць даследаванне, зробленае Алесем Пашкевічам. Ягоная праца «Зваротныя дарогі: Проза беларускай эміграцыі XX стагоддзя» ўсебакова і грунтоўна даследуе гэтую малавядомую на Бацькаўшчыне старонку беларускай літаратуры.

Сярод празаікаў вылучаецца Юрка Віцьбіч, што быў вядомы як літаратар яшчэ ў 30-я гады сваімі зборнікамі апавяданняў «Смерць Ірмы Лаймінг», «Формула супраціўлення касцей», аповесцямі «Арцыбіскуп і смерд», «Лшоно Габоо Бійрушалайм», крытычнымі артыкуламі, эсэ. На эміграцыі выдаў толькі адну сваю кнігу — мастацкі нарыс «Цячэ з-пад Святое Гары Нёман» — «арыгінальная творчая праца, у якой у мастацка-эсэістычнай манеры падаецца апісанне адметнасці, багацця і красы беларускай зямлі, паходжання і лёсу тапаграфічных назоваў беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў і мясцовасцяў» [6, с. 122].

Буйныя мастацкія палотны створаны пісьменнікам Кастусём Акулам. Яму належаць раман «Змагарныя дарогі», трылогія «Гараватка», куды ўвайшлі аповесці «Дзярлівая птушка», «Закрываўленае сэрца», «Беларусы, вас чакае зямля». «"Гараватка" Кастуся Акулы, — як сцвярджае Ян Чыквін, — вострасюжэтная, псіхалагічна верагодная, праўдападобная ў быційна-сітуацыйных калізіях» [7, с. 98]. Гэты твор раскрывае шырокую панараму жыцця на Беларусі пад спрадвечным панаваннем чужынцаў.

Па-новаму ўбачыць чалавека ў часы вайны дапамагае раман Масея Сяднёва «І той дзень надышоў», у якім на пярэднім плане — жыццё сэрца, прыватнае, асабістае пачуванне яшчэ зусім маладога чалавека, што прайшоў праз ГУЛАГ і зараз апынуўся між двух агнёў. Вынішчэнню беларускай інтэлігенцыі, студэнцтва прысвечаны твор пісьменніка «Раман Корзюк».

Усе гэтыя творы носяць аўтабіяграфічны характар, як і раманы Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе» і «Вялікія дарогі» Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага, раманы Алеся Змагара «Случчына ў вагні» і «Ганебная пляма», аповесць Васіля Стомы-Сініцы «Маё мястэчка». Апроч таго, багатая эмігранцкая проза і на мемуарна-дакументальныя творы. Гэта «Кітай — Сібір — Масква» Вінцука Адважнага, «Мемуары» Яна Пятроўскага, «Эпізоды» Яўхіма Кіпеля. Цікавыя ўспаміны пакінулі Аляксандра Саковіч, Міхась Кавыль, Масей Сяднёў (увайшлі ў «Масееву кнігу»).

Гістарычная проза эмігрантаў на некалькі дзесяцігоддзяў апярэдзіла тое, што адбудзецца ў Беларусі толькі ў 80–90-я гады. Аповесці, апавяданні Паўлюка Вазёрнага (Паўла Урбана) узнаўляюць далёкую гісторыю, часы Полацкага княства, дзе ў цэнтры — вобразы князя Усяслава, яго сыноў. Раман Уладзіміра Случанскага «Драбы» Алесь Пашкевіч называе «самым

чытэльным і самым “сучасным” беларускім творам» [6, с. 91]. У цэнтры — вобраз князя Вітаўта і ягоных прыхільнікаў, якіх і называлі — драбы. «Уладзімір Случанскі ўпершыню ў беларускай літаратуры пазначыў галоўныя высновы беларускай гістарычнай навукі XX стагоддзя: сэрца летапіснай Літвы — Наваградак, яно знаходзіцца ў цэнтры сённяшняй Беларусі» [6, с. 97].

Адна з умоваў з’яўлення драматычных твораў — запатрабаванасць іх тэатрам. На эміграцыі гаварыць пра стварэнне беларускага тэатра не выпадае. Таму жанры драматычныя амаль не развіваліся. Тыя п’есы, што ёсць у спадчыне Наталлі Арсенневай, у большасці сваёй напісаныя ў акупаваным Мінску і ў беларускіх лагерох. Пісалі драматычныя творы Міхась Кавыль, Мікола Цэлеш, Аўген Кавалеўскі.

Эміграцкая літаратура ў значна большай ступені зберагала беларускі нацыянальны дух, чым літаратура «падсавецкая». Многія пісьменнікі былі шчырымі прыхільнікамі той мадэлі нацыянальнага быцця, якую прапанаваў Вацлаў Ластоўскі. Ягоная ідэя Крывіі, што была падхоплена ў літаратуры ў 20-х гадох, а пазней адкінута і зруйнавана ў Беларусі, знайшла годны працяг у творчасці Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, бо «Крывія для беларускіх творцаў — як вечны Акропаль для грэкаў» [6, с. 66].

Кожны з эмігрантаў прайшоў няпросты шлях. Як і ўвесь наш люд. Як і ўся Беларусь. Таму невыпадкова, што адным з самых распаўсюджаных вобразаў-сімвалаў у эміграцкай літаратуры ёсць вобраз дарогі, які заяўлены ў назвах многіх твораў: мастацка-дакументальныя творы Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе», Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага «Вялікія дарогі», паэтычны зборнік Рыгора Крушыны «Дарогі» і інш. Ды і паэма Уладзіміра Клішэвіча «Васіль Каліна» — гэтаксама пра крыжовы шлях беларускай інтэлігенцыі. Часам гэты шлях абрываецца, губляецца, раздвойваецца, множыцца. Тады ўзнікае хранатоп ростаняў, раздарожжаў, міжбярэжжа. Знакавыя ў гэтым плане назвы зборнікаў Наталлі Арсенневай «Між берагамі», адзін з раздзелаў якой — «На ростанях», і Міхася Кавыля «Міжагнёўе».



Сёння хіба слушна будзе зазначыць, што беларуская эміграцкая літаратура пагаеннай пары засталася ў мінулым, XX стагоддзі. Бо за рэдкім выняткам амаль не засталося на гэтай зямлі тых, хто разам з восьмай хваляй эміграцыі пакінуў Беларусь.

*2002*

## ЗАГАДКА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Шмат неразгаданых таямніцаў маем у нашым прыгожым пісьменстве. Найперш праз іх — вялікіх і непаўторных, што на пачатку ўжо прамінулага XX стагоддзя тварылі не толькі літаратуру, але і саму нацыю. Загадка Янкі Купалы, загадка Максіма Багдановіча. Гэтак жа загадкавай паўстае на ніве беларускай паэзіі і постаць Наталлі Арсенневай, разважаючы пра якую, даследчыкі найперш адзначаюць: яна з роду тых Арсенневых, што па мацярынскай лініі даў свету рускага паэта М. Ю. Лермантава. Выключны выпадак! Здавалася б, нішто не прадказвала з’яўленне ў звычайнай сям’і рускага вайскоўца паэткі з беларускай душой. Яе шлях да Беларусі быў не зусім звычайным і, як падаецца на першы погляд, выпадковым, бо надта далёкім было асяроддзе, дзе ўзгадавалася, ад таго, што стане лёсавызначальным.

Жыла ў Вільні і нават не ведала, што жыве ў Беларусі. Але штосьці падштурхнула юную навучэнку Віленскай Марыінскай гімназіі прачытаць у школьным падручніку геаграфіі не абавязковы для вывучэння, набраны дробным шрыфтам тэкст, з якога «яна ўпершыню даведалася, што ёсць Беларусы, і ў іх ёсць літаратура, дзе найбольшы паэта Янка Купала» [8, с. XI–XII]. А гэта азначае, што ні разу ў тым часе не трапіла ёй у рукі не тое што ні адна беларуская кніга, якіх ужо выйшла нямала, але і ні адзін нумар перыёдыкаў, многія з якіх і выдаваліся тут, у Вільні. Ніколі не давялося ёй прайсці каля беларускай кнігарні, звярнуўшы на яе ўвагу, даведацца пра тое, што ў месце адбываюцца беларускія вечарыны, ставяцца беларускія спектаклі.

І ці ж не цуд гэта — менавіта ёй дадзена будзе стаць паэткай, вытокі творчасці якой «пачынаюцца з чыстых крыніц красы і любові да Беларусі», а паэзія яе будзе «прасякнута адной ідэяй — нацыянальнае адраджэнне, уваскрасенне Бацькаўшчыны-Беларусі — адвечнага ў Сузор'і Сусвету Зніча, які не павінен знікнуць ніколі» [5, с. 40].

Гэты феномен часткова вытлумачваецца найперш тым, хто паўплываў на станаўленне паэткі, хто былі — настаўнікі. Беларускай паэткай яе зрабіла Віленская беларуская гімназія, дзе навучэнцам не проста давалі грунтоўныя веды, але вялікую ўвагу звярталі на патрыятычнае, нацыянальнае выхаванне моладзі. Тут Наталля Арсеннева вучылася па звароце сям'і з эвакуацыі, з Яраслаўля.

У гімназіі загартавалася юная душа ў беларушчыне, там адкрылася ёй мінулае, слаўная гісторыя гэтага Краю, мілагучнасць і прыгажосць мовы, яе багацце, высокі, ужо класічны ўзровень літаратуры. Бо настаўнікамі былі знакамітыя Асобы: Аркадзь Смоліч, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч. Але найперш — Максім Гарэцкі, строгі, патрабавальны крытык яе першых беларускіх вершаў, які, аднак жа, падтрымаў юную паэтку, назваўшы яе новай Буйлянкай. Наталля Арсеннева, удзячная вучаніца, ужо па сканчэнні гімназіі ахвяравала Максіму Гарэцкаму светлы верш «Красавік», у якім — бязмежнае сіняе неба, кволая квецень пралескаў, срэбны пух лазнякоў высвечваюцца праз тонкія зрухі чалавечай душы, здольнай адгукнуцца на шматгалосы спеў цішыні, здольнай адчуць «водар салодкі вясны». І сапраўды, як адзначае даследчыца Лідзія Савік, «з прыходам яе, небеларускі, у нашу літаратуру да беларускасці шмат дадавалася, а не адымалася, не ганьбавалася, а ўпрыгожвалася беларускае слова» [5, с. 41]. Дапоўнім, упрыгожвалася няўлоўнымі адценнямі, пералівамі фарбаў, сцішанымі, пяшчотнымі гукамі паэтычных мелодый.

З Наталляй Арсеннявай адбываўся той няпросты, але так плённы для душы паэткі працэс, які эмігранцкі крытык Антон Адамовіч назваў «натуралізацыяй у беларушчыне». Найпершым складнікам гэтага працэсу было засваенне беларускай мовы. Напачатку — у сценах Віленскай беларускай гімназіі, пазней — праз знаёмства з беларускім паэтам-нашаніўцам Гальяшом Леўчыкам у беларускім месце Слоніме, дзе разам з сям'ёй жыла ў 1922–1924 гадох, праз штолетнія адпачынкі на Валожыншчыне ў хаце свёкра Кушаля, які быў шчырым беларускім патрыётам. Беларуская мова стала для Наталлі Арсенневай роднай. Шмат узнёслых радкоў прысвяціла ёй паэтка:

*Мова наша —*  
*выкутая з золата —*  
*не йржавее,*  
*блішчыць,*  
*зігаціць.*  
*Гэта мова паэтаў і волатаў,*  
*скарб, які нас трымаў пры жыцьці* [9, с. 112].

Разважаць пра шлях Наталлі Арсенневай да Беларусі можна і ў іншым плане, калі мець на ўвазе, што яе жыццё — гэта пяціэтапная эміграцыя. Гэта не зусім правільна. Бо маецца на ўвазе, што пяць разоў у розным веку ёй даводзілася пакідаць Беларусь. А той першы пераезд, калі яе няўцямным немаўлём прывезлі ў Вільню з Баку, наадварот, прывёў яе ў наш Край. Але гучыць прыгожа: пяціэтапная эміграцыя. На пачатку 20-х гадоў пачынаецца трэцяя эміграцыя, прычынай якое сталі справы сямейныя: маладая паэтка вандруе ўслед за мужам, вайскоўцам Францішкам Кушалем. «Выезд у чужое моўнае асяроддзе, адасабленне ад "маруднай" штодзёншчыны "беларускай справы" аказалі, відавочна, рашаючы і выключна станоўчы ўплыў на фармаванне адметнага паэтычнага светапогляду і светаадчування Наталлі Арсенневай. Нутраную патрэбу складання вершаў толькі па-беларуску ўзбудзіла ў ёй, несумненна, тая ж "беларуская справа"» [7, с. 42].

Самай працяглай і незваротнай сталася апошняе, пятае развітанне з Беларуссю, калі ўвесь час марыла вярнуцца на Радзіму. Напачатку гэта была магутная ўпэўненасць: вернемся! І гэта будзе хутка! Гэты матыў — галоўны ў вершах другой паловы 40-х гадоў, у якіх смутак па Беларусі гоіцца ветрам з родных ніваў, верай. Згадаем верш «Ня плачце»:

*…Лёс яе нам зноў аддасьць,*
*тут, на чужыне,*
*нас ня кіне.*
*Мы вернемся дамоў!*
*З адкрытай галавой,*
*із сонцам у душы і песьняю на вуснах*
*мы пройдзем па шляхах…* [9, с. 160]

А пазней, ужо ў далёкай Амерыцы, было доўгае-доўгае трыванне, выпрабаванне на вернасць, вытрыманае з годнасцю.

І ўрэшце — знакамітыя радкі, у якіх бездань болю асобы моцнай, годнай:

*Не цалавала рук*
*нікому я ў жыцьці.*
*Табе-ж,*
*мая зямля,*
*я цалавала-б ногі…* [9, с. 275]

Лёс яе і сапраўды «так нагадвае лёс Максіма Багдановіча, які таксама не страціў адчування роднага, нацыянальнай годнасці, будучы далёка ад свайго краю, не растварыўся ў рускамоўным асяроддзі» [10, с. 17–18].

Сёння мноства беларускіх жанчынаў, перапоўненых жаданнем стаць паэткамі, часам і небесталенавітых, пайшлі шляхам, адваротным таму, які прайшла Наталля Арсеннева, — да Беларусі. Яны, жывучы тут, будучы беларускамі па крыві, сталі паэткамі рускамоўнымі. Побач з вялізнай кагортай моцнага полу актыўна і вельмі пладавіта ствараюць рускамоўную літаратуру Беларусі, якая ўжо займае актыўнае месца і ў школьнай праграме, дзе месца ні Наталлі Арсенневай, ні Ларысе Геніюш няма. Але ці вартымі будуць усе іх тварэнні, разам узятыя, таму, што стварыла адна, руская па крыві, Наталля Арсеннева?

Здавалася б, праз усё жыццё кон адводзіў паэтку ад Беларусі, але яна не сышла са шляху, які абрала аднойчы і назаўсёды.



# КАЛЫХАНКА НА ЎСКРАІНЕ СЛОНІМА

1922–1924 гады. Юная паэтка Наталля Арсеннева ў хуткім часе па заканчэнні Віленскай беларускай гімназіі разам з сям'ёй апынулася ў заходнебеларускім горадзе Слоніме, дзе мела найгалоўны жаночы клопат — гадавала дзіцятка. «У невялікім пакойчыку на ўскраіне Слоніма, над спавітаю ў сцюдзёныя туманы Шчараю, я спяваю ўжо калыханку свайму першаму дзіцяці, чарнавокаму Яраславу» [11, с. 209], — успамінала паэтка праз вялізную адлегласць ад таго і ў прасторы, і ў часе.

Жыць тут, у вайсковым польскамоўным асяроддзі, Наталлі Арсенневай, на той час ужо свядомай беларусцы, было няпроста. Адзіным блізкім чалавекам у Слоніме стаў для сям'і Кушаляў паэт Гальяш Леўчык.

Вершаў тады нарадзілася няшмат. Усяго пад чатырма творамі пазначана — Слонім. Адзін з іх — светлая матуліна песня, калыханка. Спеўны фальклорны матыў-паўтор «люлі-люлі», гукапісны малюнак, адшліфаваны рытмічны лад побач з пачуццём вялікай мацярынскай любасці і пяшчоты робяць гэты верш надзвычай меладычным. Далікатнасць, пяшчота і цеплыня аўтарскай інтанацыі, што падкрэсліваецца словамі з памяншальна-ласкальным адценнем, пераплятаюцца з надзвычай яркай, узнёслай, казкавай вобразнасцю, калі вобраз маці ўздымаецца да вобліку добрай феі, якая суцяшае, чаруе, творыць незвычайны цуд.

Здаецца, бачу яе, такую маладую, прыгожую матулю Наталлю, што схілілася над калыскай:

Восеняй на ўскраіне Слоніма
ў якімсьці дамку драўляным
спявала матуля песню
свайму сыночку каханаму:
*«Ноч рассыпала зораў агні,*
*Ў сінім небе яны патанулі.*
*Вее сон над прасторам зямлі.*
*Люлі, люлі, сыночак мой, люлі».*

Гэтак хораша чаравала,
на галоўку вяночак сплятала
з самых светлых, пяшчотных слоў,
з пажаданнем шчаслівых сноў:

*«З гэтых зорных чырвоных агнёў*
*я спляту прамяністы вяночак.*
*Над галоўкай павешу тваёй,*
*люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак».*

І плыла над вячорнім Слонімам
песня-мара матулі Наталлі,
што нізала рукой нястомнаю
з незвычайных пэрлаў каралі:

*«Тыя пэрлы-сьлязінкі зьбяру,*
*паніжу з іх пацёркаў шнурочак*
*і на шыйку завешу тваю.*
*Люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак.*
*Будзе зь імі малы засынаць,*
*ручкай пацеркі-сьлёзы кранаць».*

Ніхто не ведаў тады, што яе любы сыночак загіне ў смутную для Беларусі гадзіну на самым парозе сваёй будучыні. І магілкі па ім не застанецца. Як жа зразумелы і кранальны той матулін боль: «Не ведаю, ці ёсць на свеце гайстрэйшы боль, чымся хаваць сваё дзіця? Думаю, што няма. Бо мінула ад таго чэрвеньскага дня ўжо блізу чвэрць стагоддзя, а боль гэты жыве ўва мне, недзе глыбака, і сяння» [11, с. 210].

Апошнім разам Наталля Арсеннева была ў Слоніме ў 1943 годзе. Перад пятай, незваротнай эміграцыяй. Што прыводзіла яе ў гэтае места на Гарадзеншчыне ў тым няпростым, смутным часе, пэўна ніхто сёння не скажа. Ёсць звесткі, што «яна прыязджала з беларускім тэатрам» [12, с. 51]. Сустракалася з паэтам Анатолем Іверсам, які пакінуў светлую згадку пра Наталлю Арсенневу. У часе той сустрэчы яна не пабаялася раскрыць перад ім самае набалелае: «Ненавіджу акупантаў, а прыходзіцца і жыць там, і гаварыць, і сустракацца… І засталася ў памяці шчырая размова. На беларускай мове, так хораша. І мацярынская яе бяда па сыну. І пра Бацькаўшчыну гаварыла, што ўся ў крыві. І што з гэтага будзе — яшчэ невядома, але пакідаць Беларусь не хочацца» [12, с. 23].

Ён быў пэўны: застанецца на сваёй зямлі. А яна ведала іншае: тут ёй заставацца нельга. І зусім не таму, што пачувалася вінаватай. Віны перад гэтым Краем, перад гэтым людам на ёй не было. Але ж у чым была вінна ў тым жахлівым для яе 1940 годзе, калі іх, сям'ю «ворага народа», саслалі ў казахстанскую ссылку?

Дзе яна жыла тады, амаль сто гадоў таму, у мілым і мне горадзе? Краязнаўца Сяргей Чыгрын сцвярджае, што на сённяшняй вуліцы Чырвонаармейскай (у тым часе — 3 Травеня), насупраць вайсковай часткі, дзе служыў яе муж Францішак Кушаль. І дом, і вайсковыя будынкі — усё гэта захавалася. Толькі ніяк не ўшанавана памяць пра паэтку, і ў музеі, дзе ёсць экспазіцыя Слонімшчыны літаратурнай, яе не згадваюць. Сяргею Чыгрыну верыць трэба, бо ніхто не ведае мінулае Слоніма так, як ён.

Шторазу, уязджаючы ў горад, згадваю: а мо па гэтай даўнішняй вуліцы шпацыравала Наталля Арсеннева з дзіцячым вазком? Мо і гэтыя сцены чулі яе пяшчотную калыханку?

«На ўскраіне Слоніма…»

## «О БЕЛАРУСЬ МАЯ, ПАЎЗ БОЛЬ ПЯКУЧЫ ГРАЦЬ ТАБЕ…»: песенны лад паэзіі Наталлі Арсеннвай

Часта ў літаратуразнаўчых артыкулах сустракаем наступную думку: «Калі б паэт пакінуў толькі гэты адзіны твор, ён ужо застаўся б знаным у нашай літаратуры». Што да Наталлі Арсенневай, аўтаркі мноства цудоўных вершаў, лібрэта операў, драмаў, перакладаў, то і ў яе спадчыне ёсць гэткі твор — верш «Малітва», больш вядомы пад назвай «Магутны Божа». Напісаны ў 1942 годзе ў Менску на замову архіепіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Філарэта, пакладзены на музыку Міколам Равенскім у 1947 годзе ў Парыжы, ён стаў

сапраўдным духоўным гімнам беларусаў, даў назву фестывалю духоўнай музыкі, што ладзіцца ў Магілёве.

Пэўна, гэта невыпадкова, што самы знакаміты верш Наталлі Арсенневай — песня, бо адной з вызначальных рысаў ейнай лірыкі ёсць музычнасць, песеннасць.

Ужо ў самых першых вершах, змешчаных у пачатку зборніка «Пад сінім небам», заўважаем надзвычайную і зместавую, і рытміка-інтанацыйную еднасць з песняй. Паэт у яе — пясняр, што мае глыбокую традыцыю ў беларускай паэзіі яшчэ з фальклору, з XIX ст. і з нашаніўскай пары. Выконваючы місію духоўнай повязі між «*злых, нявеtлых песьняў гора*» і высокім небам, пясняр уздымаецца да гэтых вышыняў, таму слова выдзелена ў асобны радок і напісана з вялікай літары:

*Дык гэт, у неба, у край бязь сьценяў,*
*ад зла, нязбыўнага ў жыцьці,*
*на белых крылах лятуценьня,*
*Пясьняр,*
*па слова-чар ляці!* [9, с. 7]

Як і ў яе «ўлюбёнага паэты» Максіма Багдановіча, усё ў лірыцы той пары перапоўнена малюнкамі і спевамі. Пра тое — у заключных радках гэтага верша:

*усё, што у думках нясьцішных пяе, —*
*вершы мае.*

Адкуль жа гэтая надзвычайная спеўнасць, музычнасць яе паэзіі? Тлумачэнне знаходзім у саміх вершах. Гэта і ад вялікай любові да песні беларускага люду, часцінкай якога паэтка назаўсёды ўсвядоміла сябе:

*Любяць людзі прыгожыя песьні,*
*любяць сумныя гукі жалейкі,*
*як пагодныя дні на прадвесьні,*
*як раздольле, як сьпеў салавейкі* [9, с. 111].

Мастацтва, песня — каб наталіць духоўную прагу чалавека. Верш «Песьні» пераклікаецца з апавяданнем «Апокрыф»



Максіма Багдановіча: «Пад песні кладуць чалавека ў калыску, і з спевамі ж апушчаюць у магілу яго… Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песня здолее спатоліць яе» [13, с. 50–51]. Гэтыя велічныя словы ўкладзены ў вусны Хрыста. Яны гучаць як вялікая ісціна, як адкрыццё і наказ: «Шануйце ж песні свае». Бо тым самым народ здолее захаваць сваю жывую душу. Гэтак жа і ў вершы Наталлі Арсенневай «Песьні»:

*Як бяз сонца не пражыць нам,*
*без начы для дня не ўскрэснуць,*
*так ня ўкорміць хлеб нас жытні,*
*да яго ня даўшы песьні.*
*Зь песьняй жыць лягчэй на сьвеце*
*нат галоднаму зь бязрадным:*
*і ў хаўтурнай — сонца сьвеціць,*
*і ў прыгоннай — плешча радасьць…* [9, с. 39]

Меладычнасць беларускай мовы, што гэтак жа стала для паэткі роднай, таксама спрыяла спеўнасці яе паэтычнага радка:

*Наша ж мова —*
*цудоўная, сьпеўная,*
*ўмее сьпелым калосьсем шумець,*
*галасіць навальніцай улеўнаю,*
*верасьнёваю медзяй зьвінець* [9, с. 112].

Наталля Арсеннева добра ведала беларускія народныя песні, выкарыстоўвала багацце вобразна-паэтычнага свету гэтай невычэрпнай крыніцы, што спрыяла паэтычнаму натхненню; радавала сэрца, напаўняла душу чароўным бальзамам: «*Хмелем родных песьняў / мы наліваем чары сэрц*» («У дажынкі»).

Зварот беларускіх музыкаў да паэзіі Наталлі Арсенневай тлумачыцца рытміка-інтанацыйнай гармоніяй, паэтычнасцю, мілагучнасцю вершаванага радка. З усіх беларускіх паэтаў-эмігрантаў у гэтым плане ёй пашанцавала найбольш. Мелодыі да яе вершаў пісалі Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Равенскі, Эльза Зубковіч. Каля 30 песняў пакладзены на музыку, многія

запісаныя на кружэлкі. Апроч таго, каля сарака песняў і арыяў сусветнай музычнай класікі ў перакладзе Наталлі Арсенневай запісаны ў выкананні вядомага ўжо сёння і ў Беларусі спевака Пётры Конюха. Яе вершы цікавыя і сучасным беларускім музыкам. Многія песні прыгожа гучаць у выкананні знакамітага Даньчыка. Гарадзенская спявачка Ірына Мамуль у сваім рэпертуары мае раманс на верш «Толькі ўчора». І ўсё ж, мусім адзначыць, што творы паэткі — гэта праўдзівы скарб, далёка не адкрыты яшчэ беларускімі кампазітарамі.

Вершы Наталлі Арсенневай, што сталі і яшчэ могуць стаць песнямі, можна з пэўнай доляй умоўнасці аднесці да створаных у народна-песеннай традыцыі, лірычных, нацыянальна-патрыятычных песняў, рамансаў.

Ва ўсе перыяды творчасці Наталля Арсеннева выкарыстоўвала такі песенны жанр, як калыханка, вытокі якога таксама ў фальклоры. Першую калыханку напісала ў 1924 годзе ў Слоніме, калі гадавала свайго першынца Яраслава. Спеўны фальклорны матыў-паўтор «люлі-люлі», гукапісны малюнак, адшліфаваны рытмічны лад побач з пачуццём вялікай мацярынскай любасці і пяшчоты робяць гэты верш надзвычай меладычным. Радкі так і просяцца на музыку:

*Ноч рассыпала зораў агні,*
*ў сінім небе яны патанулі.*
*Вее сон над прасторам зямлі.*
*Люлі, люлі, сыночак мой, люлі* [9, с. 25].

Вобраз матулі ў «Веснавой калыханцы», напісанай праз 10 гадоў, характарызуецца той жа любоўю і ласкавасцю. Заканчваецца калыханка спевам-пажаданнем, які ўвабраў мацярынскую надзею на шчаслівы лёс дзіцятка. Сон — як сыход у іншую, лепшую, дабрэйшую ўяўнасць, што жывіць сілай, адводзіць нягоды, спраўджвае мары. Эпітэты, сінтаксічная анафара, светла-ўзнёслая інтанацыя робяць гэты твор адметным, дасканалым:

*Сны хай сьняцца гожыя*
*табе, крыўды латаюць…*



*Сонечна-гульлівыя*
*сны — дзе ўсе прыгожыя,*
*сны — дзе ўсе багатыя,*
*сны — дзе ўсе шчасьлівыя!* [9, с. 64]

І ўрэшце ў Слуцкай аповесці «Косы», напісанай праз некалькі дзесяцігоддзяў, з прысвячэннем «Беларускай маці» лейтматывам гучыць матчына калыханка як першае прачулае слова да сына, якое ўводзіць маленькага чалавека ў нязнаны пакуль свет, як промень хараства і любові. Калыханку згадвае ён і тады, калі вымушаны развітацца з маці, таму што «*жаўнерская песьня за косы дужэй*», і тады, калі на апошняй мяжы між жыццём і нябытам імкнецца выратаваць яго родны матчын воблік.

Цэлы раздзел першай кнігі напісаны на аснове народна-песеннай традыцыі. Назва яго — «Зачараваны кут». Гэта і ёсць сама Беларусь, яе зачараваныя, схаваныя часам на самае дно народнай памяці скарбы. І як у нізцы Максіма Багдановіча «У зачарованым царстве», гэтак і тут паўстаюць вобразы лесуноў, вадзянікоў, балотніцы, русалкі.

Некаторыя вершы цыклу маюць баладны змест: «Балотніца», «Лебядзінае возера», «Вяселле». Казкава-фантастычныя элементы, незвычайныя падзеі, пераўтварэнні, таямнічасць характэрны для гэтых твораў. Як слушна адзначае літаратуразнаўца Лідзія Савік, тут «раскрываюцца традыцыйныя для фальклору матывы, дзеянні, вобразы, але ў трагічнай афарбоўцы прывіднага, ірэальнага свету, праз адмоўны паралелізм у апісанні вяселля і наогул лёсу маладых» [5, с. 52].

Матыў нешчаслівага, няроўнага шлюбу ў баладзе «Вяселле», які больш нагадвае хаўтуры, калі наперадзе — не шчаслівае жыццё, а заўсёдная цемра, — усё гэта стварае змрочную, зласвесную атмасферу. Адмоўны паралелізм як асноўны мастацкі прыём праходзіць праз усю баладу:

*Ці ня вецер над грэбляй галосіць?*
*Не вярбіны ірвуць з плачам валосьсе?*
*Не, спраўляе вясельле ля млыну*
*вадзянік, бярэ з рэчкі дзяўчыну* [9, с. 37].

Выдзяленнем праз перанос слова «вадзянік» падкрэсліваецца асноўная, валадарная роля гэтага героя ў падзеях. Ён тут — гаспадар, ягонае права — права моцнага падпарадкоўваць сваёй волі іншых, не зважаючы на іх пачуцці, жаданні.

Поруч з паралелізмам выкарыстоўваецца і страфічная антытэза, якая яшчэ больш падкрэслівае непераадольную супярэчнасць, адрознае ўспрыняцце героямі іх вяселля:

*Ледзь брыла маладая, схудзелым,*
*белым тварам у цемру глядзела,*
*вусны сінія шчытна сьціскала,*
*пальцы ломячы, нешта гукала…*
*Пышны йшоў малады, насьміхаўся,*
*да свае маладой пахінаўся,*
*сам вялікі, няскладны, цыбаты,*
*з барадою зялёнай, калматай…* [9, с. 37]

У баладзе «Балотніца» пануе гэткі ж змрочны настрой, які ствараецца найперш эпітэтамі: каўтуністыя косы лазняку, чорныя хвалі, тужлівае рэха, чорная поўнач, цёмны настой, шэрая плесня. Гаспадыняй у гэтай шэра-чорнай, тужлівай прасторы — балотніца, змярцвела-халодная, няшчасная:

*Вочы балотніцы сьвецяцца трухляй*
*жутла-зялёнай, засьвецяцца — й зжухнуць,*
*косы — агню зелянкавага хваля,*
*цішкам даткнешся — і пальцы апаляць,*
*ноч ані сівер іх зьзянь не астудзіць*
*белае цела, сьцюдзёныя грудзі* [9, с. 41].

Плач-галашэнне балотніцы здольны выклікаць спачуванне, шкадаванне. Але, папярэджвае аўтарка, гэтыя пачуцці нельга пускаць у сваё сэрца, бо нельга верыць слязам той, што здольна загубіць, знішчыць, што сама ёсць сястрой, вернай служкай смерці:

*Толькі-ж ня можна ёй дацца, даць веры:*
*знадзіць, урокшы, на ўлоньне — у нерат,*
*косамі спутае, шыю ахопіць,*



*гледзячы ў вочы, задушыць, утопіць.*
*Будзе тапіць пакрысе, цаль па цалі —*
*ўзьніме, занурыць, узьніме — і ў хвалі!* [9, с. 41]

Балада «Жаўрук», у адрозненне ад згаданых вышэй твораў, поўніцца светлым, радасным настроем. Чарадзейнае пераўтварэнне хлопца-пеюна ў срэбнагалосага жаўрука адбываецца не як нейкае наканаванне, а як сапраўднае ўнебаўзяцце, узнясенне, каб пераўтварыць у песню таго, хто і тут, у зямным сваім жыцці, жыў гэтай песняй. Зорка-заранiца, дзяўчына «*зь пералётаў сініх*», сама зачараваная ягонымі спевамі, заварожвае героя незямной прыгажосцю і пяшчотай. Як найвялікшая ўхвала гэтай красы — золатападобнасць, залатаноснасць, што перадаецца праз паэтычную таўталогію:

*…І ўстае дзяўчына перад ім, з зыркою*
*залатой усьмешкай, залатой касой,*
*залатыя вочы радасьці ня ўтояць,*
*залатыя пальцы торгаюць крысо…* [9, с. 43]

З усіх твораў «Зачараванага кута» балада «Лебядзінае возера» «вылучаецца сваёй змястоўнасцю, удала выкарыстаным прыёмам паралелізму ў раскрыцці супярэчлівага свету людзей і гарманічнага свету жывой прыроды…» [5, с. 53]. Суладдзе, гармонія, што пануюць у жыцці лебядзінага царства, забяспечаны глыбокім шанаваннем маральных законаў, адсутнасцю злосці і прагі нажывы. Як найвялікшае багацце ўслаўляецца вольная волечка, што дадзена ўсяму жывому ад нараджэння:

*Жыў ён, князь, зь лябёдачкамі-жонкамі,*
*жыў ён, князь, з малымі лебядзёнкамі.*
*Ой, была-ж ім, птахам, тутка волечка*
*і ўначы і ўдзень, і самацьветам-золачкам…* [9, с. 46]

Людзі ж у сваім бездухоўным існаванні адкінулі гэты маральны закон, страцілі дабрыню, абцяжарылі свае душы ганебнымі злачынствамі, самі сябе загналі ў пастку, у залежнасць ад зямной славы і багацця. А гэта і ёсць самая вялікая няволя:

*Людзі, што-ж, як людзі… Сэрцы гэткія*
*выкавала доля ім, як з клеткі бо*
*вырвуцца — ўсіх крыўдзяць, мест спагадаю*
*сьвет заліць… Мячом жывуць ды звадаю…* [9, с. 47]

Таму і здольны чалавек узняць руку на іншых, на Божае стварэнне, нават на самога ўладара возера. Кульмінацыя твора — маналог лебядзінага князя, у якім гучыць біблейскае: не ведаюць, што твораць, чыёй смерці прагнуць:

«*Гэй людцы, людцы вы неразумныя,*
*горка мне за вас, агорклых, сумна мне…*»

І прадказанне гібелі забойцам, бо — вока за вока, кроў за кроў: «*Хто заб'е — дык сам із ь ім загіне ён / сьмерцяй гэткаю-ж, загіннай, лебядзінаю*».

Сталыя эпітэты, разнастайныя паўторы, узнёслая, напеўная рытміка — усё гэта набліжае твор да быліны. Тым болей, што тут у наяўнасці ўсе кампазіцыйныя элементы гэтага эпічнага жанру: зачын, апавядальная частка, канцоўка. У радках дакладна выдзяляюцца па тры моцныя націскі. Зазначым, што такія творы, стылізаваныя пад старажытны жанр фальклору — быліны, адзінкавыя ў беларускім пісьменстве.

У зборнік «Сягоньня» гэтак жа ўключаны вершы, што стылізаваны пад народныя песні: «Там на полі», «Ткальля», «Спарышы», «У дажынкі». Усе яны напоўнены рэаліямі ваеннага часу, які па-свойму, недарэчна, перайначыў заведзены спрадвеку парадак чалавечага існавання. На сялянскай ніве кіпіць іншая праца: «*Ўздоўж і ўшыр знарады барануюць ніву, / танкі прыбіваюць, баразьняць — штыхі*» (Там на полі) [9, с. 83].

Лірычная дзявочая споведзь-спадзяванне на шчасце, што чакаецца і ў ліхую гадзіну вайны, — у вершах «Ткальля» і «Спарышы».

Эпіграф да верша «У дажынкі» — радок з народнай песні «*А ў нас сяньня дажыначкі*». У традыцыйную форму паэтка ўкладвае новы змест. Размова ідзе пра мастацкую творчасць, пра мастака, чый лёс — «*перасяваць на сіце зоры / на дажынковы каравай*».



Традыцыйныя для народных песняў звароты да прыродных стыхіяў поўняцца ў гэтых вершах новым, трагедыйным сэнсам:

*Пахадзіў бы, вецер, ты валей па полі,*
*назьбіраў бы ягад сакавітых болей, —*
*поўныя далоні людскае крыві* [9, с. 83].

Беларускія народныя мелодыі былі для Наталлі Арсенневай на чужыне той повяззю, што лучыла яе з Радзімай. Танцавальныя рытмы іскрыстай весялосцю «Лявоніхі» гучаць у аднайменным вершы, што быў напісаны ў 1945 г. у Нямеччыне, у Рэгенсбургу, дзе паэтка працавала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці. І ў далёкай Амерыцы яна гэтак жа часта звяртаецца да фальклору. Так, да кожнага верша з цыклу «Аджытае», што падзагалоўкам мае — «Марыльчын год», падабраны эпіграфы з беларускіх народных песняў. У згаданай ужо Слуцкай аповесці «Косы» таксама скарыстаны фальклорныя матывы, вобразы, урыўкі з лірычных, ваяцкіх песняў.

Вершы, якія маглі б стаць лірычнымі песнямі, больш характэрныя для першага перыяду творчасці паэткі: «Май», «Люблю я сонца залатое», «Ішла вясна», «Васількі», «Пралескі» і інш. Усім ім уласцівы надзвычай меладычны, спеўны рытм, шчырасць пачуццяў, выразнасць гукапісу:

*Люблю я сонца залатое,*
*люблю прыгожаю вясной,*
*калі ўсё новае, сьвятое*
*сьмяецца радасна са мной* [9, с. 18].

Надзвычай шмат у Наталлі Арсенневай вершаў, якія, пакладзеныя на музыку, гучаць як класічныя рамансы: «Толькі ўчора», «Мроя», «Знае сэрца», «Вясновы вечар». Гэта «камерны музычна-паэтычны твор для голасу з інструментальным суправаджэннем» [14, с. 44], у якім нияркія, пастэльныя колеры-тоны падкрэсліваюць знешнюю стрыманасць выказвання, за чым хаваецца глыбокае, палымянае пачуццё, страснасць. Сапраўды, ёсць рацыя ў тым, што «правесці мяжу паміж уласна песняй і

рамансам наўрад ці мажліва. Хутчэй за ўсё гаворка можа ісці пра спецыфічны пераходны варыянт песня-раманс, якім і вызначаюцца найбольш складаныя ў выяўленні лірычнага пачатку творы» [14, с. 44]. Рамансу характэрны большая ўзвышанасць, высакароднасць, шляхетнасць гучання. Усё гэта знаходзім у вершах: «Восень у Вільні», «Сыплюцца з клёнаў лісты», «Шчасьце», «Разьвітаньне», «Вячэрнаю парою», «Лес шумеў» і інш., якія маглі б стаць прыгожымі рамансамі.

Светлы сум, што далікатна ахінае гераіню, што схіляе яе да журботнага роздуму пра спрадвечную бясконцасць прыходу-сыходу цяпла і прыгажосці, дня і ночы, выліваецца праз мяккую, пяшчотную мелодыю:

*Тонкай мглой абвязаліся сінія далі,*
*сінія-сінія далі на ўзмежжы нябёс.*
*Па жытох расплыліся вятраныя хвалі,*
*ветру плаўныя хвалі, што вечар прынёс…*

(Разьвітаньне) [9, с. 27]

Паэтка выкарыстоўвае тут такі складаны від паэтычнага паўтору, як эпанастрафа або стык, калі наступны радок, быццам рэха, падхоплівае вымаўленае вышэй. Падваенне словаў, словазлучэнняў, а ўслед — пачуццяў, дапамагае перанесціся са свету жыцця прыроды ў свет чалавечага існавання, дзе штодзённыя страты вядуць урэшце да галоўнага развітання — з жыццём:

*Разьвітаньне з жыцьцём, разьвітаньне навекі,*
*разьвітаньне навекі з жыцьцёвай маной,*
*калі чорная ноч моцна сьцісьне павекі,*
*моцна сьцісьне павекі над сьцерплай зямлёй…* [9, с. 27]

Часам сустракаем даволі рэдкае спалучэнне высокага рамансавага гучання твора і фальклорнай вобразнасці: «У задушкі», «Восень выходзіць у поле…», «Прызабытае».

Магчыма, пададуцца выпадковымі ў творчасці васямнаццаці-дваццацігадовай паэткі матывы смутныя, пахавальныя. Яны сустракаюцца ў многіх вершах, сведчаць пра надзвычайную



засяроджанасць юнай асобы, сур'ёзнасць, здольнасць заглыбляцца ў адвечнае, таямнічае.

Лірычныя песні, рамансы, стылізаваныя пад фальклор песенныя творы часцей сустракаем у лірыцы 20–30-х гадоў. Песні ж патрыятычнага, гімнавага гучання — у перыяд зборніка «Сягоньня». Гэтыя творы і з'яўляюцца найбольш вядомымі сярод беларускай эмігранцкай моладзі: «Песьня каліноўцаў», «Прысяга», «У гушчарах» і інш.

Вобраз Кастуся Каліноўскага, што не надта быў шанаваны ў БССР у 30-я гады, пачынаючы з ваеннага часу ізноў быў вернуты ў беларускую літаратуру (згадаем творы Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Уладзіміра Караткевіча і інш.) як сімвал нацыянальнага героя — змагара за волю. У гэтым шэрагу, на жаль, ніколі не згадваецца цудоўная «Песьня каліноўцаў» Наталлі Арсенневай, якою распачынаецца цэлы шэраг яе патрыятычных вершаў, што былі пакладзены на музыку. Не пададзены гэты твор і ў артыкуле «Кастусь Каліноўскі» біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі». А між тым, гэты твор быў смелым выпадам супраць усіх акупантаў, што спрадвеку дратавалі землі Беларусі: «*…Плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня дзіва, / што канае народ твой і ты, Беларусь*!» [9, с. 103]. Тут упершыню ў яе паэзіі было сказана магутнае «годзе!» ўсім ворагам наогул і тым, якія ў той час акупавалі наш Край. Пазней гэта яшчэ больш жорстка і выразна будзе прамоўлена ў вершы з гэткай жа назвай-нязгодай.

*Але годзе!*
*Мы ўстанем!*
*Ціхім раньнем, на ўсходзе,*
*ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару*
*і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе*
*возьмем волю сабе і табе,*
*Беларусь!*

(Песьня каліноўцаў) [9, с. 103]

Лідзія Савік адзначае, што ў вершы «выразна акрэсліўся матыў самаахвярнасці барацьбітоў за незалежнасць Бацькаўш-

чыны, як працяг традыцый Францішка Багушэвіча («Ахвяры»), Максіма Багдановіча («Зразаюць галіны таполі», «Пагоня»), Уладзіміра Жылкі («Толькі той, чый вольны дух») [5, с. 81].

Высокая ахвярнасць у імя Айчыны гучыць і ў патрыятычным вершы «У гушчарах». Шэры змрок, імгла, золак, зара — гэткая арсеннеўская, характэрная ад ранніх вершаў някідкая «прыродная» вобразнасць. Але тут яна напаўняецца новым сэнсам. Гушчары, беларускі лес заўсёды давалі прытулак тым, хто быў здольны да супраціву, хто меў непахісную веру:

*Хмараў дым над галовамі тае,*
*вецер дыхае мятай, быльлём.*
*Беларусь, Беларусь залатая,*
*За Цябе, за Цябе мы ідзём!* [9, с. 288]

Недарэмна Антон Адамовіч пісаў пра верш: «Проста свайго роду шэдэўр гэткага жанру… пік усяго папярэдняга — ці-ж запраўды не «залатога»? — шляху паэткі ад “залатой восені” ейнага першага друкаванага вершу да “Беларусі залатой” канцоўкі гэтае песьні» [8, с. XXXV].

Што да славутай «Малітвы» — то гэта не параўнаны ні з чым узвышаны зварот паэткі-патрыёткі да магутнага Бога з літаннем-надзеяй на ўваскрашэнне Краіны праз духоўны ўздым народа. Для кожнага, хто ведае гэты твор, вершаваныя радкі ўжо даўно не ўспрымаюцца зрокава. Яны гучаць велічнай мелодыяй, што здольна ўскалыхнуць нават самыя чэрствыя сэрцы:

*Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,*
*вялізных сонцаў і сэрц малых,*
*над Беларусяй ціхой і ветлай*
*рассып праменьне свае хвалы* [9, с. 115].

Як сцвярджае Антон Адамовіч, «Малітва» напісаная на просьбу некаторых царкоўных дзейнікаў, але адразу ж імі адкінутая, і толькі з часам, ужо на эміграцыі, прынятая як нацыянальна-рэлігійны гімн «Магутны Божа» [8, с. XXXV]. Чаму так здарылася? Рэлігійных дзеячаў не задаволіў менавіта нацыянальна-патрыятычны пафас верша, пра што згадвае і сама аўтарка: «Па



прычыне сваёй беларускасці і быццам бы “палітычнасці” верш не быў прыняты Сінодам як малітва». І ў артыкуле «Арсеннева Наталля» біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» няма згадкі пра гэты верш. Бібліяграфія абрываецца 1941 годам, што, бясспрэчна, ёсць поўнай недарэчнасцю.

У назвах і радках вершаў Наталлі Арсеневай часта сустракаем словы, звязаныя з музыкай, тэрміны, што вызначаюць музычныя інструменты, жанры: мелодыя, марш, скерца, андантэ. Асабліва часта — песня. Напрыклад, цудоўны верш «Песня» з прысвячэннем беларускаму спеваку Міхалу Забэйду-Суміцкаму. У гэтыя назвы як бы ўкладзена прадчуванне будучай мелодыі.

Сустракаем цікавыя артыкулы, у якіх аўтары разглядаюць музычнасць як адну з асаблівасцяў беларускай паэзіі. Але як раней, гэтак і сёння, імя Наталлі Арсенневай і іншых эмігрантаў нават і ў пераліках пакідаецца па-за ўвагай. Беларусы ўсё яшчэ не навучыліся збіраць камяні, пра што сведчыць і забарона вывучэння творчасці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва ў школе. А між тым нельга не згадзіцца з слушным сцверджаннем літаратуразнаўцы Алы Сямёнавай: «Паэты… У кожнага свой лёс, свая драма душы. У кожнага свая творчасць. Перадусім менавіта творчасцю цікавыя яны» [15, с. 4]. А ўсю сваю творчасць, якую яна сама назвала песняй, Наталля Арсеннева назаўсёды аддала Беларусі:

*І ўскласьці я хачу на струны,*
*як Баян,*
*шнур пальцаў-лебядзёў,*
*і граць,*
*і граць з жадою,*
*о Беларусь,*
*о Беларусь мая,*
*паўз боль пякучы граць*
*Табе,*
*Табою!* [9, с. 287]

Штораз набажэнства ў беларускіх грэка-каталіцкіх храмах заканчваецца спевамі «Малітвы» Наталлі Арсенневай. Верыцца,

што і сапраўды, як напісаў Міхась Скобла, «настане дзень, калі ў кожным беларускім храме, настройваючы людскія душы на высокі лад сумоўя з Богам, пачуюцца ўзнёслыя словы: "Магутны Божа, ўладар сусьветаў…" Бо вечны Бог, і спрадвечная пад ягоным апякунствам Беларусь. І гучацьме над светам увечненае Наталляй Арсенневай яшчэ адно беларускае вячыстае Слова» [16, с. 176].

## ПРАСТОРА І ЧАС У ЛІРЫЦЫ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

У паэзіі Наталля Арсеннева стварыла свой час і сваю прастору, якія здольна была вымяраць сваёю ж меркай: доўгай кужэльнай ніткай, што выходзіла з спрацаваных рук беларускай сялянкі. Бо паэзія ў яе ўяўленні — цуд, які ўздымае творцу ў бязмежжа: «*Ці ў натхнёным палёце / ён знае мяжу?*» («Слоў ня трэба шукаць»), калі ніякія рамкі-межы не скоўваюць яго, калі ён існуе і над часам, і па-за прасторай:

*Ці ж ня фікцыяй —*
*час для яго і прастора?* [9, с. 117]

Ад рэальных часу і прасторы яна толькі адштурхоўвалася, творачы новы свет, шукаючы свой шлях. Гэта асабліва відавочна, калі звярнуцца да назваў паэтычных зборнікаў, дзе адлюстраваны часава-прасторавыя паняцці, што з'яўляюцца вызначальнымі менавіта ў канкрэтныя перыяды творчасці. Праз іх можна прасачыць эвалюцыю паэтычнага мыслення Наталлі Арсенневай.

Пачатак ейнага шляху — не ад зямлі, а ад імклівага лунання над ёю — «Пад сінім небам». Сіняе неба — як бязмежнасць усёабдымнай плыні, дзе заўсёднае свята для душы, дзе адхланне, супакой, гармонія:

*У сініх неба несьмяротных*
*Бясконцым сьвятам сплывае год* [9, с. 7].



Туды, да сіняга неба, яна, юная пяснярка, і ляцела «*па слова-чар*», пакідаючы ў суровым зямным жыцці клопаты, беды, трагедыі. Здаецца, нішто не хвалявала маладую паэтку, апроч пошукаў святла, прыгажосці, гармоніі. Яе гераіня — над схваткай. Вышэй, на іншым шляху (як вызначыў Максім Танк) ці, дакладней, над шляхамі, над лёсам — пад сінім небам. І тое змаганне, якім жывуць многія і якое бачыць паэтка, усё ж засланяецца «*восені чарам*», бо паняй, гаспадыняй у яе чароўным свеце — залатая, «Жоўтая восень». (Дарэчы, гэты зборнік усё ж выйшаў асобнай кнігай, хоць многія даследчыкі сцвярджаюць адваротнае. Праўда, не ў тым часе, калі быў падрыхтаваны, а значна пазней: больш чым праз дзесяць гадоў. У 1949 г. у Заходняй Нямеччыне.) Бо не прыйшло яшчэ тое грымотнае «Сягоньня», якое закране, захопіць у свае абдымкі, многае зменіць. А пакуль: «*Для цябе сяньня / сьпеў ці змаганьне — / паза межы жыцьця адплылі*» [9, с. 77]. Асабліва выразна гэтую сваю пазіцыю «над жыццём», «над схваткай» паэтка вызначыла ў вершы «Маладым паэтам». Наталля Арсеннева не супрацьпастаўляе сябе ім, але ў яе — іншы шлях:

*Я-б хацела гарэць і змагацца, як вы,*
*разам з вамі каваць так чаканае раньне,*
*але дні мае іншыя маюць правы:*
*сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць* [9, с. 77].

Усёй істотай ейная гераіня знітавана з жоўтай восенню, у якой — незлічонае, нязмернае багацце, што не можа быць нецікавым, што не здольна не хваляваць. Таму гэты час і гэты шлях і яе, і жоўтай восені — над змаганнем:

*Нібы жоўтая восень,*
*стаю над жыцьцём*
*і гляджу на яго,*
*хоць навокал — змаганьне.*
*Мае вершы —*
*над сонным балотам трысьцё,*
*ймгла сівая асеньняга раньня…* [9, с. 77–78]

«Сягоньня» — гэта змагарны час паэткі. Ён прыйшоў, узняў яе з «наджыцця», з «надзмагання» і кінуў у самую гушчыню падзеяў. І яна павінна была вызначыць, асэнсаваць, чым ёсць гэтае сягоння для яе, паэткі, патрыёткі. Ва ўспамінах Наталля Арсеннева згадвае: «Тэрор акупантаў, паленне нашых вёскаў, нішчэнне людзей, набліжэнне фронту — усё выклікала пачуццё вусцішы. У адказ на яго і я, і ўсе вакол намагаліся працаваць і тварыць: хай будзе, што мае быць заўтра, абы сёння зрабіць як мага больш» [17, с. 495]. Ці змагла б яна адбыцца, застацца Асобай тады, калі «*кожны верш хаўтурным звонам звоніць*», калі б гэтак жа ўзнялася над жыццём, ператварыўшыся ў жоўтую восень? І яна вырашыла: сягоння і тут — гэта яе шлях, што йдзе праз кроў і боль, страты і змаганне, бо

*…паэт не матыль – у вагні*
*па-матыльлю апальваць крылы,*
*на пажарышчах плесьнець і гніць*
*ён ня будзе…*
*Паэт-жа – асілак!* [9, с. 81]

«Сягоньня» — вызначаны пакручастым жыццёвым лёсам стан беларускіх патрыётаў, што апынуліся ў няпростых варунках акупаванага немцамі Краю, дзе, аднак жа, скарыстоўвалі кожную мажлівасць дзеля беларусізацыі, бо ведалі: толькі тут і якраз сягоння дадзена было ім адраджаць Беларусь. І адсюль — радасць, што запаланіла душу, бо «*зноў спрабуе расьці Беларусь*» («Жыве Беларусь»), і разам з тым — разуменне, што ніколі чужынцы не спрыялі беларускай справе, адно тапталі нашыя святыні, таму надзея на сябе, на свае сілы:

*Што далі нам калі чужыя?*
*Ці калі, хто – наш плач усьціішыў?*
*Дось!*
*Напружым пастронкі жылаў,*
*самі злыбяды нашы скрышым!* [9, с. 121]

Тая вялікая сіла дала ёй моц не проста выжыць, выстаяць, але годна і смела кінуць у вочы акупантам: «Годзе!» Выгукнутае ад нястрымнага болю, абразы, слова-нязгода паўторанае тройчы:



*Годзе!*
*Годзе нарэшце,*
*годзе*
*чарвякамі зьвівацца, поўзаць!* [9, с. 121]

Да гэткага смелага, адкрытага выкліку акупантам наша паэзія хіба ніколі яшчэ не ўздымалася. Гэта сапраўды быў змагарны час Наталлі Арсенневай. Яе сягоння.

Прасочым, як праз розныя вершы вызначае паэтка шматзначны сэнс гэтага паняцця.

1. Час, калі творыцца (на пачатку вайны яна шчыра ў тое верыла) новая Беларусь і калі паэт павінен быў і сам браць удзел у гэтым акце-чыне, тварыць новае жыццё, пісаць Новы запавет: «*І па сабе зьгінаеш баі / старых і новых запаветаў*» («Паэт»).

2. Нягледзячы ні на што — як надзею на заўтра, як прыступку, па якой можна дайсці да Беларусі:

*Хай кон сяньня ў вочы нам хлусіць,*
*хай сьцёбае,*
*нішчыць угрунь, –*
*а будзем*
*з крыніц Беларусі*
*мы жменяю*
*чэрпаць зару!* [9, с. 113]

3. Час, калі неабходна выпрастацца, быць смелым, супрацьстаяць бядзе-навале:

*Сяньня –*
*ўсе я пазносіла-б межы,*
*сяньня –*
*ў пекла пайшла-б, як у дым!*
*Гнуць сьпіну прад бядой –*
*перажытак…* [9, с. 100]

4. Вар'іруецца вядомы купалаўскі матыў пра спрадвечную залежнасць беларускага шляху ад «сваякоў-суседзяў»: «*На зайздрасьць і злосьць усялякім суседзям, / што сяньня яшчэ – / тут нас ня ўмеюць ўгледзець!*» [9, с. 113]

5. Час няпростых пошукаў, блуканняў, разгубленасці, бо нават слова нямее перад тварам знішчэння: «*Хочацца бегчы, шукаць / нейкія словы… / Слоў гэткіх сяньня няма…*» [9, с. 87].

6. Час творчасці, бо нават «*вайна не скруціць лыкам / крылаў песьням і вясьне*» [9, с. 127].

7. Час руйнавання, горкі, трывожны, — і паэт у гэтым часе, што не мае права маўчаць: «*Ды няўжо-ж замаўчаць, / ды няўжо-ж дагарэць / над народнай бядой дробнай вязкаю словаў?..*» [9, с. 130].

8. Разуменне, што не час, калі паэта здольны пачуць людзі, але надзея, што ягонае слова-малітва дзеля ратавання свету, жыцця будзе пачута Небам: «*Мяне не пачуе, быць можа, / сяньня ніхто… / У мутной цішыні / сьвету шлі сны толькі сьветлыя, / Божа!*» [9, с. 130].

9. Роспач, туга ад таго, што «сягоньня» не прымае паэзію: «*Паэты – гэта міт*» [9, с. 137].

10. І ўслед — уступальны аптымізм (А. Адамовіч): «*Я ня тужу сягоньня па краіне. / Сягоньня – Бацькаўшчына й мы – адно*» [9, с. 137].

11. Час, калі сыны прымаюць прысягу на вернасць краіне: «*Прысягаем Табе мы сягоньня…*» [9, с. 140].

12. Час працы, час плёну, чым бы ні быў заняты, які б хлеб (для цела ці душы) ні здабываў чалавек: «*Няхай жыве упартая рука, / пяро ці плуг яна трымае сяньня*» [9, с. 151].

13. І — нават у тым часе — нельга не заўважаць красы, вясновага абуджэння: «*Мне вясна ў галаве закруціла, / я сягоньня п'яная вясной*» [9, с. 152].

Галоўны клопат — за панявечаны Край — выліўся ў «Сягоньня» ў велічнай «Малітве» — «Магутны Божа!»

Менавіта ёй, Наталлі Арсенневай, дадзена было найбольш дакладна, выразна вызначыць сутнасць таго, што панавала ў душах беларускіх паэтаў-эмігрантаў, якія воляй лёсу апынуліся на чужым беразе — «Між берагамі». Міжбярэжжа — гэта калі пад нагамі няма глебы, бо ад роднага берага адарваўся, а іншы — чым бліжэй, тым далей. Гэта калі няма магчымасці ні вярнуцца, ні вярнуць. Калі вакол толькі прывіды, што глыбока вярэдзяць душэўныя раны.



Асабліва важнае месца ў лірыцы Наталлі Арсенневай мае хранатоп прыроды. Мастацкі час раскрываецца тут надзвычай ярка, бо відавочны рух рознага маштабу: ад руху планетаў, зменаў пораў года да здольных быць успрынятымі зрокам дробных аскепачкаў прыроднага свету. Паэтка як бы прымушае час прыпыніцца, каб больш дакладна высвеціць перажытае ў ім, прымусіць імгненне застыць, каб раскрыць тонкія душэўныя зрухі. Гэтак здольна яна пачуць цішыню, якая такою толькі здаецца, бо ў ёй усё ж бесперапынна плыве час, усё да краёў насычана эмоцыяй:

*Нявымоўна глыбокая ціша*
*тчэ трывожны, дзіўны супакой.*
*Ноч і надзіць*
*і кліча*
*й калыша,*
*ноч гуляе з душою людзкой* [9, с. 64].

Надзвычай часта звяртаецца паэтка да часу змяркання, калі рух, змены асабліва бачныя: «Вячорнаю парою», «Вячорны абразок», «Увечары», «Перад ночай», «У небе палаюць чырвоныя хмары», «Сьветлы дзень дагарае над сумнай зямлёю…» і інш. Ужо ў назвах вершаў бачыцца аўтарскі адбор гэтага зменнага рэальнага часу.

У розных творах мастацкі прасторачас малюецца па-рознаму. Часам гэта няспынная плынь, што ўвасоблена ў хранатопах дарогі (сцяжыны, шляху, ракі). Часам гэты шлях абрываецца, губляецца, раздвойваецца, множыцца. Тады ўзнікае хранатоп ростаняў, раздарожжаў, міжбярэжжа. Раздзел у кнізе «Між берагамі» мае назву «На ростанях», якая ў айчыннай літаратуры асацыюецца выключна з трылогіяй Якуба Коласа. А між тым Наталля Арсеннева скарыстала яе прыблізна ў тым жа часе. У яе лірыцы за гэтай назвай — не толькі мноства шляхоў, але і балючы матыў расстання, бо творы пісаліся ў перыяд апошняй, незваротнай эміграцыі.

Глыбока філасофскі верш «Memento mori», напісаны значна раней, чым аднайменнае апавяданне Янкі Брыля, што стала

хрэстаматыйным, — гэта асэнсаванне жыцця як спрадвечнага руху ў часе і ў прасторы. Чалавечае ж жыццё — усяго толькі невялікі адрэзак у гэтым руху, ягоны час — канечны. Таму — «памятай, што памрэш». Толькі адна вечнасць мае багацце бязмежнае, нязмернае: «*Ніхто-ж, ніхто не зьмерыў вечнасьць, / не палічыў яе гадоў*!» [9, с. 129].

Часам у развагах паэткі чуецца водгук фаталізму: «*Як ні кру-ці — / жыцьцё / свой собскі мае шлях*» [9, с. 131]. У вусны мудрай, багатай на гады кабеты Наталля Арсеннева ўкладвае наступнае сцверджанне пра чалавечы лёс:

*Кон гарачы і дымны горан.*
*Хтось куе там і сьмех і жаль,*
*перакоўвае наша ўчора* [9, с. 96].

Іншым разам нязгода з вышэйшым наканаваннем выліваецца ў адчайнай спробе самастойна знайсці, выбраць свой шлях: «*Не, для мяне жыцьцё — / шуканьне выйсьця, шлях / для сілаў…*» [9, с. 132]. Чалавек мусіць несці адказнасць за падараванае яму жыццё: «*Дык трэба жыць, каб шлях свой скончыць / як мае быць …*» [9, с. 167]. Смелыя ж здольны ісці, не аглядваючыся на небяспекі, не шукаючы зручныя напрамкі: «*З жыцьцём я іду — напрасьцяк*» [9, с. 101].

Шляхі-дарогі Беларусі, беларусаў надта часта станавіліся крыжовымі. Глыбокая скруха гучыць у рытарычнай страфе-пытанні, у якой шлях да сонца (светлай будучыні, шчасця) перарываецца ростанямі, укрыжаваннямі:

*Эх, чаму-ж вясьняным вялікодным раньнем*
*не сягнуць крыламі ў сонца, як Ікар,*
*ня зыйсьці нарэшце зь вечнага растаньня,*
*з крыжавых дарогаў*
*нам з табой, наш край?* [9, с. 142]

Хранатоп ростаняў асабліва часта сустракаем у раздзеле «На ростанях». Так, у вершы «Разьвітаньне» створаны вобраз адарваных ад роднай зямлі падарожнікаў, пазбаўленых выбару, мажлівасці вярнуцца. Іх лёсам кіруе стыхійная, непрадказальная



сіла — віхор, што ўсе найвялікшыя каштоўнасці ператварае ў пыл: «*Ды ўсё сыпкім / нясталым пылам / разьмёў на ростанях віхор*» [9, с. 198].

Шматзначны сэнс уключае ў сябе і хранатоп ракі, што часам уяўляецца рухам розных складнікаў жыцця («*Імкне паводкаю рака / падзеяў, дзён…*» [9, с. 222]), знішчальнай, смертаноснай сілай, што рушыць усё на сваім шляху, як сама смерць. Аднак жа чалавек заўсёды спадзяецца на літасць: «*Мо праплыве — і не зачэпіць — / гарой сьмяротная рака?*»

З развіццём, рухам наперад заўсёды звязана будучае як надзея на лепшае, светлае: «*Зноў будзе зорна*» [9, с. 222]. Заўтра, бясспрэчна, лепшае — гэта і ёсць чаканы фінал і сэнс руху часу:

*Імкнуць, як на ветразях, шпаркія дні,*
*у лепшае заўтра*
*дарогу нам сьцеляць* [9, с. 158].

Будучае — гэта не проста тое, чаго няма ў сапраўднасці, а тое, што чалавек мае надзею ўбачыць ажыццёўленым. Наталля Арсеннева сваю будучыню заўсёды звязвала з Беларуссю, з надзеяй на яе Уваскрашэнне, на вяртанне птушак да сваіх гнёздаў. Будучыня — хай нават не існуе як дадзенасць, усё ж існуе як магчымасць. І дзесьці там, у тым заўтра, бачыцца яшчэ адзін спрадвечны сімвал людскога шчасця, самога чалавечага зямнога жыцця — дом. Дом у вершы «Малачай» будуюць дзеці. Усё тут заснавана на парадоксе: дом будуецца на руінах, з друзу:

*зьбіраючы аськепкі*
*пакрышанага шкла, каменьчыкі, вуглі,*
*малыя, што па нас*
*жыцьцё мо лепей зьлепяць —*
*дзятва будуе дом, які не спапяліць* [9, с. 221].

Бо будучае незнішчальнае. Дзіцячая гульня мае большы сэнс на гэтых руінах, чым само жыццё, бо ў ёй — надзея: будучае будзе заснавана на іншым падмурку, больш трывалым, — на дабры і справядлівасці, бо дзяцінства не падуладна злу, яно само — сімвал будучыні.

Не абышла Наталля Арсеннева і ўласцівасць часу гаіць раны, што зберагае чалавека ад большай бяды: «*Гады пасьпелі загайдаць / нат сэрца… што было — ня ўстане*» [9, с. 222].

Паэтка вызначае час, калі спрадвечнае вернецца на сваё месца, адновіцца кругабег жыцця:

*За год, за дваццаць,*
*але будуць у вагні,*
*ў пазалоце нараджацца*
*і канаць —*
*і нашы дні!* [9, с. 227]

Цыклічны рух, колазварот у лірыцы Наталлі Арсенневай сімвалізуе жыццё прыроды. Увага паэткі ў гэтым колазвароце заўсёды запыняецца на ранняй вясне, дзе пануе сіні колер: вочы пралесак, неба. Пазней, на эміграцыі, прыгажосць і чысціню вясны ўвасабляе магнолія, чыя снегавая квецень супрацьпастаўлена чорнаму, затаптанаму бруку. Незаўважна прамільгне лета, астудзіць холадам зіма. Але самай улюбёнай парой для Наталлі Арсенневай — залатая, жоўтая восень. «Паэтка восені» — гэтае вызначэнне стала замацавалася за ёю яшчэ з 30-х гадоў. Восень перастае быць часам, парой года. Гэта ўжо стан душы, калі суладдзе, знітаванасць робіць магчымым цудоўнае і зусім звычайнае ў паэзіі пераўвасабленне:

*Будуць людзі гукаць цябе проста*
*«Наталяй»,*
*а мяне клікаць «Восеняй»,*
*гэтак жа проста* [9, с. 262].

У раздзеле «На ростанях» знаходзім нізку «Аджытае», што складаецца ўсяго з чатырох вершаў: «Вясна», «Лета», «Восень», «Зіма». Гэтак паэтка перапляла гадавы прыродны цыкл і пражытае чалавекам.

Кола як кругабег чалавечага жыцця пазначана асобнымі пунктамі, прыпынкамі: «*Маленства… вёскі… восені… магільнік*» [9, с. 249]. Гэтыя чатыры знакі можна спарыць і супрацьпаставіць: маленства (вясна) — восень (сталасць), вёскі, дзе пануе жыццё, — магільнік. Чалавечае і прыроднае пераплятаюцца, падмяняюць адно другое.

Тое ж кола жыцця часам апрадмечваецца: праз вобраз ружанца, як у вершы «Ня ўмею я тужыць», дзе бясконцае паўтарэнне пакутаў — як заўсёдны прыход лістападу, які ў іншым вершы — «*крываў старац з кіем*» [9, с. 239].

Вобраз замкнутай прасторы, якая сціскаецца, душыць, — у вершы «Прывіды»: «*А ноч чорнае кола сьціскае наўкола, сьціскае, / ўсё бліжэй, і шчытней, аж зацісьне, задушыць, здаецца*» [9, с. 62]. Асабліва балюча, калі ў гэткае замкнутае кола ператвараецца жыццёвая прастора творцы: «*У цесным жыцьці, як за кратай астрожнай, / так няўдзячна, так цяжка тварыць!*» [9, с. 77].

Бясконцае сіняе неба, далеч размыкаюць кола, вырвацца з скрутку часу дапамагаюць успаміны (вядуць у мінулае), мары-летуценні (вядуць у будучае). З шэрага, будзённага здольна вывесці творчасць, мастацтва — гэта як прарыў да святла, сонца:

*Высокі, сьветлы тон пярэчыць дню пустому,*
*вядзе мяне з жыцьця па залатым праменьні,*
*і плача, хай праз сьмех, і мкнецца строма, строма,*
*зьмяніўшы ноч і дождж у сонца зігаценьне!* [9, с. 73].

Адзіноце, адчужэнню спрыяе сціснутая гарадская прастора, што скоўвае, пазбаўляе волі. Недарэмна ўрбанізаваны свет увасабляецца ў вобразах астрога, клеткі: «*у вастрозе, што завуць чамусьці горад*», «*на пляцы, на дне каменнай клеткі*» [9, с. 247]. Як папярэджанне, гучыць верш «Memento mori»: «*Загнаны ў кут, жудою нябыцьця, наш сьвет па цёмных норах*» [9, с. 127]. Чалавецтва праз сусветныя войны, катаклізмы йдзе да знішчэння. Кут, нара — гэта ўжо нават не кола, тут мінімальна абмежаваны ўсялякі рух, няма святла, надзеі.

У адным з самых вядомых вершаў Наталлі Арсенневай «Майму жыцьцю» побач сутыкаюцца два вобразы — кола і парог. Кола — сімвал чалавечага жыцця, парог — роднага краю:

*Дык дай мне роднага парогу*
*даткнуць,*
*пакуль замкнецца кола!* [9, с. 212].

М. М. Бахцін, якому належыць паняцце «хранатоп», слушна адзначае, што хранатоп парог «прасякнуты высокай эмацыянальна-каштоўнаснай інтэнсіўнасцю… ён можа спалучацца з матывам сустрэчы» [18, с. 212], які якраз і вымалёўваецца ў згаданым вершы. Гэты матыў, але на больш аптымістычнай ноце, велічна прагучаў у вершы «І сьніцца мне», напісаным у 1945 г., калі яшчэ жыла надзея на вяртанне:

*Баліць мая…*
*Блакітная, далёкая Радзіма,*
*калісь — штадзённы хлеб,*
*а сяньня — толькі сон,*
*мы вернемся, чакай,*
*хай хворымі, старымі,*
*а вернемся!*
*Так дай нам Кон!* [9, с. 182–183]

Адзін з самых паўтаральных, скразных матываў, што гэтак жа спалучае ў сабе прасторачас, — «тут — там». У раннім вершы «Летуценьні» «тут» — на мілай Беларусі, што стала роднай, «там» — ля далёкага сіняга мора, у краі гарачага сонца, шыкоўнай прыроды, дзе, аднак жа, «*сэрца маўчыць*». Змяняюцца жыццёвыя варункі, і ўжо Беларусь — «там», дзе таксама, як і «тут», у Польшчы, цвітуць васількі. Але «*там, у родных палёх, вы ня гэтак цьвілі, / гэткі сум ня імгліўся у вашых вачох*» (г. Хэлмна, 1925). Мроі адводзяць паэтку далёка ад зямнога, і ўжо «там» — у вечнасці, па-за светам, «тут» — на зямлі. І калі ў прыродзе пануе не залатая, а змрочная восень і ў душы — адпаведны настрой, то гэта таксама «тут», «сяньня». Але ж было і «там», «учора» — у мінулай шчаслівай вясне.

Асабліва скрушна гэты матыў загучаў у часе апошняй эміграцыі, калі страчаная Беларусь назаўсёды засталася «там», а «тут» — то слотная, непрытульная пасля вайны Нямеччына («Сьнежань на чужыне», «Там», «І сьніцца мне»), то далёкая Амерыка (нізка «Прывіды»). Інакш і быць не магло, бо нават «*вецер з Гудзону / сяньня нейкі зусім беларускі*!» [9, с. 270].

Шматлікія метамарфозы адбываюцца ў паэзіі Наталлі Арсенневай з прасторачасам.



• Сутыкненне ў адным радзе розных часавых пластоў, ад хуткаплынных да бязмежных, збліжэнне імгнення і вечнасці: «*Ад дзён, калі глядзелі ў сіню — / мінула вечнасьць, / не гады*» [9, с. 220].

• Перапляценне часавых і прасторавых паняццяў: «*Пройдуць спорна / гады ці шмат сьцяжын — / усё прысыпле пыл*» [9, с. 220]. І гады — увасоблены ў часе рух, і сцяжыны — сімвал руху ў прасторы — ёсць нічым перад вечнасцю.

• Паскарэнне часу, калі «падганяюцца», «прыспешваюцца» дні, тыдні:

*Дзень сяньня ўскок мінае дзень:*
*Набок! З дарогі!*
*Тыдні мчацца…* [9, с. 272]

• Апрадмечванне часу. Прадметы часцей — з свойскага, хатняга ўжытку, каб адбылося праўдзівае прыручэнне: «*Час праз пальцы йдзе ніткаю шэраю, / ніткай шэраю яго й мераю, / йрву ды блытаю*» [9, с. 71], «*За ільняную нітку даўжэй / цяпер доўгія, чорныя ночы*» [9, с. 95]. Час становіцца адчувальным на зрок, на смак: «*Дзень залаты, як мёд пчаліны*» [9, с. 263]. У цывілізаваным грамадстве, дзе пануе найперш розум, а не эмоцыі, час вымяраецца іншымі меркамі, апрадмечваецца інакш: «*Час сяньня — гэта грошы, / распусьціш — / ужо ня вернеш*» [9, с. 280].

• Шматразовае павелічэнне, калі шырыня прасторавага бачання патрабуе вялікага размаху. У вершы «Прошча» эмацыйны накал перададзены праз «апрыслоўленне», старазовае павелічэнне: «*На веча! / Статконна, / стамечна, / стамільна / йрве / зь ветрам / Пагоня / у Вільню*» [9, с. 257], праз што дасягаецца сапраўдная панарамнасць карціны.

• Вызначэнне ўсіх трох часавых пластоў праз роднасныя, аднакарэнныя словы, якія быццам вырастаюць адно з другога, як сённяшняе — з мінулага, а будучае — з усяго гэтага. Паэтка як бы гуляе словам, цешыцца багаццем беларускай мовы: «*Летась… Сёлета… Налета*» [9, с. 109].

• Увасабленне часу ў прасторавых вобразах. Творы архітэктуры ў паэзіі Наталлі Арсенневай — не застылы ў прасторы час, а рухомы, зменны. Так, прыгажосць гатычнага храма паэтка не

апісвае, ён як бы ствараецца на нашых вачах, выцягваецца ў неба рукой нябачнага майстра: «…*Каб ім завесьці ў неба сяньня / натхненна выцягнены готык*» [9, с. 66].

Наталля Арсеннева напоўніцу скарыстоўвае дзівосную здольнасць памяці вяртаць час, заглядваць у мінулае. Яе паэзія ад самай ранняй пары — спрэс успаміны. І гэта зразумела, бо «чалавек не існуе сам па сабе, у ім адлюстравана ягонае мінулае» [19, с. 205].

У вершах-успамінах ёсць пэўны момант — канкрэтны краявід, які праступае з мінулага, «урываецца» ў сучаснае (і ў час, і ў прастору), «адсоўвае» яго на задні план. Гэткая трансфармацыя часава-пpасторавых элементаў адбываецца дзякуючы глыбокай насычанасці перажытага эмацыянальным, што назаўсёды зафіксавана ў свядомасці.

Апроч шматлікіх, параскіданых па розных творах вобразаў-успамінаў у позняй лірыцы Наталлі Арсенневай ёсць цэлая нізка вершаў, аб'яднаных характэрнай назвай — «Прывіды», эпіграфам да якога аўтарка абрала заключнае чатырохрадкоўе з вядомага Купалавага верша «О так! Я — пралетар!» Асабліва адпаведны тут апошні радок: «*Мне сьняцца сны аб Беларусі!*» Уваскрашоная на чужыне ў прывідах Беларусь — вось чым ёсць гэтая нізка, таму што паэтка якраз і здольна была «ўспрымаць напаўненне прасторы не як нерухомы фон і аднойчы і назаўсёды прапанаваную дадзенасць» [19, с. 205], а як грунт, штуршок, падказку дзеля стварэння іншай прасторы, не новай — абуджанай праз успамін.

У зачынным вершы «Заміж прадмовы» — скарынаўскі матыў птушкаў і гнёздаў, выраю і вяртання. Але гнёзды рэальныя, звітыя тут, на чужыне, у выраі, яны, заблуканыя птушкі, марацъ змяніць на іншае — «сусьвет прынад». Аж цэлым сусветам, бясконцасцю (гэтак здольна паэтка расшырыць мастацкую прастору) ёсць для яе ўсяго толькі «*мяжа ў траве / й паснулая над ёй бабулька-йгрушка, / якой маленства наша давялося гушкаць*». Паэтка не толькі супастаўляе розныя часава-прасторавыя пласты, але і перастаўляе іх, мяняе месцамі, далёкае робіць блізкім і наадварот. І ўсё гэта — з пэўнай, дакладна акрэсленай у прадмове мэтай:



*…а гэта ж Бацькаўшчыну мы адно шукаем*
*у зьмерклай далечы, ў расьцьвілай блізіні…* [9, с. 257].

Успаміны ўзнікаюць, уздымаюць прывіды дзякуючы здольнасці супастаўляць, адхінаць завесу памяці, здымаць шалупінне, каб дайсці да жаданых прынадаў. Неабходны толькі нейкі невялікі штуршок-штрых (падабенства ў знешнім абліччы, водар, гук, колер), каб ураз змеркла далёкае сэрцу і расцвіло блізкае яму. За воблікам белай вежы — бяроза. І малітоўны настрой узнікае ў душы не ад сузірання муроў храма, не ад узнятага ў неба крыжа, а ад той светласці, велічнасці, якую выклікаў прывід бярозы:

*І хіляцца калены…*
*Не перад ёй, ня гэтай —*
*прад гэткаю-ж, за сьветам*
*падзетай… недзе ўчора…* [9, с. 258]

Ці — не чаканы ў гэтым далёкім ад Беларусі горадзе завулак-адростак, якіх гэтак шмат у старой Вільні. Здзіўленне: адкуль? Гукавыя асацыяцыі, калі кожны крок «б'е у бубен», б'е ў сэрца, будзіць успаміны. А рэха, што жыве тут, у гэтым заблуканым здалёку завулку, і ёсць прывідам, перазовам з мінулым, якое заўсёды гатовае адгукнуцца на шчыры парыў, вярнуцца ў пачатак і вынесці адтуль тое, ад чаго заходзіцца сэрца:

*…рэха, гэткае-ж рэха старэчае чула*
*я, малая, із коскай*
*радзенькаю,*
*мулкай,*
*прабягаючы вулкаю*
*Росай* [9, с. 258].

Гэткім жа заблуканым у чужыну госцем — дамок дзераўляны, пад гонтай. Якім жа адзінокім ён тут, між каменных небасягаўгаспадароў, што, як бор, «пнуцца» ўвысь. Без усялякіх прэтэнзіяў на тое, каб не адстаць, не згубіцца між каменных глыбаў, — ён дарагі менавіта такім, бо ўжо бачаны калісь, зафіксаваны ў памяці. Вернуты з мінулага, перанесены з далёкага, абуджае цэлы шквал эмоцый:

*А мне — зноў няма мне спакою:*
*я знала калісь на Панарах*
*дамок гэткі,*
*з гэткай страхою* [9, с. 259].

Вясновы абразок, у якім адзнакі гарадской цывілізацыі асацыююцца з воблікам беларускай вясковай старасвеччыны, яшчэ раз падкрэслівае, што Наталля Арсеннева, руская па нацыянальнасці, гэтак хораша і назаўсёды натуралізавалася «ў беларушчыне — у Беларусі, у краі сялянскім… “Асяляненьне” паэтычнае вобразнасьці й мовы» [8, с. XVII] перададзена ў гэтым абразку праз прадметны свет народнага майстэрства — прадзіва-ткацтва, якое засвоена гераіняй, запала ў сэрца праўдзівай музыкай:

*Расьцягнула сонца кужаль залацісты*
*паміж струнамі антэнаў пруткіх.*
*Быццам кросны ў хаце ў Чэцьвер Чысты,*
*зігацяць яны і ўтокам і асновай,*
*то зьвіняць цымбаламі, то дудкай,*
*маё сэрца, як чаўнок вясёлы, ловяць…* [9, с. 259]

Абразок «Готык» — прадказальны, бо ўсім, хто хоць крыху знаёмы з Вільняй ці літаратурай пра яе, вядомы ейны цуд — касцёл Святой Ганны. І пэўна ж, сустрэты на чужыне гатычны храм павінен уваскрасіць да жыцця віленскую святыню. Нагнятанне эпітэтаў, дзякуючы чаму асабліва выразна адлюстравана веліч святыні, прага вышыні, каб сягнуць да высокага неба, геніяльнасць чалавека-творцы, што ўзвёў гэты цуд, выбухаюць праз адну (зразумела, клічную) інтанацыю:

*Готык непераможны!*
*Готык імклівы, вечны!*
*Наквецць грамнічнай сьвечкі!* [9, с. 260]

Паэтычная градацыя, калі экспрэсія ўзмацняецца за кошт нагнятання эпітэтаў, выкарыстання паўтораў, ляжыць у аснове кампазіцыі ўсяго верша. Узнёслы да неба храм — гэта «*веры прамень над няверою, / гвалтам, / пагардай, / пакорай!*»



Сустрэча з гэтак падобнай да касцёла Ганны святыняй не проста абуджае ўспамін-прывід, а раніць надзвычай глыбока, бо тое — далёкае, роднае — страчанае назаўсёды. Радковы перанос, вылучэнне словаў у асобныя радкі — гэтыя прыёмы паэтычнага сінтаксісу ствараюць эмацыйную напружанасць, спрыяюць надзвычайнай выразнасці, яркасці выказвання:

*Стрэла цябе я, аздобнае*
*дзіва — й адкрылася рана:*
*сёстры вы,*
*сёстры вы родныя*
*з краскай*
*зыркой —*
*Сьвятой*
*Ганнай* [9, с. 260].

Своеасаблівa, балюча, абвострана перажываюцца і пераасэнсоўваюцца прасторавыя вобразы — гэта назіраем і ў вершы «Узьбярэжжа». Мора, жывое, бясконцае, зменлівае штодзень («*сяньня — сьцяла яго цяжкая зьнямога, / заўтра — ськіве стому, / разгарыцца*»), увасоблена ў вобраз асілка, што траціць сваю моц у заўсёдным, бесперапынным змаганні. Гэтая яркая карціна вабіць, але гераіня ўспрымае яе з пэўнай доляй адстароненасці. Сапраўднае ж хваляванне, узрушэнне надыходзіць тады, калі з-за марской прасторы праступае іншае: «*Сінь рахманая… Зялёнае бязьмежжа…*». Атрымоўваецца, што не перажыванні чалавека змешчаны ў пэўныя прастору і час, а гэтыя апошнія як бы выплываюць з чалавечага пачуцця. Ілюзорнасць, прывіднасць падкрэсліваецца аўтаркай праз ілюзорны, ірэальны стан гераіні:

*…Мо гэта чары?*
*Дзесь шасьціць чарот, мой слых кунежыць…*
*Мне здаецца… гэта ж Нарач,*
*Нарач!* [9, с. 260]

Пачуццё, рухомае, зменнае, перададзена праз інтанацыйныя сродкі: напачатку — няўпэўненае (праз шматкроп'е), затым — яшчэ нясмела прамоўленае, як здагадка, і ўрэшце — выразнае, упэўненае, радаснае, замацаванае клічнікам.

Але ўсё гэта — мроі, сны. Прывіды. Таму заключны верш нізкі мае назву «А мне сьніцца». Зачынны злучнік **а** падкрэслівае неперарыўнасць працэсу стварэння новай, дакладней, вернутай з нябыту рэальнасці на грунце прысутнай і адначасна ўпартае нежаданне прызнаць існае, бо ўсё ж яна — там, у тым, што сніцца, што не пакідае. Час, прастора, што тут ёсць не рэальнымі, а адлюстраванымі, успрымаюцца як самастойныя ад рэальных, абноўленыя, што пачынаюць жыць сваім жыццём, у сваім руху-дзеянні пераплятаюцца з працэсам вершатварэння:

*Слуцкім пасам бяжыць, зігаціцца дарога,*
*боты б'юць па ёй дактылі, б'юць анапэсты,*
*крэсяць рыфмы да змогі…* [9, с. 261]

Асабліва скрушнае ўражанне робіць змяшчэнне ў мінулы час (ва ўспаміны) тых момантаў, што на той час былі будучым, надзеяй. Бо гэтае будучае — ужо таксама даўно мінулае, прытым надзеі не спраўдзіліся, а памяць ізноў круціць усё тую ж стужку:

*«Мы выйдзем» — граюць трубы, дзьмуць рогі…*
*Сакавік…*
*Менск…*
*Высокае Места…* [9, с. 261]

Абрыў тут — не проста паэтычны прыём, гэта як бы асобныя кадры кінахронікі, што высвечваюцца з цемры, а між імі — прагалы, правалы, бо ў будучае той шлях змагання так і не прывёў.

Дарогі — гэта сімвал руху, няспыннага, вечнага. Але ж той «слуцкі пас» — разарваны. Парадаксальнасць сітуацыі павялічвае трагізм перажытага не толькі асобай, адзінкай, а ўсёй грамадой, нацыяй. Бо зведзены на нішто Слуцкі збройны чын у нечым абарваў сам Беларускі шлях. Ірэальны стан гераіні (сон, мроя) паэтка выкарыстоўвае як адзіную магчымасць спраўдзіць няспраўджанае, па-новаму асэнсаваць тое, ад чаго пакутуе, ад чаго не здольна адмовіцца, што ў рэальным жыцці невырашальна.

Як бачым, у кожным вершы нізкі «зыходным пунктам творчага ўяўлення… служыць дакладная і цалкам канкрэтная мясцовасць» [20, с. 231]. Часцей за ўсё гэта віленскія краявіды, Менск, Нарач. Яны не ўспрымаюцца як штосьці нерэальнае, бо прывіды ёсць у гэтай мастацкай прасторы больш існымі, чым сапраўднасць. Яны як бы паўстаюць супраць цяперашняга і знішчаюць яго дзякуючы большай магчымасці эмацыянальнага ўздзеяння. Сапраўды, «час не ёсць замкнутае кола, у якое нішто не здольна сягнуць з вечнай рэальнасці, а ёсць чымсьці, што здольна размыкацца» [21, с. 401].

Усе вершы нізкі пабудаваныя па адной схеме: выхвачаны з навакольнага нейкі аб'ект — прывід, выкліканы ўспрыняццем гэтага аб'екта, — эмоцыя, народжаная прывідам. Своеасаблівая ланцуговая рэакцыя, якая пераўтварае жыццё рэчаў у жыццё душы. Але калі чытаеш гэтыя вершы, схемы не бачыш, бо кожнае пераўтварэнне — гэткае нечаканае, як адкрыццё, як успышка маланкі, што асвятляе зацемненую часам і прасторай рэальнасць.

У гэтых вершах-успамінах асабліва адчуваецца жаночы почырк, бо менавіта ў жанчыны-паэткі ёсць так багата спосабаў, каб аднавіць былое: акуратна сцерці пыл, саскрэбці накіп, падфарбаваць злінялае, падсініць пабляклае, разгладзіць зморшчынкі, зняць павуціну, адпрасаваць складкі, навесці глянец, падсаладзіць горкае, падсаліць прэснае… І гэта не ёсць нейкай метамарфозай, адно спрадвечнай прагай удасканаліць, упрыгожыць свет, каб адчуць у ім суладдзе, каб навесці масты да страчанага.

Наталля Арсеннева заўсёды тварыла свой час і сваю прастору, дзе было вольна паэтычнай думцы. У светлым часе маладосці імкнулася да сіняга неба, у гады вайны сягоння і тут малілася за Беларусь, што прагнула ўстаць з каленяў, а пазней — праз увесь час — мусіла блукаць на ростанях, між Амерыкай і Беларуссю, між Рочэстэрам і Вільняй (Ян Чыквін), між берагамі.

# ЯНА МАЛІЛАСЯ ЗА БЕЛАРУСЬ: біблейскія матывы паэзіі Наталлі Арсеневай

Далучанасць да высокіх хрысціянскіх ідэалаў, узнёслае ўслаўленне святыняў, прасветлены малітоўны настрой — гэта характэрная асаблівасць паэзіі Наталлі Арсеневай, знакамітай беларускай паэткі ХХ стагоддзя, аўтаркі духоўнага гімна-малітвы «Магутны Божа».

Ужо ў першым перыядзе яе творчасці (20–30-я гады, калі ствараліся вершы, што ўвайшлі ў паэтычныя кнігі «Пад сінім небам» і «Жоўтая восень») выразна прасочваецца скіраванасць да вечных каштоўнасцяў, імкненне да красы і гармоніі высокага сіняга неба. Ужо сама назва першай кнігі і зачынны верш «Пад сінім небам» азначае стан душы — пад покрывам нябеснага, боскага святла. Гэта своеасаблівы паэтычны вектар, куды скіраваны погляд творцы, дзе спраўджваецца цуд — незямное, узвышанае жыццё-свята, супрацьпастаўленае шэраму зямному існаванню:

*…Пад сінім небам усё іначай —*
*здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,*
*Такім нязнаным, дзіўным, узлётным,*
*жыцьцём-натхненьнем бязь сьлёз, турбот.*
*У сінях неба несьмяротных*
*Бясконцым сьвятам сплывае год* [9, с. 7].

Найвялікшым дарам Неба ўсяму жывому ўспрымала паэтка зямную красу, красу прыроды. Таму невыпадкова ў яе паэзіі гучыць шчырая малітоўная ўдзячнасць Творцу за гэты праўдзівы рай — зямлю, за шчасце, асалоду, што дае гэтая краса. Да прыкладу, фінал верша «Улетку»: «*Нясуцца да нябёс малітвай дзякаваньня / Вышэй, вышэй, вышэй…*» [22, с. 26]. У нью-ёркскім выданні гэты верш, як і многія іншыя, перапрацаваны, зменены. Так, матыў удзячнасці заменены малітоўнай просьбай: «*Імкнуць у вышыню за ўсіх, за ўсё, за сяньня / маліць, маліць, маліць…*» [9, с. 31]. Відавочна, аўтарку не задавальняла слова «дзякаваньне», тым больш з націскам на трэцім складзе, што вымушалася рыфмоўкай.



Прырода бачыцца паэтцы праўдзівым храмам, месцам малітвы і супакаення душы, дзе між вечнай, дасканалай красы адбываецца таямніца споведзі, калі адыходзяць смутак і роспач, крыўда і адчай. Асабліва вабіць лес, дзе гонкія сосны — калоны храма:

*Калі людзі пакрыўдзяць цябе,*
*калі хочацца плакаць, маліцца, —*
*ты ідзі вузкай сьцежкай у лес,*
*там так лёгка на крыўды забыцца!* [9, с. 10]

Таму невыпадкова, што там, у тым светлым хораме-лесе, пануе сапраўды незямны супакой, дзе да спакутаванай душы з’яўляецца сам Збаўца, прамаўляе вечныя, нязменныя ісціны пра ўсёдараванне і ўлівае ў душу акавіту веры, жывіцу гармоніі. Голас Бога, велічны і ўзвышаны, чутны ў шолаху лісця, у кожнай кволай былінцы. Яго слова ўказвае на асабісты прыклад, на сваю вялікую ахвяру і дараванне:

*Быццам прыйдзеш ты ў хорам дзіўны,*
*дзе няма ані сьлёз, ні маны,*
*дзе пачуеш у шэптах лісьця:*
*«Ты даруй неразумным, як я…»* [9, с. 10]

Апошні радок паўтарае словы Евангелля: «Ойча, даруй ім, бо ня ведаюць, што робяць» [Лк. 23, 24].

Улюбёнай парой для Наталлі Арсеневай былі змярканне, ноч з іх відавочнымі зменамі, з гульнёй колераў і адценняў, думак і настрояў, з неразгаданымі таямніцамі. «Вячэрні змрок, ноч для яе — гэта час роздуму аб вечных болях, аб вечных муках, час таямнічых ценяў, душэўнай тугі, але галоўнае — час ісціны, гранічнай праўды перад сабою, калі пазнаеш тайну жыцця і Бога» [5, с. 46].

Пазнанне Бога як пазнанне вялікай таямніцы гучыць лейтматывам у вершы «Шэпты ночы», у прасторы якога пануе надзвычайная сцішанасць, бо «*з душою душа гавора*». Вынікам духоўных пошукаў ёсць узыходжанне на новы шлях, што азначае новае ўспрыняцце, бачанне, разуменне сэнсу жыцця. Гэта рацыя-

нальная аснова, роздумная канва твора. Аднак жа лірычнае дзеянне скіравана ў іншую, эмацыйную прастору, якая поўніцца пачуццямі мройнымі, недасказанасцю. Верш завяршаецца тым жа пытаннем, якім і пачынаецца: «*Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?*» Кальцавая кампазіцыя тут не толькі элемент формы, але і зместу: знайсці адказы, да канца пазнаць таямніцу жыцця немагчыма. Пытанні паўстаюць зноў і зноў.

Пошукі нязведанага, імкненне разгадаць таямніцы нязменна прыводзяць да высокага, нябеснага святла, адбываецца «эстэтызацыя» душы праз судакрананне з прыгожым, вечным, калі адкідаюцца як недасканалыя, непатрэбныя, не вартыя ўвагі зямныя ўцехі:

*Не, не зямных я хацела б уцех,*
*Радасьцяў дробных празь сьлёзы і сьмех…*
*Я… я б раззорыць хацела душу* [9, с. 21].

Два вершы Наталлі Арсенневай з аднолькавай назвай «Вячорны абразок» успрыняты літаратуразнаўцай Лолай Званаровай як прысвячэнні іконе: «Зялёны, жоўты сімвалізуюць комплекс фарбаў, асабліва папулярных сярод усходнеславянскіх іканапісцаў. Невыпадкова сярод вершаў Наталлі Арсенневай сустракаем два вершы "Вячэрні абразок", прысвечаныя іконе» [23, с. 108–109]. З гэтым можна згадзіцца, калі ўлічыць, што абразок — гэта мініяцюрная ікона, маленькі абраз. Але відавочна, што паэтка мела на ўвазе хутчэй жанр, празаічную і паэтычную мініяцюру, вядомы ад нашаніўскай пары. Згадаем знакамітыя «Абразкі» Змітрака Бядулі. Што да колеравай палітры, то толькі ў першым вершы паэтка выкарыстоўвае адценне жоўтага («*і чыстым золатам заліта / ціхіх палёў далечыня*» [9, с. 29]). А ў другім нават прадмет традыцыйна жоўтага, залатога колеру зафарбаваны інакш: «*Зіркае месяц кругатвары, / зялёна-сіні*» [9, с. 72]. І ўсё ж расейская даследчыца ў пэўным сэнсе мае рацыю: ад вершаў сыходзіць той незвычайны, сцішана-роздумны, легкавейны настрой, які спрыяе малітве. Як прад абразом.

Паэтычная антытэза «нябеснае — зямное» выразна прагучала ў вершы «На матыў хаўтурнага маршу», высока ацэненага яшчэ



ў 20-я гады. Па выхадзе першай кнігі паэткі савецкі крытык Мікола Байкоў пісаў у палымянскім артыкуле: «Па глыбокай натхнёнасці жывога пачуцця смутку бязмежнага, па музычнасці і бездакорнасці рытмікі гэты верш магчыма было б назваць найлепшым вершам Арсенневай і разам з тым адным з найлепшых у беларускай паэзіі» [24, с. 92]. Меладычнасць, узнёслая малітоўнасць робяць гэты твор праўдзівай песняй, светлым развітаннем з жыццём. Тут адлюстравана не столькі імкненне ў край сценяў і нябыту, колькі да нябеснай гармоніі:

*Гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага*
*ціха ў паветры імглістым плывуць.*
*Сэрцы ад сьвету няветлага, хмурнага*
*ў сьвет неспазнаны, таёмны вядуць* [9, с. 22].

Твор уражвае тым болей, што напісаны ён быў у 1921 годзе, калі аўтарка мела ўсяго васямнаццаць гадоў.

На першым этапе творчасці Наталлі Арсенневай біблейскія матывы не прагучалі непасрэдна, яны як бы знаходзяцца ўнутры паэтычнага твора, у самім элегічна-малітоўным настроі гераіні-верніцы, калі замест слоў «гаварыць», «пісаць», «думаць», «марыць» часта выкарыстоўваюцца «маліцца», «маліць», калі сустракаем шчырыя звароты да Бога, як, да прыкладу, у вершы «Пытанне»:

*Божа! Дні мае, хіба што шчасныя,*
*Ціха сыходзяць, сплываюць удаль,*
*Па сабе пакідаючы жаль,*
*Па мінулым — тугу перадчасную,*
*Што зьвініць, быццам кропляў крышталь* [9, с. 124].

Колеравая палітра таксама непасрэдна звязана з хрысціянскімі матывамі. Так, колер Хрыста — белы — часта адлюстроўвае малітоўны настрой: «*У белай рызе рабіны стаяць*», «*Высокі белы хорам*».

Па-новаму загучалі хрысціянскія матывы ў творчасці Наталлі Арсенневай часоў вайны. Яе паэзія быццам набрыняла крыва-

вымі падзеямі трагічнага часу, увабрала тыя страшныя рэаліі і адначасна надзею на паўстанне Беларусі з попелу, з руінаў.

Першы верш новай творчай пары «Палеглым» слушна называюць праўдзівым рэквіемам па загубленых маладых жыццях. Малітоўны настрой ствараецца праз успрынящце прыроды як храма, калі ў аснове метафары — вобразныя рэаліі царкоўнага жыцця: званы, абразы, свечкі, крыжы. Верш «Палеглым» успрымаецца як развітальная імша ў прыродзе, калі кволае святло восеньскага дня саступае месца вечнай цемры:

*Пахучай сьвечкай з воску залатога*
*канае*
*над палеглымі*
*асеньні дзень…* [9, с. 82]

Матыў супрацьстаяння жыцця і смерці на зруйнаванай вайной зямлі прагучаў у многіх вершах Наталлі Арсенневай. Так, у вершы «Асенняя дарога» смерць паўстае ў вобразе крыважэрнай міфалагічнай істоты, што мае багатае жніва, дзе каласы — людскія жыцці: «*Разбадзялася сьмерць, / люба ёй зрэзваць калосьсе, / ляскаць клычком, / вылупляць ямы вачэй без павек*» [9, с. 86]. Магутная сіла жыцця, што здольна перамагчы смерць, вера ў чалавека — носьбіта жыцця, які сілай свайго духу, ахвярнасцю, веліччу ідэяў пераадольвае гібенне, знішчэнне, — гэты аптымістычны матыў завяршае верш:

*Ды не, не скасіць ёй жыцьця,*
*нат чалавека ня скосіць, —*
*ён — несьмяротны, як сьвет.*
*Сьвет ёсьць, дык ёсьць чалавек!*
*А пакуль ёсьць чалавек —*
*можна з крыві і руінаў*
*веліч ідэяў снаваць, найпрыгажэйшых за ўсё,*
*можна натхнёна гарэць за чалавецтва… і гінуць,*
*каб на руінах жыцьця зноў красавала*
*жыцьцё!* [9, с. 86]



У апошніх радках матыў уваскрасення жыцця пераплятаецца з матывам Хрыстовага ўваскрасення, што праз сваю ахвяру даў надзею на перамогу над смерцю, загінуў за чалавецтва, смерцю знішчыўшы смерць.

Няпросты лёс мастака ў часы ваеннай навалы, ягоная высакародная і адначасна вельмі адказная місія тварыць параўноўваецца паэткай з крыжовымі пакутамі, калі слова ператвараецца ў той жа цвік, якім прабіваецца душа, вярэдзяцца раны:

*Кожнае слова баліць, колець іржавым цьвіком,*
*З кожным зьнізаным радком зноў устаюць успаміны*
*Ночных пажараў, трупоў, ледзьве прыкрытых пяском*
[9, с. 86–87].

Вяршыняй духоўнай паэзіі Наталлі Арсенневай ваеннага часу ды і наогул усёй творчасці ёсць знакамітая малітва «Магутны Божа». Сёння гэта для многіх — духоўны гімн Беларусі. Вядома гісторыя стварэння верша, вядома, што ён пісаўся на замову. Але гэта якраз той шчаслівы выпадак у мастацтве, калі вялікі талент пераплаўляе творы, напісаныя з неабходнасці, у праўдзівы шэдэўр. Даследчык беларускай эміграцыі Арнольд Макмілін адзначае, што «гэтая ўзнёслая малітва са спецыфічнымі культурнымі спасылкамі (напрыклад, земляробчымі) больш нагадвае нацыянальны гімн, чым царкоўны спеў, і не ёсць тыповым вершам на выпадак…» [25, с. 121]. Духоўным гімнам твор робіць і ўзнёслы малітоўны настрой, і шчыры, палымяны зварот да Бога, і ўкладзены ў змест вялікі клопат пра лёс Бацькаўшчыны. Гэта кранальная малітва, «якая ўзвышае і аб'ядноўвае нашы душы ў адзіным узнёслым парыве — чалавечай просьбе да Бога даць "ціхой і ветлай Беларусі" шчасце на зямлі» [5, с. 85].

Вялікае свята Хрыстовага Уваскрасення адлюстравала паэтка ў вершы «Велікодным ранкам». Зачынны матыў тут — усеахопная радасць, што шырокай хваляй запаўняе свет прыроды і чалавечыя душы. Упершыню ў творчасць Наталлі Арсенневай уваходзіць запачаткаваны яшчэ нашаніўцамі матыў, звязаны з надзеяй на Адраджэнне Краю: Хрыстос уваскрос — уваскрэсне

Беларусь, якi пазней, на эмiграцыi, стане адным з галоўных мiж бiблейскiх матываў.

У глыбока патрыятычным вершы «О, родны край!» сустракаем асэнсаванне паэткай жыцця як найвялiкшай кнiгi — Бiблii, знаёмства з якой — гэта i ёсць жыццёвая плынь, рухомая, няспынная, незваротная:

*Мне вечар разгарнуў пурпурныя балоны*
*вялiзнай бiблii,*
*якую звацЬ «жыцьцём».*
*Яе лiстаю я, а сонца дыск чырвоны*
*зьбiраецца тым часам науцёк* [9, с. 149].

Вiдавочна, знаны даследчык творчасцi беларускiх эмiгрантаў Мiкола Мiшчанчук не зусiм мае рацыю, калi сцвярджае, што «пасля ж вайны, прайшоўшы праз расчараванне, перажыўшы трагедыю адрыву ад краю i страты веры ў адраджэнне нацыi, паэтка настроiлася на хвалю адычную, знайшла дарогу ў Храм, да Бога» [10, с. 25]. Яна заўсёды, з першых крокаў i ў жыццi, i ў паэзii iшла гэтай дарогай. Iншая справа, што вершаў, выразна хрысцiянскай i адначасна нацыянальна-адраджэнскай тэматыкi ў ранняй лiрыцы не было. I не магло быць, бо паэтка ў тым часе — над схваткай, у iмкненнi да чыстай красы i гармонii высокага сiняга неба:

*Нiбы жоўтая восень,*
*стаю над жыцьцём*
*i гляджу на яго,*
*хоць навокал — змаганьне* [9, с. 77–78].

У эмiгранцкi перыяд творчасцi Наталля Арсеннева вельмi часта звярталася да бiблейскiх матываў. Асаблiва калi асэнсоўвала лёс Бацькаўшчыны, яе сыноў, яе мiнулае i будучае. У вершы-звароце «Беларусi» перапрацаваны бiблейскi матыў пакарання — кiнуць каменем, калi паэтка задае пытанне: цi маюць права тыя, хто дайшоў да вяршыняў веры, для каго Беларусь — сiмвал веры, папракаць тых, хто «*верыць i ня верыць*», хто не здраднiкi, але i веры вялiкай не маюць: «*Iх лёс няласкавы, iх шлях iмглiсты й шэры. / Цi нам каменьне ў сэрцы iх шпурляць*?» Гэты ж матыў сустракаем i ў вершы «Сыны й мацi», калi пачуццё сяброўства прыносiцца ў ахвяру дзеля «*лусты тлустае*», калi вiдавочна iмкненне перакрыць шлях сябрам, кiнуўшы «*пад ногi камянi*». Ужо ў прысвячэннi да гэтага верша прагучаў бiблейскi матыў блуднага сына, перанесены паэткай на беларускую глебу, на знакамiтую старонку нашай гiсторыi: «У Слуцкiя ўгодкi нашым блудным сынам прысьвячаецца» [9, с. 238]. Абагульнены вобраз беларускiх матуляў узвышаецца да воблiку Найсвяцейшай Мацi:

*Закрыўшы вочы зрэбнай палатнiнай,*
*каторая ужо праз доўгiя вякi —*
*сумуе Мацi*
*й гэтая*
*па блудным сыне…* [9, с. 239]

Верш «Ён дайшоў» таксама гучыць як iнтэрпрэтацыя матыву вяртання блуднага сына. Але ў вершы гэтае вяртанне выклiкана не пакутамi матэрыяльнага плану, не голадам i холадам, а горкiм хлебам чужыны, хай i белым, непераадольнай настальгiяй, патрэбамi высокага духоўнага кшталту. Шлях на Радзiму пакутны i доўгi. Слушна заўважае Лола Званарова, што ў воблiку безыменнага вандроўнiка «праглядваюцца рысы гнанага Хрыста» [23, с. 107]. Адзiнокi, лiшнi, выгнаны з роднага краю, ён сапраўды трывае пакуты крыжовага шляху:

*На балi вясновым, пышным, лiшнi*
*Ён iшоў па росах, па жарсьцьве.*
*Ногi ранамi крывавымi зайрдзелi,*
*Вецер стрэчны вочы прыгасiў* [9, с. 181].

У гэтым вобразе ўвасоблены некалькi iпастасяў: Хрыстос, блудны сын, вечны вандроўнiк, выгнаннiк-беларус. Трагедыя асобы падсвечваецца, павялiчваецца трагедыяй Краю, зруйнаванага чужынцамi. Так чаканы прытулак, родны дом, што ўспрымаецца ў мроях праўдзiвым раем, паўстае змрочнай кар-

цінай разбурэння. Абрываецца надзея на вяртанне як збавенне ад пакутаў чужыны:

*…Сьвіслач…*
*Што?*
*Чорны комін… Чорнай хаты рэбры…*
*Пажарышча*
*ўжо*
*парос*
*асот* [9, с. 181].

У фінале верша вобраз ізноў узвышаецца да вобліку Хрыста, што чарговы раз завяршае свой зямны шлях непрызнаным, непрынятым:

*…Сына*
*раз яшчэ*
*праводзіла зямля.*
*Ён ішоў, нікому непатрэбны,*
*із тугой, якой ужо нічым ня змыць.*
*А ўздагон яму глядзелі вербы*
*нявідучымі, старэчымі вачмі* [9, с. 182].

Духоўная слепата, не зжытая на гэтай зямлі, дзе людзі не здольны пазнаць і прыняць сына Божага, і ёсць крыніцай знішчэння і руйнавання. І гэтая ісціна старая, як свет, і гэтак жа непахісныя ў сваёй духоўнай слепаце людзі, якія не ведаюць, што твораць.

Музычны акампанемент — покліч званоў — суправаджае рух лірычнага дзеяння ў вершы «Сьнежань». Маліто ўны матыў падсвечваецца колеравай гамай, паўсюль пануе непарушная белая чысціня: белы снег, белы вецер і «нехта белы» — Магутны Бог, перад абліччам якога роўныя ўсе, калі не ў гэтым, зямным, жыцці, то там, дзе вечны чакае спачын. Місія Хрыста выратавальная, ён імкнецца выратаваць чалавечыя душы («блакітныя») ад злога, пякельнага, згубнага. Покліч Неба, покліч званоў гучыць у поўнай цішыні, гучыць выразна, настойліва, запаўняе ўсю прастору:



*Места сьпіць… Ды ужо званьніцы*
*клічуць пышных і клічуць ніцых*
*выйсьці, вочы узьняўшы ў вышу,*
*Хай сабе не маліцца — спачыць.*
*Белы вецер нясе, калыша*
*гэты кліч… І далечам сьніцца:*
*нехта белы, найбельшы кліча*
*іх, блакітных, ад злога ўцячы* [9, с. 183].

Хрыстос жыве ў кожным, выяўляе сябе ў моманты найвышэйшага напружання, у хвіліны трагедыі. Прымае на сябе пакуты людскія. Так у вершы «Акцыя», дзе ўзнаўляюцца трагічныя падзеі знішчэння яўрэяў у гады вайны. Нельга згадзіцца з развагамі Алеся Марціновіча пра твор, калі як адкрыццё (пытальнік і клічнік у канцы сказа) падаецца наступнае: «Гэты верш вельмі ж ужо пераклікаецца з яе “Малітвай”?!» [26, с. 149]. Далей крытык прыводзіць доказы, якія якраз і адлюстроўваюць адрозненне між творамі, а не іх падабенства. А якое неахайнае цытаванне: «Там зварот да “магутнага Божа, Уладара сусветаў, вялізных сонцаў і сэрцаў малых”, “над Беларусяй ціхай і ветлай” рассыпаў “праменні Свае хвалы”, а значыць, убярог яе ад усёй пошасці, якая можа толькі быць. Тут жа з’яўленне самога Хрыста, як галоўнага маральнага суддзі» [26, с. 149]. Вершы аб’ядноўвае толькі вобраз Хрыста, а ва ўсім астатнім (і па жанравых асаблівасцях, і па форме: узнёслая малітва-гімн, палымяны зварот у адным вершы і аповед пра акцыю-знішчэнне, прапушчаны праз душу паэткі, у другім) творы цалкам адрозніваюцца. У фінале верша «Акцыя» Хрыстос з’яўляецца, каб прыняць на сябе пакуты знішчаных людзей. З’яўляецца ў вачах — люстэрку душы — расстралянага яўрэйскага хлопчыка Ёселя:

*І спад павек яго, хоць ён ня знаў Хрыста,*
*глядзеў Хрыстос з тугой нянаскаю, дзівоснай*
*на тых, каму зь пяску крывавага ня ўстаць,*
*на катаў у крыві…*
*слату…*
*і восень…* [9, с. 225]

У Нямеччыне ў першыя пасляваенныя гады беларуская эміграцыя імкнулася наладзіць нацыянальнае жыццё, найперш стварыць умовы для падрыхтоўкі юных беларусаў да будучага жыцця, даць ім належную адукацыю. Так паўстала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, у якой актыўна працавала і Наталля Арсеннева. Яе вершы, прысвечаныя беларускім гімназістам, гучаць як палымяныя заклікі верыць ў паўстанне вольнага роднага Краю. Гэта глыбока патрыятычныя вершы, што выхоўвалі пачуццё любові і адказнасці за лёс Беларусі, вучылі служыць ідэалам яе Адраджэння і на чужыне. А здраду Радзіме паэтка разумела як учынак найганебнага ва ўсе часы злачынцы — Юды. Біблейскі матыў асуджэння здрады прагучаў у вершы-звароце «Моладзі»:

*Бо няма на сьвеце злыдні больш нягоднай,*
*Чыну, вартага й праклёну і суда,*
*Чымся Юдам стацца для свайго народу,*
*Чым братоў ці здрадзіць, ці прадаць* [9, с. 186].

Паэтка не змагла завяршыць сваю творчую задуму — паэму «Зьнічы». Аднак жа фрагменты яе ўспрымаюцца як даволі цэласны мастацкі арганізм. У творы адлюстравана трагедыя Беларусі — Правечнага Зніча. Лёс краіны заўсёды раздзялялі яе дзеці, гарэлі ў пажарах, як палымяныя знічы. Напластаванне эпітэтаў, паўторы ўзмацняюць эмацыянальна-экспрэсіўнае багацце паэтычнага выказвання: «*Паланеў у неба шырока, нязгасна / велічны, / крывавы, / зыркі, зыркі / зьніч*» [9, с. 190–191]. Гэты крывавы зніч, што ўздымаецца да нябесных вышыняў, знаходзіць там водгук, спачуванне, суцяшэнне. Яскрава намаляваны вобраз крыжа, што паўстае як абаронца. А галоўнай выратавальнай сілай — «Хтось Найвышні», Магутны Бог:

*А над ім ірдзеўся золатам найшчырым,*
*Рукі разгарнуўшы, распрастаўшы — крыж.*
*І сьцішаў звуглелых Хтось Найвышні*
*з вышы:*
*— Хай зытлелі целы,*
*Дух ваш — не згарыць* [9, с. 191].



У зборніку Наталлі Арсенневай «На ростанях», які не пабачыў свет асобным выданнем, і сапраўды «дамінуе думка пра ўваскрашэнне жыцця, веры. Вяртаецца на грэшную зямлю Ісус Хрыстос, і побач з ім аказваецца Беларусь. Беларусь і Бог — яны побач, яны крочаць скалечанымі і зруйнаванымі прасторамі» [10, с. 25–26]. З біблейскіх вобразаў сустракаем тут вобраз Фамы Нявернага, што не здольны быў паверыць Слову (верш «Мой скарб»). У вершы «Прошча» таксама паўстае гэты вобраз, дзе ён сімвалізуе тых, для каго страчана вера, страчана наша найвялікшая святыня — Вострая Брама. Але магутная Пагоня, нібы вецер, няспынна ймкне да Вільні «*стаконна, стамечна, стамільна*». Наватворы Наталлі Арсенневай тут вельмі выразныя, літаральна стакроць павялічваюць эмацыйны напал паэтычнага радка.

Нашы хрысціянскія святыні-храмы часта згадваюцца паэткай. Так, у нізцы «Прывіды» ў вершы «Готык» паўстае вобраз касцёла Святой Ганны, што ў яе роднай Вільні. Паэтычныя радкі нагадваюць узвышаныя звароты акафісту:

*Готык непераможны!*
*Готык імклівы, вечны!*
*Келіх лялеі божае!*
*Наквецць грамнічнай свечкі!* [9, с. 260]

У вершы «25 Сакавік» узнаўляецца абрад святога прычасця: «*Ахвяраю крыві, / а Слова стане Целам…*» [9, с. 210].

Біблейскі матыў стварэння чалавека выкарыстаны дзеля асэнсавання працы паэта, мастака. Наканаванне таленту ў тым, каб узгадоўваць у целе чалавека душу, «*агонь распальваць боскі / у целе з гліны і пяску*» [9, с. 225], тварыць свой запавет.

У жанрава-разнастайных творах (а гэта малітоўныя споведзі, біблейскія прытчы, урачыстыя малітвы) адлюстраваны пачуцці паэткі, верніцы, хрысціянкі, патрыёткі. У многіх вершах, што прысвечаныя палеглым за Беларусь, пачуццё гонару за геройскія подзвігі змагароў пераплятаецца з матывам вечнай памяці як духоўнай даніны ад нашчадкаў («Над паўстанцкай магілай»).

Рамантычная традыцыя ўвасаблення вобразу Айчыны ў вобразе жанчыны ўваскрошана паэткай у вершы «Вы пайшлі

паміраць», дзе вобраз Маці напоўнены пазнакай святасці. Гэта ўжо не проста жанчына-маці, а вялікая Маці Збаўцы, бо і яе сыны сталі збаўцамі для сваёй Радзімы, загінулі, укрыжаваныя, кінутыя на мукі дзеля святой справы:

*… Прад табою, сьвятою, Айчына,*
*аж ты, Маці, гаркіх не сцалуеш сьлязін*
*зь вейкаў,*
*вуснаў*
*ды ранаў*
*змагальніка – сына* [9, с. 244].

Сімвал урачыстага свята Вербнай Нядзелі, якая адначасна ёсць пачаткам тыдня вялікіх трываннняў і пакутаў, — галінка вярбы, лазы. Гэты вобраз уваскрашае ў памяці паэткі-эмігранткі недасяжныя далечы, *«дзе вецер сінеў»*, дзе пануе мілая сябрына вясновых лозаў. Яны, жывыя, набрынялыя сокамі вясны, падрыхтаваныя, каб паўстаць ахвярай, аддаць сваё цела, як Ісус Хрыстос, каб смерцю сваёй аднавіць надзею на вечнае жыццё:

*…Даць ахвярнае цела*
*на нясьцерпную сьмерць, пад нажы,*
*каб у ладанах Вербнай Нядзелі*
*серабранай вярбою аджыць* [9, с. 248].

Блісне раптам між паэтычных радкоў мроя-згадка пра Чысты Чацвер, калі йдзе ачышчэнне і душаў, і целаў, каб належна сустрэць наступныя вялікія Дні пакуты і радасці. І, згадка з мінулага, з вясковага жыцця беларусаў, — кросны таксама зіхацяць *«і ўтокам і асновай»*, ствараючы настрой урачыстасці і чысціні («Увесну»).

А самыя яркія ўзоры хрысціянскай і глыбока патрыятычнай паэзіі звязаны ў Наталлі Арсенневай з вялікім святам Божага Уваскрасення. Такіх вершаў многа: «Уваскрэсьні», «Дай, Добры Кон», «Сьвята Уваскрасеньня», «Ён грацы ня сьціхне», «Радасьць», «І была там вясна…». Літаральна ў кожным з гэтых твораў сустракаем глыбокую веру ва ўваскрэсенне Беларусі, бо ўваскрос Хрыстос:



*…Ускрэсьне Край,*
*бо й Ён ускрос!*
*Мацней за сьмерць,*
*за ўсё,*
*каханьне*
*зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос…*
*Устань-жа, ўстань,*
*ускрэсьні сяньня,*
*мой Край, як уваскрос Хрыстос!* [9, с. 236]

Вылучаецца між гэтых твораў верш «Каласы», дзе паэтка ўзнаўляе падзеі, апісаныя ў заключных раздзелах Евангелля. У вершаваных радках дакладна, трапна і вельмі лаканічна адлюстраваны апошнія тры дні зямнога існавання Хрыста. Пакуты страшнага катавання — бічавання, вытрываныя Збаўцам: «*Хрыстовы плечы / бізуну не дадзела крывавіць ды ірваць*» [9, с. 284]. З адданнем Яго на смерць праз цемру і няверу людскіх душаў пачынаецца новы час. Гэта новы, страшны дзень, разбуджаны трайнымі спевамі пеўня, гэта дзень невідучых і неразумных патрабуе сотнямі дзікіх галасоў літасці для разбойніка, а Ягонага ўкрыжавання: *«Так устаў новы дзень, захлынаўся: / «Вараву!»* [9, с. 284]. Псіхалагічна тонка перададзены паводзіны Пілата, які не мае сілаў, каб данесці дзікаму натоўпу праўду, каб адхіліць праліццё нявіннай крыві:

*Прыглядаўся, як пільна мые рукі Пілат,*
*і лічыў – і зьбіваўся – град кропляў крывавых*
*на Сьвяцейшым Чале,*
*і адводзіў пагляд…* [9, с. 284]

Укрыжаванне — кульмінацыя пакутаў. Тут самыя значныя вобразы крыжа і каменя. Камень — сімвал маўчання — душыць, не дае праз крык вырвацца з грудзей нясцерпнаму болю. Здаецца, трыванне гэтае бясконца. Ратуе смерць. Прытулак зняможанаму целу дае камень, што часова становіцца Ягонай магілай. Паэтка не згадвае біблейскага Язэпа з Арымафеі, які хавае Хрыста. Бо гэта людскі страх пра здзейсненае хавае Святло за каменнай мяжою. Таму і надыходзіць часіна цемры.

У Евангеллі цемра паўстае перад смерцю Хрыста на крыжы: «А на шостай гадзіне настала цемра па ўсёй зямлі аж да гадзіны дзявятай» [Мк. 16, 33]. У вершы ж падзеі разгортваюцца згодна з наступнай логікай: страх, што ляжыць каменем на душах, хавае Цела-Святло, таму следам надыходзіць змрок:

*У каменьні сівым*
*супачыла слабое,*
*бяз крывінкі, слухмянае Цела,*
*камень*
*да яго прыгарнула вялізарны*
*боязь,*
*сьвет прыгас, прыцямнеў…* [9, с. 284]

Але новы дзень, сімвал ўсёпераможнага Святла, абавязкова прыходзіць пасля цемры, расцвітае вясновай радасцю, зыркімі праскамі: «*Ён расьцьвіў / весьні, водырны, чысты, / серабрыстай лялеяй у пырсках расы*» [9, с. 284]. Уваскрэсенне Хрыста — гэта перадумова ўваскрасення жыцця, гэта перамога жыцця над смерцю, гэта пачатак новага Дня:

*Дзень ускрос,*
*як Хрыстос,*
*што Рукою Прачыстай,*
*ідучы, блясляўляў*
*у палёх каласы…* [9, с. 284]

Вось тут і паўстае вобраз каласоў, што даў назву ўсяму вершу. Паэтка падводзіць да высновы: усе вялікія пакуты былі вытрыманы дзеля людзей, каб вярнуць ім надзею, каб аддаць сваё Цела, што стане хлебам для людскіх душаў. Матчына блаславенне «*ў кажнай дарозе*»-жыцці завяршае верш.

Наталля Арсеннева заўсёды жыла тым, што адбывалася на яе Бацькаўшчыне. Адгукнулася яна і на нашу вялікую бяду — Чарнобыль. Верш з гэткай назвай — адзін з яе апошніх паэтычных твораў — упершыню быў прачытаны на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай 60-годдзю газеты «Літаратура і мастацтва» Пятром



Краўчанкам, які наведаў паэтку ў часе сваёй паездкі ў Амерыку. Верш заканчваецца прачулай малітвай, зваротам да Бога, каб адвёў пакуты ад нашай будучыні — дзяцей:

*Божа! Божа!*
*Адзіны ў сусьвеце,*
*што ўсё знае, ўсё можа,*
*зрабі ж,*
*каб за нас не пакутвалі дзеці,*
*не яны каб,*
*а мы несьлі крыж!* [27, с. 2]

Паслядоўнае адстойванне хрысціянскіх ідэалаў было характэрна Наталлі Арсенневай на працягу ўсёй яе творчасці. У даследаванні Міколы Мішчанчука знаходзім цалкам бясспрэчную выснову што да ўспрыняцця веры, Бога паэткай: «Хрыстос пачуваўся ў сабе самой» [10, с. 27]. Але нельга згадзіцца, што гэта мае дачыненне толькі да пэўнага этапу яе творчасці. Хрыстос пачуваўся ў яе душы заўсёды. І ў творчасці таксама, ад самых першых твораў да апошніх.

## КОЛЕРАВАЯ ПАЛІТРА ЛІРЫКІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ 20–30-Х ГАДОЎ

Паэзія Наталлі Арсенневай 20–30-х гадоў — гэта праўдзівае мора красы і светласці, дзе асацыятыўныя хвалі набягаюць, змяняюць адна другую праз змены настрояў, пачуццяў, што вельмі часта передаецца праз змены колераў, фарбаў, малюнкаў. Жывапісны пачатак яе паэзіі магутны: гэта сапраўды «захварбаваныя» вершы.

Паэзія і жывапіс у аснове сваёй, бясспрэчна, маюць шмат агульнага, бо і ў адным, і ў другім відзе мастацтва галоўнае не проста адлюстраванне, колькі адухаўленне вакольнага свету. «І ў пейзажным жывапісе, як і ў лірыцы прыроды (у паэзіі), адлюстроўваюцца імгненныя станы, адценні інтымнага пачуцця, паэ-

тычнага настрою» [28, с. 146]. У паэзіі творца, малюючы словам, непасрэдна выкарыстоўвае і выяўленчыя магчымасці колеру.

Колеравая палітра лірыкі Наталлі Арсенневай уражвае не столькі багаццем і разнастайнасцю, колькі адчуваннем высакароднай гармоніі колеру, адметнасцю калярыту — колеравай пабудовы — паэтычнага вобраза. Часцей яе вершы нешматколерныя, вытрыманыя ў блізкіх, роднасных колерах, у адной колеравай гаме. Таму магчыма гаварыць пра калярызм яе паэзіі — тонкую нюансіроўку тонаў у межах зблiжанай колеравай гамы.

Самы ўлюбёны колер ранняй лірыкі Наталлі Арсенневай — сіні. Як і ў Максіма Багдановіча. Недарэмна ж назва першай кнігі «захварбавана» гэтым колерам — «Пад сінім небам». Выявы сіняга і ягоныя пералівы знаходзіць паэтка і ў нябеснай высі, і ў зямных, прыродных вобліках, і ў чалавечых пачуццях: *сіняе* неба, *сінія* далі, *сіняе* мора, *сіні* змрок, *сінія* кветкі, *сіняя* сцень, *сіняя* палоска бору, *сіняя* туга, *сіняя* вада, *сіняе* бязмежжа, *сіняя* хустка змяркання, нябеснае *сіняе* поле, *сіні* туман, *сінія* пальцы елак, *сіняе* палатно нябёс, *сіні* змрок, *сіні* дым, *блакітнае* мора, *блакітныя* палосы нябёс, *цёмна-сінія* фіялкі, *сіняй* хваляй клубяцца туманы, *сіняватыя* сцені, імгла *сіняватых* палетак.

Гэты колер наблiжае да святла і чысціні, узмацняе адчуванне далікатнай пяшчоты, зачароўвае хараством, суцяшае, лечыць. Згадаем гісторыю пра Блакітны горад, расказаную рускім мастаком-падарожнікам К. Пятровым-Водкіным [29, с. 496].

Зачынны верш першага зборніка, як і ў выключна ўсіх кнігах Наталлі Арсенневай, мае тую ж назву — «Пад сінім небам». Ян Чыквін адзначае, што паэтка ўзяла гэтую назву «насуперак склаўшайся літаратурнай традыцыі даваць загалоўкі зборнікам цалкам бязрадасныя» [7, с. 45]. З гэтым нельга згадзіцца. Хіба назвы вяршынных паэтычных кнігаў — «Вянок», «Шляхам жыцця» — Максіма Багдановіча і Янкі Купалы цалкам бязрадасныя? Гэтак як і традыцыйныя адбагушэвічаўскія — «Скрыпка беларуская» Цёткі ці «Жалейка» і «Гусляр» Янкі Купалы? Згадаем і кнігу Змітрака Бядулі «Пад родным небам». Сіняе неба — гэта Храм, дзе пануюць светласць і краса, летуценні, натхненне, бясконцасць і несмяротнасць. Традыцыйна гэты колер лічыцца



халодным, але паэтка якраз і насычае яго здольнасцю лячыць стомленыя душы. Колеравую палітру складаюць усяго тры блізкія па светлавой гаме колеры: *сіні* (сіняе неба), *шэры* (шэрая зямля), *белы* (белыя крылы летуценняў). Неба — крыніца святла, радасці, натхнення:

> *Пад сінім небам усё іначай —*
> *здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,*
> *такім нязнаным, дзіўным, узьлётным,*
> *жыцьцём-натхненнем бязь сьлёз, турбот.*
> *У сініх неба нясьмяротных*
> *бясконцым сьвятам сплывае год* [9, с. 7].

Зямное, нявечнае, недасканалае — шэрае — супрацьпастаўлена высокаму, значнаму, прыгожаму — сіняму. А вырвацца з шэрай будзённасці, ад зморы, зла і няветласці дапамагаюць белыя крылы. Сапраўды, белая фарба тут, як і ў жывапісе, «з'яўляецца выратавальніцай, што аддзяляе адну форму ад другой» [29, с. 501] — зямное гібенне і нябеснае ўзвышэнне.

У Наталлі Арсенневай сустракаем сапраўдныя «сінія» вершы, пабудаваныя на выяўленчых магчымасцях гэтага колеру і яго пералiваў. Узнікае ўражанне, што гэтай бясконцай сіняве цесна ў рамках паэтычнага радка. Адсюль — шматлікія паўторы як імкненне расшырыць межы, насыціць сваім святлом усё навокал, дасягнуць бясконцасці і вышыні, і глыбіні: «*Неба сіняе, сіняе, сіняе… / Ані межаў у ім, ані дна*» [9, с. 27], «*Тонкай мглой, абвязаліся сінія далі, / сінія-сінія далі на ўзьмежжы нябёс*» [9, с. 27], «*Сіняе, сіняе неба бясконца, / шчыра вясёлае, яснае сонца…*» [9, с. 27].

Часам адзін і той жа колер паэтка напаўняе розным зместам, бо ён выклікае розныя пачуцці. Так, у вершы «Летуценні» сіні ўспрымаецца традыцыйна — халодным. І зусім не таму, што паўдзённае неба ці мора насамрэч халодныя, а таму, што яны не саграваюць душу, не будзяць пачуццяў: «*Тамака сэрца маўчыць*» [9, с. 9].

Поруч з сінім найчасцей ужывае Наталля Арсеннева залаты, жоўты колер. Залаты — гэта сама дасканаласць, багацце, краса: *золата* кос, *залатое* святло, *залатая* восень, цэркваў *залатыя* гало-

вы, *залатая* хваля сонца, сонца *залатое*, *залатыя* краскі, *залаты* цвет, *залатыя* клёны, *жоўтыя* бярозы, *залатая* нітка сонца, *залатыя* жыты, *жоўтая* восень, *жоўты* лог, *залатыя* галіны кляноў, настольнікам, *золатам* тканым, пасlаліся жытнія нівы, міргаюць свечкі *жоўтым* ззяннем, *залатыя* расніцы, *жоўтай* пенай аслізлых лістоў, вільготная *жоўтая* мгла, *жоўтыя* пожні, *залатая* пушча, *залатыя* песні. Відавочна, тут маем справу з «метафарычнай калярыстыкай» [30, с. 52], калі на першым плане — жывапісная вобразнасць, у аснове якой колеры і камбінацыі колераў. Асабліва гэта характэрна для паэтаў-імпрэсіяністаў.

Многія даследчыкі творчасці Наталлі Арсенневай падкрэсліваюць імпрэсіяністычны характар яе лірыкі, дзе дамінуе акцэнт на першасны пачуццёвы вобраз, зменлівасць, плыннасць з'яваў, часовасць, імгненнасць уражанняў. Так, Лідзія Савік адзначае, што «дамінавальнымі» ў вершах паэткі ёсць змены «ў бясконца рухомай, жывой прыродзе, што выклікае ў чалавека адпаведныя пачуцці, а ў паэта — шматгранныя, рознакаляровыя і шматгукавыя асацыяцыі» [5, с. 59]. Ян Чыквін падкрэслівае, што «яе паэтычную індывідуальнасць ярка высвечвалі ўнутраныя параметры "жыцця душы": узвышаная складанасць пачуццяў, вытанчанасць духоўных каштоўнасцей, эмацыянальная далікатнасць. "Жывая душа" паэтэсы натуральна рэагавала найперш на такое ж па далікатнасці, вытанчанасці і ўзвышанасці жыццё прыроды — і пачынаўся творча-эмацыянальны рэзананс» [7, с. 56–57]. Вылучае гэтую адметнасць лірыкі паэткі і Любоў Тарасюк: «Тут варта звярнуць увагу на імпрэсіяністычнасць мастацкага пісьма… Уражаннямі ад багатых праяў навакольнага свету поўніцца яе душа, і ў глыбіні гэтай душы збіраецца якісь цэльны вобраз хараства, зачаравання» [31, с. 251]. Невыпадкова аўтар слоўніка «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах» Вячаслаў Рагойша ў якасці прыкладу да артыкула пра імпрэсію бярэ верш Наталлі Арсенневай «Завея».

Можна гаварыць пра жывапісны імпрэсіянізм лірыкі паэткі, бо надзвычай часта пераліvы, змены пачуцця перададзены ёю праз змены колераў. Адбываецца тое ж, што і ў жывапісе, дзе «для імгненнага зроку колер набывае выключную значнасць,



бо ён у першую чаргу вызначае сабою характар агульнага ўражання» [32, с. 208].

Верш «Новая зіма» ўспрымаецца як імпрэсіяністычны абразок, дзе сутыкаюцца два колеравыя ўзоры: адзін вытканы «мастацкай рукою» зімы, другі — вясновым росквітам:

*Зноў сінее зімовая далеч,*
*зноў зяленяцца змрокі, як лёд,*
*і гарыць пурпуровай эмаляй*
*няжывы і халодны заход…*
*А нядаўна, здаецца, учора,*
*на блакітных палотнах нябёс*
*ткалі шоўкам зялёным вузоры*
*маладыя галіны бяроз…* [9, с. 59]

Першы ўзор выклікае пачуццё змрочнае. Адчуванне халоднай беспрытульнасці ствараецца найперш праз ужытае ў неўласцівым значэнні адценне гарачага чырвонага колеру — *пурпуровы*. У гэтую метафарычную калярыстыку ўведзена слова з штучнага, нежывога, непрыроднага свету — *эмаляй*, якое поруч з насычанымі адмоўнай энергіяй паміранння прыметнікамі *нежывы* і *халодны* выклікае адчуванне ледзянога холаду.

*Зялёны* змрок, *зялёнае* неба (верш «Калі») — гэта не прыдуманыя ўяўленнем паэткі вобразы. Сапраўды, чырвоны колер заходу адкідае зялёныя промні. Як аўтарытэтна сведчыць мастак К. Пятроў-Водкін, «зялёны промень, убачаны старажытнымі егіпцянамі на гарызонце пасля заходу сонца, стаўся для іх колерам жалобы, як водбліск з падземнага царства смерці, — гэты зялёны, бачны і сёння, промень дапаўняе чырвань сонца, што знікла за гарызонтам» [29, с. 498]. Невядома, ці ведала пра гэта Наталля Арсеннева, але ў вершы сваім дакладна гэтак, як і людзі ў старажытнасці, адлюстравала і зялёнае неба на захадзе, і той мёртвы холад, што выкліканы карцінай дзённага сыходу.

Жоўты колер пакідае сіні цень. Мо таму гэтак часта сустракаем у вершах Наталлі Арсенневай гэтае дасканалае спалучэнне — залатое і сіняе. Гэтыя колеры поруч з чырвоным — галоўныя ў вясёлцы. Больш за тое, у пэўны час «Гётэ прапанаваў лічыць

галоўнымі толькі два колеры: сіні і жоўты» [29, с. 296]. У адным з ранніх, светлых, яркіх, «сонечных» вершаў «Люблю я сонца залатое» перакрыжоўваюцца гэтыя два колеры: *залаты* (сонца) і *сіні* (сцень). Гэта іх цудоўнае перапляценне стварае настрой незвычайнай радасці, пяшчоты, калі ўсё ўспрымаецца праз прызму кахання. Наогул, як адзначала Любоў Тарасюк, у многіх вершах гэтага часу «пераважае радасны, жыццесцвярджальны настрой маладосці, калі ўвесь свет успрымаецца ў светлых, чыстых вобразах вясны» [31, с. 248]. Адчуванне святла ў свеце прыроды пераносіцца ў душэўны стан самой гераіні. Прырода выступае крыніцай, жыватворным пачаткам, які магутна ўплывае на чалавека. Крыніцай святла і яснасці, што значна пераважаюць змрочнае, цёмнае, хмурнае ў ранняй лірыцы паэткі: *празрысты* блакіт, *светлы* дзень, *ясны* заход, *празрыстыя* хмары, *светлыя* ночы, *яркія* красак у садзе маністы, *ясныя* косы промняў, неба *празрыстае*, *светлая* сіла, *светлыя* ясныя мары, *светлыя* сны, *яснае* сонца, *ясны* вечар.

Часцей за ўсё залаты колер скарыстоўвала паэтка дзеля стварэння карцін яркага восеньскага адцвітання. Так, першая страфа верша «Восень» (рытарычнае пытанне) цалкам пабудавана на пералівах фарбаў залатой восені, гарачых, яркіх, прыгожых колераў агню і сонца:

*Як не любіць мне восень залатую,*
*калі праз вопратку асін густую*
*тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,*
*і ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?* [9, с. 14].

Малюнак надзвычай выразны найперш дзякуючы яркасці каляровай палітры. Цэнтр карціны абазначаны вобразам залатога клёна. Яшчэ ўсё багаты валадар, што, аднак жа, ведае пра хуткаплыннасць красы, прадчувае холад і страты, адсюль — «маўклівы».

Наступная карціна — цалкам кантрасная па колеравым выкананні: ні аднаго жывога, гарачага тону. Сокі жыцця марнеюць, пакідаюць зямлю. Таму гэткі размыты, невыразны ўвесь малюнак, дзе не вылучаецца ні адна дэталь, дзе ўсё бачыцца праз



непраглядную прызму туману і павуціны: «...*на ніву зжатую, пустую / ліецца уначы, як малако, туман, / і павучыньне скрозь на хмызьняку палян*» [9, с. 14].

Паэтка часта выкарыстоўвае пералівы колераў, што стварае карціну рухомую, жывую, пластычную. Яна змяняецца на вачах, змяняецца і пачуццё-настрой. Звычайна гэта колеры няяркія, спакойныя, далікатныя: «*Хвалі на жыце лунаюць... / колер* ***зялёны*** *на* ***срэбны*** *мяняюць, /* ***срэбны*** *на* ***сіні, сівы***» [9, с. 28], «*З* ***шэрай*** *вышы, і чысты і* ***белы*** */ сьнег густы паляцеў, паляцеў*» [9, с. 54], «*Дзень дапаліўся вятраны, /* ***сінімі*** *робяцца* ***белі*** */ даляў чужых і нязнаных*» [9, с. 59].

Часам сустракаем нечаканыя, смелыя колеравыя кантрасты. Палітра траціць адзінства калярыстычнай гамы. Знікае адчуванне суладнасці, паслядоўнасці, чаканай зменлівасці, руху ў адным напрамку, калі нейкі адзін колер, бы іншароднае цела, разрывае сплеценыя каляровыя карункі:

*Запалілі ў прысадах каштаны*
*сьвечкі* ***белых****, пахучых кветак.*
*Там, далёка ў даліне туманнай,*
*сьпіць імгла* ***сіняватых*** *палетак,*
*а над ёю хінуцца ўзгоркі,*
*гіне* ***шэраю*** *пасмаю далеч,*
*на заходзе — шнурком пацёркаў*
*зьзяюць хмараў* ***чырвоных*** *каралі* [9, с. 56].

Ужо праз інтанацыю (працяжнік у цэнтры радка не абумоўлены правілам) чытач (тут лепей пасуе — глядач) як бы папярэджваецца пра рэзкі пераход, паварот. Здзіўляе багацце не толькі розных камбінацый колераў (*белы*, *сіняваты*, *шэры — чырвоны*), але і формаў, абрысаў (*даліна*, *палетак*, *узгорак*, *далеч — пацеркі*, *каралі*).

Чырвоны колер не надта пашыраны ў лірыцы Наталлі Арсенневай. Ён выкарыстоўваецца ў выключна метафарычнай калярыстыцы. Часцей такімі бачацца з'явы і прадметы прыроднага свету, перафарбаваныя промнямі захаду: *чырвоная* асіна, *чырвоныя* камлі хваін, *чырвоныя* хмары, зорныя *чырвоныя* агні,

*чырвоны* пажар захаду, рэкламаў пыл *чырвоны*, *чырвоны* блеск асенні захад / праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць. Тое ж можна сказаць і пра блізкі ў колеравай гаме да чырвонага ружовы (у Наталлі Арсенневай варыянт — рожавы), які сустракаецца яшчэ радзей. Усяго пяць разоў у дзвюх кнігах: *рожавая* імгла, *рожавы* захад, *ружовае* полымя, ззяюць хмары *рожавым* агнём, пылам *ружовым* здаюцца аблокі.

Чырвоны колер сваёй насычанасцю, яркасцю спрыяе стварэнню вобразнасці экспрэсіўнай, выразнай. Верш «Вячэрняя містэрыя» афарбаваны ў чырвонае, агністае. Ад асобных кропляў-згусткаў чырвані (ягады шыпшыны, кветкі маку) праз кругавыя абрысы (вянок, сонца) і распрамленне іх на ўсю бачную воку прастору (захад) аж да самаспалення, самазнішчэння (пажар) — такі рух «колеравага сюжэту» гэтага насычанага ўнутраным драматызмам твора, жанр якога паэтка вызначыла як містэрыю:

*Сплёў вечар вянок прамяністы*
*з шыпшыны і макаў чырвоных,*
*у небе завесіў прачыстым,*
*на ясных нябёсных загонах…*
*А сонцу вянок спадабаўся,*
*у чырвані сонцу да твару…*
*Так захад у хварбы прыбраўся,*
*так вечар заняўся пажарам* [9, с. 57].

Асаблівым драматызмам насычаецца вобраз, калі замест слова *чырвоны* выступае яго адценне — эмацыйна афарбаванае *крывавы*:

*Між камлямі хваінаў* ***чырвонымі***
*зьзяў* ***крывавы*** *асеньні заход.*
*Далячынямі неба прадоннымі*
*выплываў* ***белых*** *зор карагод* [9, с. 16].

Тут асабліва відавочна тая «ратавальная» ўласцівасць белага колеру, пра што вялося вышэй. Спакойны, ураўнаважаны *белы* — пасланец неба — быццам тушыць той крывавы пажар, што захапіў у свае абдымкі ўсё на зямлі і пры ёй.



Белы колер звычайна або дапаўняе далікатную колеравую палітру, перамяжоўваючыся з сінім, блакітным, сівым, срэбраным (*белыя* ночы, *белы* пыл, як туман серабраны, *белаю* воўнай авечак устаюць туманы з сенажаці, *белы* лёд, *белы* бляск, *белым* статкам пасуцца таполі, *белыя* рукі бяроз, *белыя* абыймы туманаў, *белы* пух вярбін); або ўраўнаважвае гарачыя жоўты, чырвоны (*белыя* зоры, свечкі *белых* пахучых кветак, *белае* полымя, *белы* месяц); або выступае ў сваёй іпастасі, самадастатковы, як гаспадар наваколля, цэлага свету, які пануе над усім, моцны і — лёгкі, бязважкі, дыктуе настрой, паўнаўладны (*белы* аснежаны свет, *белае* захапленне, *белая* пустка, *белы* сад, снежная мяцеліца… *белая* пасцеля, *белы* пух вярбін і тапалёў). Асабліва паказальны ў гэтым плане верш «Завея» — праўдзівая зімовая імпрэсія, дзе імгненныя пераліўы, зрухі ў зімовай прыродзе падкрэсліваюцца і праз розныя «адбеленыя» часціны мовы: дзеяслоў, прыметнік, назоўнік, якія «сутыкаюцца» ў адным радку, узмацняюць адзін аднаго:

*«Месца, месца,*
*волі, волі!»*
*Мкне у месьце,*
*мкне у полі,*
*беліць вочы белай беляй*
*гнеўна-сьпеўная завея…* [9, с. 58]

Паэтычныя паўторы, дасканалы гукапіс, дынамічны рытм, колеравая палітра — усё гэта дазваляе пачуць і музыку снежнай стыхіі і ўбачыць жывапісную карціну.

У паэзіі з'явы і прадметы рэальнага свету «перафарбоўваюцца» ў не характэрныя для іх колеры, што і стварае метафарычную калярыстыку. Гэта дакладна тлумачыцца наступным: «Калі мастак ці паэт шукае ў прыродзе, у яе бясконца разнастайных фарбах і гуках адлюстраванне свае мары, свайго эстэтычнага ідэалу, то тады нават самая цудоўная натура падасца недасканалай. Ён не задаволіцца "рэальнасцю". У яго абавязкова з'явіцца патрэба ў зрокавую праўду ўнесці "праўду мастацтва", выканаць усё тое, што жыве ў ім самім» [28, с. 142–143]. Зрэшты,

Наталля Арсеннева неаднойчы падкрэслівала, што гэта не яна малюе фарбамі: яна толькі ўважліва назірае, як тое робіць нябачным пэндзлем Вечны Мастак — Творца: «*Вабіць неба хварбай залатою*» [9, с. 53], «*Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны, / чыстым золатам густа залоціць рабіны*» [9, с. 29], «*Дзень дапаліўся, і цемра нядбала / ў шэрасьці хварбы жывыя схавала*» [9, с. 54], «*А захад згарае у зьменных адценьнях / прадзіўнае хварбы шыпшыны жывой*» [9, с. 60]. Гэта ўжо створаныя карціны — акварэлі (недарэмна паэтка часта ўжывае словы з лексікі жывапісцаў):

*Чырваняй кволай старой акварэлі*
*клёны й асіны ў лесе гарэлі* [9, с. 54].

Колеравая палітра Наталлі Арсенневай не будзе поўнай, калі не згадаць яшчэ адзін, улюбёны і Багдановічам, колер — срэбраны: *срэбныя* вербы, рожы *серабрыстыя*, *срэбныя* краскі на шыбах, *срэбны* пух лазнякоў, *срэбная* золкасць, *срэбная* снежная імгла, *срэбнай* стужкай туман-пустацвет, гнуткія лозы *срэбны* разматваюць пух, *срэбны* палец начы, змрок густы й *серабраны*, месяц мокры і *срэбраны*, *серабраныя* ночы, *серабранае* павучынне. Часам гэты колер настройвае на штосьці «зіхотка-рухомае і чароўнае ў прыродзе» [33, с. 183], у іншых выпадках — гэта прыгожы, але халодны адбітак жывой красы.

Непаўторны цуд прыроднага свету, сатканы з колераў, — вясёлка. Наталля Арсеннева не абышла яго сваёй увагай. Для яе гэта — мост між створаным чалавекам і прыродным:

*Лягла вясёлка мастом трымцівым,*
*мастом, сатканым з калёраў кволых,*
*ад мокрых сьцежак, ад росных ніваў*
*у бор сасновы, сівы й вясёлы* [9, с. 54].

Вясёлка — чыстая, далікатная, «нясталая» краса, нязвычная казка, нянасная краска. Вясёлка — гэта і мост у паднебную вышу, у нязнаныя далі, у дзіўную краіну маны і надзеі. Гэты нябесны цуд ніколі не пакідае абыякавым душы, чулыя да красы. Недарэмна свой аповед пра колер К. Пятроў-Водкін пачынае з дзіцячых уражанняў ад вясёлкі, з чаго ён і пачаўся як



мастак: «У ёй не хапала для мяне матэрыяльнасці, яна ўзнікала і знікала, як міраж, а побач з тым яе колеравы акорд быў такім рэальным, што хацелася дабегчы да яе і ўхапіцца за колеравыя кольцы» [29, с. 495].

Дасканаласць паэтычнага малюнка не ў апошнюю чаргу ствараецца праз колеравую палітру, адметнасць, арыгінальнасць якой у лірыцы Наталлі Арсенневай відавочная. Пэўна, яна (гэтая адметнасць) выявілася не ў апошнюю чаргу таму, што ўжо з ранняга дзяцінства паэтка захаплялася цудоўным светам колераў: «Ад найменшых год мяне цікавіла ўсё навокал, асабліва колеры. Яшчэ зусім малым дзіцём я гадзінамі магла глядзець на вячэрняе неба, сачыць у ім змену адценняў, затрымлівалася перад цікавага кшталту дрэвам, незвычайным тварам… Мне вельмі хацелася маляваць» [17, с. 461]. Гэтае жаданне — маляваць — ажыццявіла паэтка ў сваёй лірыцы.

## «ПАТАЁМНАЕ» НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Нішто не вечна. Усё таемнае мусіць стаць вядомым. Паўтараючы гэта, чалавек зайшоў хіба занадта далёка, дазваляючы сабе літаральна ўспрымаць гэтыя ісціны. Дакладней, збіўся са шляху. Дазволіў сабе абыходзіцца з тым, што вызначана яму, каб чалавекам застацца. Бо вырашыў падкарэктаваць Творцу, адкінуць тое, што дадзена, здавалася б, аднойчы і назаўсёды: прыходзіць у свет мужчынамі і жанчынамі. Людзі, аднак, у некаторых краінах ужо і гэта перакрэслілі, адкінуўшы нават у дакументах пазнаку роду. Тым больш, на думку такіх, ужо вельмі шматлікіх асобаў, рамантычныя адносіны між ім і ёю ўстарэлі. Але ж жывое яшчэ маё пакаленне. І тыя, што прыйшлі ў гэты свет раней за нас. І тыя з маладзейшых, хто будуе сваё жыццё паводле спрадвечных законаў. Менавіта такіх чытачоў можа зацікавіць гэты артыкул.

Неаднойчы ў працах, прысвечаных творчасці Наталлі Арсенневай, адзначаецца: у яе паэтычнай спадчыне абызданы любоўныя матывы. Узнікае пытанне — чаму? Хіба магла яна,

паэтка, надзвычай прыгожая жанчына, чыё сэрца было адкрыта насустрач красе, не зведаць гэтае пачуццё? Хіба не дадзена было ёй сустрэць тых, хто абудзіць душу дзеля вялікага шчасця — кахаць? Відавочна, так не магло быць.

Наталля Арсеннева была асобай адметнай, замкнутай, скрытнай, эмацыйным інтравертам, вельмі ашчадна ставілася да выяўлення інтымных пачуццяў. У аўтабіяграфічным нарысе паэтка пісала пра гэтую асаблівасць: «Я мела нейкую дзіўную натуру ад самога маленства. Я не ўмела быць шчырай, не ўмела дзяліцца ні з кім сваймі перажываннямі. Я цешылася, я цярпела, я хацела таго ці іншага… але ўсё гэта паціху, у сабе. Ніхто ніколі не ведаў маіх думак» [17, с. 463].

Ад самага пачатку сваёй паэтычнай творчасці гэтая юная асоба не дазваляла сабе выказваць самае патаёмнае, чым жыло сэрца маладой дзяўчыны. І хіба ж не зразумела, што толькі перажытае ці непасрэдна, ці апасродкавана, праз уяўленне, дае магчымасць адлюстраваць тое ў творчасці. І Наталля Арсеннева пакінула ў сваёй спадчыне некалькі вершаў, у якіх і распавяла пра свае, як мне падаецца, самыя светлыя каханні. І зрабіла тое ў манеры, характэрнай менавіта ёй, схаваўшы гэтае пачуццё глыбока, перанёсшы яго на свет прыроднай красы, дзе ніхто і ніщто не парушыць адвечную таямніцу. Гэта два вершы пачатку 20-х гадоў і творы значна пазнейшага часу, напісаныя ў акупаваным Менску і ў Берліне ў 40-х гадах. Героямі ранніх вершаў-прысвячэнняў былі Максім Гарэцкі і Францішак Кушаль. Адзін — вядомы пісьменнік, выкладчык беларускай літаратуры Віленскай беларускай гімназіі, другі — малады вайсковец, які і стаў мужам паэткі.

Верш «У лесе» прысвячэннем мае ініцыялы — Ф. К. Быў 1921 год, выпускны для юнай гімназісткі. У аўтабіяграфічным нарысе Наталля Арсеннева вельмі скупа піша пра Францішка Кушаля: «Удзень я вучыла ў школе… а па абедзе хадзіла на лекцыі ў універсітэт. Сюды ж прыходзіў і мой будучы муж, з якім я пазналася яшчэ будучы гімназісткай на адной з нашых суботніх вечарынкаў. Хутка сталася так, што, праслухаўшы адну ці дзве лекцыі, мы апыналіся ў Бернардынскім садзе або



на Замкавай гары» [17, с. 470]. Відавочна, любоў да Беларусі таксама аб'ядноўвала маладых людзей, бо Франук з маленства быў шчырым патрыётам. Далучыўся да беларускасці яшчэ ў нашаніўскія часы.

Францішак Кушаль пройдзе з Наталляй Арсеневай праз усе жыццёвыя выпрабаванні і трагедыі, найвялікшай з якіх будзе страта першынца — сына Яраслава ў 1942 годзе. Боль ад яе не пакіне паэтку ніколі. З Францішкам пройдуць яны праз ростані і эміграцыі.

Па-рознаму ацэньваюць розныя людзі гэтага чалавека, на якога шмат бруду выліта. І не толькі ворагамі беларушчыны. «Павароты яго жыццёвага шляху дагэтуль змушаюць гісторыкаў распачаць зацятыя спрэчкі» [34, с. 206]. Што да мяне, то веру найперш нашай вялікай паэтцы, нязломнай змагарцы Ларысе Геніюш, якая была знаёма з сям'ёй Кушаляў, прыпынялася ў іх у часе свайго прыезду ў акупаваны немцамі Менск у 1944 годзе. У сваёй знакамітай «Споведзі» Ларыса Геніюш пісала: «Мала ў жыцці я сустракала так шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі» [35, с. 88].

Наталля Арсеннева напіша біяграфію мужа, якая будзе ўпершыню надрукавана ў 1999 годзе ў кнізе Францішка Кушаля «Спробы стварэння беларускага войска», праз шмат гадоў пасля ягонага сыходу. І тут мы ні слова не прачытаем пра яе пачуцці. Ва ўспамінах пра сустрэчу з паэткай Генадзь Бураўкін заўважыў, што пра мужа «Арсеннева старалася амаль не ўспамінаць. Магчыма, не сумнявалася, што тое-сёе са злаславых публікацый пра яго было вядома і мне, а хоць неяк апраўдвацца не ў яе характары» [17, с. 541]. Але самае галоўнае тут, відавочна, у тым, што паэтка «многае хавала ў сабе і не любіла выпускаць на людзі. Пра свайго абранніка яна сказала толькі, зноў жа па-маладому ўсміхнуўшыся:

— Стройны быў, абыходлівы, у прыгожай вайсковай форме. Чаго ж болей хацець дзяўчыне?..» [17, с. 541].

Паэтка з дзяцінства вельмі любіла лес. Значна пазней пра жыццё ў пасляваеннай Заходняй Нямеччыне, у няпростых ва-

рунках лагероў для перасяленцаў у другой палове 40-х гадоў, яна напіша: «Кожную вольную хвіліну я праводзіла ў лясох. Каб не гэты лес, не ведаю, што сталася б са мной за гэтыя гады жыцця ў лагернай турме. Лес ратаваў мяне» [17, с. 463].

І так было заўсёды. Таму невыпадкова, што верш, у якім паэтка прыадкрывае таямніцу свайго кахання, мае назву «У лесе». Лес тут не толькі і не столькі дэкарацыя для лірычнага дзеяння, а непасрэдны герой. Закаханым адкрываецца свет красы і пяшчоты. Усё вакол вітае іх пачуццё. Усё спрыяе ім. Бо каханне — цуд, які даруецца так рэдка і далёка не ўсім. І недарэмна месцам сустрэчы — лес. Гэта не тлумны свет натоўпу. Гэта свет цішыні, калі словы страчваюць сэнс, а замест мовы людзей, так мала дасканалай у хвіліну ўзрушэння, калі патрэбна выказаць патаемнае, гучыць моваспеў прыроды. Ствараецца ўражанне, што закаханыя адны ва ўсім свеце:

*Лес вітаў нас нячутнымі словамі,*
*нам сьмяялася неба празрыстае,*
*а над намі, ўгары над дуброваю,*
*хмаркі таялі лёгкія, чыстыя* [9, с. 20].

Нявінны, пяшчотны эротык уводзіць Наталля Арсеннева ў гэты верш. Тут яна не пайшла ўслед за сваім «улюбёным паэтам» Максімам Багдановічам, першаадкрывальнікам эратычных матываў у беларускай паэзіі. Цнатлівасць — галоўная рыса яе лірыкі. Жаданні не выказваюцца. Гэта шчаслівае блуканне па свеце кахання, дзе галоўнае — чаканне, пошук чагосьці неўсвядомленага, і ўрэшце — зліццё ў адно, да поўнага растварэння ў іншым. Ізноў жа не з чымсьці, а з ценем. І не чыімсьці, а сонечных косаў. Гэта мроя кахання, а не яе вышэйшы ўзлёт. Недагаворанасць перадаецца праз няпэўнае — *нечага*, калі пачуццё нельга выказаць:

*Па узгорках, па травах уквечаных*
*косы сонца нізкога туляліся,*
*у ваўсох запыняліся нечага,*
*адплывалі, із ценем зьліваліся…* [9, с. 20]



Лес уяўляецца адначасна і храмам, дзе адбываецца ўрачыстая таямніца далучэння да чагосьці высокага і светлага, і гэтак жа месцам, дзе зводзяцца ў адно душы і целы: «*Штось шасьцеў лес… дубровай зялёнаю / слаў із ветрам нам шэляхі зводныя*» [9, с. 20]. Лес пасылае сваё блаславенне, зводзіць маладых людзей. Мова кахання, нават пачутая ўпершыню, знаёма кожнаму, бо яна ад пачатку закладзена ў чалавечую душу і толькі чакае той хвіліны, калі надыдзе абуджэнне. Тыя цудоўныя «*шэляхі зводныя*» якраз і прамаўлялі на гэтай самай універсальнай мове: «*І здавалася дзіўна знаёмаю / мова іх, і чужая, і родная…* « [9, с. 20]. Аўтарка часта выкарыстоўвае шматкроп'е — знак паэтычнага ўмаўчання, што яшчэ раз падкрэслівае недагаворанасць, непрамоўленасць.

Верш «Красавік», з прысвячэннем — Максіму Гарэцкаму, быў напісаны, зразумела ж, у красавіку, апошняй гімназічнай вясной Наталлі Арсенневай.

Адносіны між Наталляй і яе ўлюбёным настаўнікам былі вельмі няпростыя. Наталля ўспрымала Максіма Гарэцкага найперш праз прызму ягонай творчасці, якую добра ведала яшчэ да знаёмства, якой захаплялася. Якраз першай беларускай кнігай, прачытанай будучай паэткай, і стаў зборнік апавяданняў Максіма Гарэцкага «Рунь». Ён для яе — аўтар патаёмнага. Праз многа гадоў, ужо на эміграцыі, напіша пра яго Наталля Арсеннева ў сваіх успамінах. «Як два чорныя знічы» — якое шыкоўнае параўнанне! З чорнымі знічамі яна параўноўвае вочы настаўніка. І як многа праз гэта сказана! Знічы — зоры, а яшчэ — агні. І ні тое, ні другое насамрэч не бывае чорным. А вочы Максіма Гарэцкага ва ўяўленні юнай гімназісткі чорнымі былі, бо хавалі за змрочнай завесай яркае полымя. У іх бачылася Наталлі тая невыказная таямніца, да адкрыцця якой ён набліжаў наша прыгожае пісьменства — таямніца чалавечай душы. І сам быў для дзяўчыны гэткай жа таямніцай: «Постаць ягоная з самага пачатку была для мяне ахіненая нейкім рамантызмам. Аўтар кнігі, што мне спадабалася, пісьменнік… Настаўнік літаратуры, якую я так любіла… Як тут было застацца зусім халоднаю, абыякаваю? На змену Юліям Цэзарам і Рычардам Ільвіным Сэрцам прыйшоў, зусім зразумела, Гарэцкі, першы жывы чалавек, які мне падабаў-

ся (а мне было ўжо тады 17 год!)» [17, с. 468]. Безумоўна, ніяк не можна было застацца абыякавай, немагчыма было не закахацца ў гэтага незвычайнага чалавека, новага рамантычнага героя, які зацьміў усіх тых, што паўставалі з глыбіняў часу. Наталля Арсеннева ў гэтых успамінах (а пісаліся яны праз дзясяткі гадоў) мо ўпершыню прызналася ў сваім пачуцці. Але слова «каханне» так і не прамовіла.

Ні пра якую ўзаемнасць размова ісці не магла. Ніхто ніколі і не размаўляў. Гэта была яе таямніца. Максім Гарэцкі ў тым часе, нядаўна ўзяўшы шлюб з прыгажуняй, разумніцай, пявуньняй, таксама настаўніцай, пісьменніцай Леанілай Чарняўскай, пэўна ж, быў шчаслівым, закаханым. Не апошнім сведчаннем таму — прысвячэнне самай важнай у той перыяд кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры» ёй — Леаніле Усцінаўне Чарняўскай. Цярплівая Ласка — гэтак пяшчотна называў яе ў жыцці, такія імёны мелі і гераіні з ягоных твораў жахлівых 30-х гадоў, дзе прататыпам ізноў жа — яна. Але тады, на пачатку 20-х, самыя страшныя цярпенні былі яшчэ наперадзе.

Максім Гарэцкі быў строгім, патрабавальным крытыкам першых беларускіх вершаў Наталлі Арсенневай. Пра гэта мы таксама ведаем з яе успамінаў, дзе відавочны нават цень даўнішняй крыўды, якую перажыла на самым пачатку творчасці юная паэтка. Але гэта толькі невялікі цень, бо вялікай крыўды на Яго, творцу патаёмнага, ці магла яна дапусціць у сэрца, дзе панавала зусім іншае пачуццё. Зрэшты, Наталля Арсеннева не зусім паслядоўная тут: з аднаго боку, яна піша, што ніколі не хваліў яе вершаў, адсюль ледзьве не комплекс паэтычнае непаўнавартасці, зжыты толькі праз дзясяткі гадоў, калі ўзяла ў рукі важкі том сваёй паэзіі «Між берагамі» (1979). А з другога — паслухаем ізноў яе ўспаміны пра вялікую неспадзеўку, якую зрабіў настаўнік, прапанаваўшы грамадзе на шматлюднай вечарыне ў гімназіі яе вершы. Атрымаў іх толькі што, у той дзень пасля заняткаў. Перажывем разам з юнай паэткай яе такі яркі, урачысты дэбют: «Раптам на эстраду выйшаў Гарэцкі і папрасіў слова на пару хвілінаў. Усе думалі, што ён хоча зрабіць якую заўвагу вучням, так думала і я. Але што са мной сталася, калі я пачула, у



чым справа. Гарэцкі звярнуўся да публікі так: "Я хачу вас сёння пацешыць, асабліва тых, хто любіць беларускае слова. Дай Бог, каб я не памыліўся, але мне здаецца, што ў нас сёння нарадзілася паэтка, большая і за Цётку, і за Буйлянку"» [17, с. 468].

Хіба магла быць больш высокай ацэнка твораў юнай паэткі, якая да таго ж упершыню напісала вершы на беларускай мове? Чаму Максім Гарэцкі параўнаў напісанае сваёй вучаніцай з творамі Цёткі і Буйлянкі. Мяркую, не толькі таму, што гэта былі самыя знакамітыя паэткі нашаніўскай пары. А яшчэ і таму, што Канстанцыя Буйло — пачынальніца беларускай жаночай (калі больш дакладна — дзявочай) паэзіі, дзе ўпершыню ва ўсёй паўнаце і шматграннасці адлюстравана пачуццё кахання. Відавочна ён, пісьменнік-псіхолаг, тонкі знаўца чалавечай душы, разумеў, што схавана за быццам бы адсутнасцю інтымных матываў у творчасці Наталлі Арсенневай.

Верш «Красавік», які Наталля Арсеннева ахвяравала Максіму Гарэцкаму, надзвычай светлы, пяшчотны, сапраўды вясновы, які было і рамантычнае пачуццё юнай паэткі да таго, каму ён быў прысвечаны. У вершы — бязмежнае сіняе неба, кволая квецень пралескаў, срэбны пух лазнякоў высвечваюцца праз тонкія зрухі юнай душы, здольнай адгукнуцца на шматгалосы спеў цішыні, здольнай адчуць «*водар салодкі вясны*» — а гэта і ёсць слодыч кахання. Бо вясна прыходзіць у душу толькі тады, калі там расквітнее пачуццё, якое і асвеціць сваімі залатымі промнямі ўсё вакол, расквеціць усё самымі зіхоткімі, яркімі фарбамі:

*Неба сіняе, сіняе, сіняе…*
*ані межаў у ім, ані дна.*
*На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю*
*пазірае мне ў вочы вясна* [9, с. 19].

Паэтка пераносіць сваё пачуццё на гэты дзівосны свет, яе каханне як быццам раствараецца, разліваецца ў бязмежнай прасторы:

*І нічога мне ўжо не жадаецца,*
*Ні каханьня, ні сьветлых мінут,*

*У душы маёй штосьці зрываецца,*
*Што няўзнак адцьвітае…* [9, с. 19]

Штосьці — гэта і ёсць каханне. Наталля Арсеннева старанна ўнікае гэтага слова. Яно ўжыта паэткай толькі дзеля таго, каб засведчыць: не жадаю кахання. І гэта не ёсць адзінай ісцінай, бо ўвесь верш — далікатнае прызнанне ў каханні, чыстым, светлым. Без надзеі на ўзаемнасць. Без ніякіх просьбаў і патрабаванняў. Гэта разуменне таго, што каханне ўжо само па сабе шчасце, хай і без узаемнасці. І ў гэты момант яно і сапраўды «*зрываецца*», падае з той недасяжнай вышыні, куды ўзнесена. Верш гучыць як бы наўздагон таму пачуццю, праз якое паэткай было столькі перажыта.

У канцы верша ўзнікае матыў сну. Відавочна, невыпадкова. Тое яе каханне — гэта і ёсць сон, чароўны сон, навеяны вясной, «*прыгажуняй-княгіняю*», якая шчодра разлівае любоўны эліксір у адкрытыя насустрач каханню сэрцы. Згадаем вобраз маці Вясны з цудоўнай рускай казкі «Снягурачка». У вершы Наталлі Арсеневай вясна — гэта і ёсць валадарка кахання, якая шчодра дзеліцца ім з людскімі душамі, жывымі, нястомнымі ў сваёй празе кахаць…

Невядома, што прачытаў адрасат у гэтым вершы, які быў надрукаваны ў тым жа красавіку 1921 года. А праз пару месяцаў навучанне была скончана. Захаваўся цудоўны фотаздымак першага выпуску Віленскай беларускай гімназіі, гэтай знакамітай кузні беларускага духу. Якія імёны, якія асобы і між выкладчыкаў, і між выпускнікоў! Усе дзяўчынкі ў далікатных белых строях. Наталля Арсеннева стаіць недалёка ад свайго ўлюбёнага настаўніка. Загляніце ў энцыклапедыю «Гісторыя Беларусі», там знойдзеце гэты здымак.

Гэтыя дзве асобы — між самых знакамітых, хто меў дачыненне да працы Віленскай беларускай гімназіі. Таму невыпадкова, што ў Вільні на будынку, дзе месцілася гэтая ўстанова, былі адкрытыя мемарыяльныя дошкі ў гонар Наталлі Арсеневай і Максіма Гарэцкага. Ці магла ў сваіх самых смелых мроях уявіць гэта юная гімназістка?



Менавіта з Максімам Гарэцкім параўнала паэтка таго, хто ўскалыхнуў яе сэрца ў часе, калі перажывалася яе сягоння — творча-ўздымнае і балесна-трагічнае, у якім бліснула надзея на Адраджэнне Краю, каб ураз жа захлынуцца крывёю. Такое ж, юнае, далікатнае і недасяжнае, нарадзілася ў сэрцы жанчыны, што прайшла праз доўгія шляхі-дарогі, на якіх так часта сустракала яе гора. Каханне і тут не ў апошнюю чаргу паўставала з захаплення талентам: «Ён, як некалі Гарэцкі, здаваўся мне нечым вышэйшым, нейкім жыхаром Алімпу, ці што» [17, с. 486]. Гэта быў Антон Адамовіч, знаны літаратар, рэдактар «Беларускай газеты». Прызнанне, што баялася яго, прачытваецца як страх перад пачуццём, якому нельга было ісці насустрач. Але ў паэткі ёсць надзейны лек ад душэўных парыванняў — слова, у якое пераносіцца пачуццё, калі яно перапаўняе сэрца. Так, пануюць вайна, смерць і боль. Але ж і вясна не жадае здаваць свае правы валадаркі. Выразныя водгукі глыбокага пачуцця знаходзім у вершах «Крыгі», «Ня ўмею я тужыць», «Вясновае». Апошні відавочна пераплятаецца з тым даўнім вершам-прысвячэннем Максіму Гарэцкаму і вясновай колеравай палітрай, і адчуваннем нястрымнага вясновага панавання, што разнасцежыла жаночае сэрца:

*Мне вясна ў галаве закруціла,*
*я сягоньня п’яная вясной.*
*Зацьвітае вясновай цьвіляй*
*у сасоньніках сіні сон,*
*сонца золатам косы чаромхаў*
*падплятае,*
*мігціць у траве,*
*сяньня сэрца усё навонках,*
*хоць зь вятрамі вазьмі, разьвей!* [9, с. 152]

Першая сустрэча паэткі і яе будучага крытыка таксама нагадвае тое даўняе, вясновае, віленскае. Той яе паэтычны дэбют. Яна гэтак жа баялася Адамовіча, як калісь Гарэцкага. А ўжо ж была знанай паэткай, аўтаркай адной выдадзенай («Пад сінім небам») і адной нявыдадзенай («Жоўтая восень») кнігаў. «Дні

два» збіралася, каб нарэшце асмеліцца і пайсці ў рэдакцыю. «Сэрца маё моцна білася, калі я ўваходзіла ў цесны пакойчык… Я перадала Адамовічу вершы. Ён перагледзеў іх моўчкі, а тады голасна зачытаў…» [17, с. 486].

Яны працавалі побач, побач у рэдакцыі стаялі іх сталы. І з імі жыла іх таямніца, што, відавочна, так і засталася недасяжнай для чужых вачэй. А пасля прыйшло развітанне, якое і нарадзіла шчырае ліставанне, сумоўе блізкіх людзей, калі так многа патрэбна было сказаць пра розныя справы, што іх лучылі. Наталляй і Алегам Гардзіенкамі падрыхтавана публікацыя тых лістоў. У прадмове хіба ўпершыню прыадкрываецца гэтая таямніца: «Пісаў ёй шмат, пісаў часам па некалькі дзён адзін ліст. Чаму? За часы працы ў рэдакцыі ў Менску абое адчулі блізкасьць сваіх творчых і чалавечых памкненьняў і пачуцьцяў, але ня толькі… Ужо самыя першыя лісты адкрываюць таямніцу асаблівага стаўленьня Антона Адамовіча да паэткі — ён быў закаханы ў яе яшчэ з маладых гадоў… Пачуцьцё юнацкай закаханасьці перарасло з часам у вялікую павагу, у адчуваньне духоўнага сваяцтва, роднасьці творцаў…» [36, с. 113].

Лісты падпісваліся нязменна: «Заўсёды Ваш…» Часам дабаўлялася імя і прозвішча. Часцей заставалася шматзначнае шматкроп'е. Гэты подпіс, відавочна, шмат гаварыў адрасатцы, шмат гаворыць і сёння. Як і выгукнутае ў пачатку першага ліста адно слова, вылучанае аж на цэлы абзац: «Нарэшце!» — нарэшце дачакаўся Вашага ліста, нарэшце ён дайшоў да мяне не столькі праз далёкія вёрсты, колькі праз тыя шматлікія перашкоды, якія створаныя вайною, людзьмі. І таму цалкам зразумелае прызнанне: «Вашыя лісты былі найчаканейшымі і аказаліся найцікавейшымі» [37, с. 121]. Усё, што мае адносіны да яе, «даражэнькай сяброўкі» (так аўтар звяртаецца да свае адрасаткі) — у найвышэйшай ступені. Што да творчых стасункаў, то Антон Адамовіч звыкла выступае ў якасці крытыка, сур'ёзнага, удумлівага, які часцей звяртае ўвагу аўтаркі на моўныя недахопы. Часам выказвае непрыхаванае захапленне: «Будучы апошні раз (30.01) у Бэрліне, бачыў крыху Вашых у «Беларускай газеце» — вельмі спадабаліся, мо яшчэ й таму, што даўно вершаў не чытаў і асабліва Вашых» [37, с. 132]. Некаторыя лісты незвычайна доўгія: у «Запісах…» на старонках 121–142, 142–165, што ёсць сведчаннем зацікаўленасці шчырай размовай.

Відавочна, ліставанне, гэты надзвычай інтымны сродак зносінаў між людзьмі, дапамагаў ім пазбавіцца адчування скаванасці ці няёмкасці, як гэта звычайна бывае з асобамі сціплымі, выхаванымі, з тымі, што прывыклі глыбока хаваць свае пачуцці. «Добра Вы напісалі… пра што й мне няраз думалася: гаварыць у лістох лепш і лягчэй. Гэта й я адчуваю заўсёды. Гэта сьведчыць, што мы з Вамі — такія ўжо літаратурныя "пісьменныя" людзі, можа навет — кніжныя. Ну што ж, няхай і так» [37, с. 192]. Развагі Антона Адамовіча пра асаблівае ўспрыняцце свету і адносін між людзьмі «кніжнай культуры» надзвычай цікавыя, бо ён тут выказвае не проста сваё стаўленне, а ідзе ўслед за развагамі на гэтую тэму паэткі, што яшчэ раз сведчыць пра асаблівую роднасць іх душаў: «Для шмат каго слова "кніжны чалавек" гучыць зьнявагаю. Для мяне ж — ніколі. Кніжны сьвет — куды лепшы за той, што ў ім мусім жыць. Дык жывучы ў гэтым сьвеце, "акніжваць" яго — ці ня значыць — паляпшаць? Кажуць, што "кніжны чалавек" пазбаўлены асалоды беспасярэдняга, пачуцьцяў сьвежых і мамэнтальных. Ці праўда? Мне здаецца — не. Усё гэта ёсьць, бывае, але апрача таго — і нейкі плюс наверх: беспасярэдняе, пачуцьці яшчэ й затрымваюцца, шліфуюцца, замацоўваюцца, могуць быць паўторна-пражытымі» [37, с. 192]. Гэта выказана менавіта пра іх адносіны, бо яны і былі такімі «кніжнымі людзьмі», якія замацоўвалі, шліфавалі, наноў пражывалі ў лістох свае пачуцці.

Новае спатканне Наталлі Арсенневай і Антона Адамовіча адбылося ў Берліне. З гэтых новых сустрэчаў у 1945 годзе паўстаў верш з такім выразным назовам, заклікам-просьбай: «Забудземся»:

*У ночвах завулкаў вечар*
*марознай імглы намясіў…*
*Цалуе ў твар мяне вецер,*
*згарнуўшы на бок валасы* [9, с. 170].

Гэта быў змрочны, страшны час, час сцюжы і начной цемры, калі «*сочыць, як той ганчак, / сьмерць нашы сьляды і сьцені*». У фінале верша — нязвычнае для лірычнай гераіні паэткі, адчайны парыў, бо так доўга спелілася ў душы і так доўга хавалася жывое, цёплае пачуццё, якое так і просіцца вырвацца на волю:

*Да рук маіх туліцца вецер,*
*згартае на бок валасы.*
*Абвій-жа мне шыю,*
*варта*
*даткнуць маіх цёплых губ.*
*Хай будзе, што будзе заўтра —*
*Дап'ём наш п'яны багун!* [9, с. 171].

У «Запісах» змешчаны фотаздымак Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР (1957 год), дзе ў гурце беларускіх дзеячаў бачым усё яшчэ па-вайсковаму стромкага Францішка Кушаля. Яны, Наталля Арсеннева і Антон Адамовіч, сядзяць побач.

Няшмат таямніцаў свайго сэрца прыадкрыла нам Наталля Арсеннева. Прачытваюцца яны сёння зусім не як пікантныя падрабязнасці з жыцця паэткі, а як сведчанні яе прыгожай, светлай, адкрытай насустрач каханню, але закрытай для чужых душы.

## ЭПІТЭТ І ЯГО РОЛЯ Ў ЗБОРНІКУ ВЕРШАЎ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ «ПАД СІНІМ НЕБАМ»

Эпітэт — мастацка-вобразнае азначэнне — адзін з самых ужывальных тропаў у лірыцы Наталлі Арсенневай увогуле і ў яе першым зборніку «Пад сінім небам» у прыватнасці. Пры гэтым паэткай выкарыстоўваліся надзвычай разнастайныя эпітэты: агульнамоўныя, народна-паэтычныя, індывідуальна-аўтарскія (часцей за ўсё яны маюць метафарычны сэнс). Па граматычным выражэнні часцей за ўсё гэта якасныя прыметнікі, што абазначаюць колер, памер, форму, адлегласць і г. д., але не толькі. У якасці эпітэтаў могуць выступаць простыя ці развітыя прыдаткі, дзеепрыметнікі, дзеепрыметныя і прыметныя звароты, прыслоўі, недапасаваныя азначэнні.



Ідучы ў паэзіі следам за Максімам Багдановічам, Наталля Арсеннева імкнулася выкарыстаць усё багацце і разнастайнасць беларускай народнай творчасці. Таму невыпадкова ў яе першы зборнік увайшоў раздзел «Зачараваны кут» з падзагалоўкам «З крыніцы народнай». Менавіта тут, дзе змешчаны творы баладнага зместу, апрацаваныя паэткай легенды, паданні, знаходзім асабліва многа сталых эпітэтаў. Іншыя іх назвы — народна-паэтычныя, пастаянныя. Як слушна адзначыў даследчык беларускага фальклору М. А. Янкоўскі, эпітэт «з'яўляецца тым тропам, які робіць шматлікія прадметы і з'явы рэчаіснасці адзінкамі мастацкай рэальнасці, носьбітамі чалавечай эстэтычнай відучасці» [38, с. 195].

Сярод сталых эпітэтаў у сваю чаргу вылучаюцца таўталагічныя, паясняльныя і метафарычныя. Таўталагічныя толькі называюць самую асноўную прымету, заключаную ў прадмеце. Гэтыя эпітэты «спароджаны тым мастацкім усведамленнем, якое добра ўмела ідэалізаваць, а не аналізаваць, глядзець, а не дэталёва ўглядацца» [38, с. 186]. У зборніку Наталлі Арсенневай знаходзім: *празрыстая* крыніца, *зялёная* дуброва, *вольная* воля, *цёмны* лес, *белы* твар, *белае* цела, *чыстая* раса, *сцюдзёная* вадзіца, *жывая* вада, *родная* старонка, *родны* край, *ветры* буйныя, *белыя* лябёданькі. Напрыклад, эпітэт *празрыстая* ў адносінах да слова *крыніца* не стварае нейкага новага значэння, бо крыніца не можа быць непразрыстай. Але эпітэт, яшчэ раз паўтараючы, падкрэслівае гэтую якасць, мае значэнне дзеля пераканальнасці вобразаў.

Паясняльныя эпітэты блізкія да таўталагічных, называюць вельмі істотную прымету, ужываюцца дзеля ідэалізацыі, значна ўзмацняючы якасць прадмета. Гэта часцей за ўсё прыметнікі, утвораныя ад назваў высакародных металаў: залаты, срэбны. Так, гераіню балады «Жаўрук» зорку-зараніцу паэтка называе «*залатой* дзеўкай». Воблік яе, незвычайная прыгажосць спрэс пададзены праз эпітэт *залаты:*

*…і ўстае дзяўчына перад ім, з зыркою*
*залатой усьмешкай, залатой касой,*
*залатыя вочы радасьці ня ўтояць,*
*залатыя пальцы торгаюць крысо…* [9, с. 43]

Як бачна, праз гэты эпітэт перададзена не толькі знешнасць (*залатая* каса, *залатыя* пальцы), але і «залатая натура» гераіні, чысціня і прыгажосць яе душы, што высвечваецца праз бляск вачэй, усмешку.

У гэтым жа творы сустракаем і даволі рэдкія ў фальклоры метафарычныя эпітэты народна-паэтычнага ўзору: «зь *мядзяным* роем зыкаў», «у нябёсах ніткай *срэбнай* след павіс».

У баладзе «Вясельле» плач-прычытанне маладой — няшчаснай дзяўчыны, якую выдаюць за пачварнага вадзяніка, пачынаецца з паэтычнага звароту, перасыпанага сталымі эпітэтамі, якія вельмі натуральна ўпісваюцца ў мастацкую канву, спрыяюць песенна-інтанацыйнаму гучанню:

*Зашумі лес, зялёна дуброва,*
*уздыміцеся, ветры буйныя,*
*залятайце да роднага таткі,*
*залятайце да роднае маткі* [9, с. 38].

Надзвычай арыгінальныя ў стылізаваных пад фальклор творах Наталлі Арсенневай эпітэты, выражаныя прыдаткамі: браты-*ветры*, сёстры-*зоры* (у тым жа звароце нявесты з балады «Вясельле») ці слязінкі-*пэрлы*, *пацеркі*-слёзы з глыбока-лірычнай «Калыханкі», створанай на матыў народных калыханак.

Агульнамоўныя эпітэты з-за сваёй узнаўляльнасці, устойлівай сувязі з паясняльным словам нагадваюць народна-паэтычныя. Яны як бы стаяць на мяжы паміж сталымі і індывідуальна-аўтарскімі. Іх маецца даволі многа, часам цяжка вылучыць са звычайных азначэнняў: *сівыя* хмары, *сіняе* неба, *жоўтая* восень, *залатая* восень, *залатыя* гарэхі, *чорная* поўнач, *чорная* ноч, *шэрая* зямля, *светлае* жыццё, *сіняя* даль, *калматыя* хмары, *ясныя* палі, *глухая* гадзіна, *ціхі* сум, *родныя* малюнкі і інш.

Самымі адметнымі ў паэтычных творах з'яўляюцца індывідуальна-аўтарскія эпітэты, таму што яны «вызначаюцца арыгінальнасцю, самабытнасцю аўтарскага ўжывання, адлюстроўваюць светапогляд пісьменніка, яго індывідуальныя асаблівасці асэнсавання рэчаіснасці» [39, с. 31]. Іншыя назвы — неасацыяваныя, суб'ектыўныя. Часцей за ўсё яны з'яўляюцца метафарычнымі: сям'я *палахлівых* асін, сонца косы *гарачыя*, ночы з *лядзяным* ззяннем зор, *сонныя* дрэвы, песні *дзікія* завеі, паўз ручаёў *сталёвых* ніць, вечар неба хварбуе ў *гарачыя* тоны, зоркай *рамонкавай*, *тонкаю*, *цьмянае* сонца *ціхое* і інш.

Персаніфікуючы з'явы прыроднага свету, паэтка тым самым перадае свой настрой, сваё адчуванне, разуменне свету: над *змрочнай* ракой, свет *няветлы*, *хмурны*, *бадзяжнае* шчасце, *няўтомная* туга, *змрочныя*, гушчарныя бары, *змрочная* часіна. У вершы «На матыў хаўтурнага маршу» свет зямнога жыцця супрацьпастаўлены іншаму, куды суправаджаюць «гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага»: «*Сэрца ад сьвету няветлага, хмурнага / ў сьвет неспазнаны, таёмны вядуць*» [9, с. 22]. Зямное жыццё недарэчнае, сумнае, дзе шчасце *бадзяжнае*, як мана, прывід. Каштоўнасці зямнога існавання аспрэчваюцца, адкідаюцца, ягоная нявечнасць, недасканаласць супрацьпастаўлена жыццю вечнаму, дасканаламу, дзе няма «ні сьлёзаў, ні *гарачага* болю».

Светлы веснавы настрой у вершы «Май» у многім ствараецца за кошт эпітэтаў, якія тут сустракаюцца амаль у кожным радку: «…Зашумеў, бы ўлетку, *сьвежы*, новы гай, / праляцеў *нячуйна* красавік *зялёны*, / на зямлі пануе *сьветла-пышны* май» [9, с. 14]. У гэтым яркім прыродным красаванні ёсць месца і для чалавека, які гэтак жа абагрэты сонечнай цеплынёй, чыя душа здольная ўспрымаць красу і пяшчоту: «Ласкай *залатою* / залівае сонца поле і мяне». Эпітэты вельмі розныя па сваім марфалагічным ўвасабленні: прыметнікі простыя і складаныя, прыслоўі, дзеепрыметныя звароты («дыван, *заліты залатым сьвятлом*»).

Улюбёная пара Наталлі Арсенневай — жоўтая, залатая восень. Звыш дваццаці вершаў, прысвечаных гэтай пары, знаходзім у яе выбраным «Між берагамі». Чатыры з іх з аднолькавай назвай — «Восень». Ад самага ранняга (1921) гэтыя вершы — сапраўдныя ўзоры пейзажнай лірыкі:

*Як не любіць мне восень залатую,*
*калі праз вопратку асін густую*
*тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,*
*і ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён* [9, с. 14].

Велічнасць, багацце, сапраўды царская раскоша восеньскай прыроды, калі ўсё застыла ў глыбокім маўчанні, бы на ўрачыстым прыёме, поўнячыся адчуваннем гэтак значнага моманту, падкрэсліваецца не толькі багаццем тропаў, але і няспешным, плаўным рытмам, дасканалым гучаннем паэтычнага радка.

У вершы «Ціха плыў месяц…» — вобраз пары зімовай, начной. Тут таксама маўклівасць, бязмоўе, але гэта ўжо зусім іншая цішыня — не панавання, а сыходу:

*Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,*
*зоры гублялі халодныя сьлёзы,*
*вецер зрываўся між клёнаў бязьлістых,*
*вецьце калышачы голых бярозаў* [9, с. 17].

Першы эпітэт стварае адчуванне далікатнае, крохкае, як шкло, бо хмары зазвычай — плямы (чорныя, шэрыя, белыя) на празрыстым фоне. Сьвятло далёкіх зораў халоднае, праз зімовую ноч не здольна сагрэць душу. Адсюль — *халодныя* слёзы. Праз эпітэты *бязлістыя* клёны, *голыя* бярозы перададзена безабароннасць перад холадам зімы. Начная пара, месячнае святло размываюць абрысы прадметаў. Усё бачыцца прывідным, неакрэсленым, без выразных контураў і зместу: «*Таялі плямы туманныя сьценяў*». Ні аднаго напоўненага жывым зместам прадмета.

Углядаючыся ў неба, паэтка бачыла яго розным: *кволым, празрыстым, ціхім, ясным.* Але самы «арсеннеўскі» эпітэт — *сіняе*, што прагучаў і ў назве зборніка. Зямля — *сумная, змрочная, сцерплая, цёплая*, заўсёды жывая, як і неба, як і месяц у ім: *прыгожы, зімовы, халодны*.

Улюбёная пара — вечар, ноч. Як і ў Максіма Багдановіча. Ночы вельмі розныя: *белыя, чорныя, цёмныя, глухія, сінія, гаманлівыя, ціхія, ліпнёвыя.* Верш «Ночы і думкі» змяшчае каля дваццаці эпітэтаў. Цалкам пабудаваны на выкарыстанні гэтых тропаў, якія, супрацьпастаўленыя, спрыяюць шырыні, панарамнасці,



бясконцасці, насычаюць пачуццём. Праз эпітэты перадаюцца розныя значэнні: колеравыя, прасторавыя, гукавыя, а праз усё гэта — пачуццёвыя:

*Ёсьць ночы белыя, ёсьць цёмныя, глухія.*
*Ёсьць гаманлівыя і ёсьць зусім ціхія.*
*Іх — больш за ўсё люблю зь лядзяным зьзяньнем зор,*
*што на шаўках нябёс празрысты ткуць вузор* [9, с. 12].

У прыведзенай страфе — эпітэт, выражаны недапасаваным азначэннем. З’ява даволі рэдкая, але ўсё ж і такая форма мае месца ў творчасці Наталлі Арсенневай: хмары *ў чырвані*, доля *без сонейка*.

Сустракаюцца і эпітэты, выражаныя прыметнымі зваротамі. Напрыклад: *поўныя рожавай мглы* пералескі. Паэтка перамалёвала імглу, звычайна шэрую, у нязвыклы ружовы колер. Але ўсё гэта — вясновыя чары (верш «Пралескі»).

Паўторы слоў-эпітэтаў, як мяркуецца, ужываюцца не толькі дзеля ўзмацнення ўражання. Паэтка як бы імкнецца яшчэ раз затрымацца на такім дакладным, дарагім слове, не хоча адпускаць яго, любуецца ім, таму і паўтарае, паўтарае. І гэта паўтарае ўжо не яна сама: паэтычнае рэха падхоплівае слова, нясе яго, пакуль не здаволіцца. Гэткія паўторы — як паэтычная гульня: у *сінім* небе, гэткім *чыстым, чыстым*; *мілыя, мілыя* сінія кветкі; неба *сіняе, сіняе, сіняе*; тонкай мглой абвязаліся *сінія* далі, / *сінія-сінія* далі на ўзмежжы нябёс. Апошні прыклад — з верша «Разьвітаньне», які наогул пабудаваны на шматлікіх паўторах, што сустракаюцца ў кожнай страфе. Гэта не толькі паўторы эпітэтаў (вельмі розных: колеравых: *сінія, сінія-сінія* далі; *чырвоным, чырвоным* пажарам; выражаных прыметнікам і сугучным яму спалучэннем назоўніка з прыметнікам: *вятраныя* хвалі, *ветру плаўныя* хвалі; выражаных прыслоўямі: *паволі, паволі*), але і сэнсава значных слоў, галоўнае з якіх — назва верша: «*Разьвітаньне з жыцьцём, разьвітаньне навекі, / разьвітаньне навекі з жыцьцёвай маной*…» [9, с. 27].

Важным стылістычным сродкам тут ёсць градацыя, калі згрупаваны словы і выразы з нарастаннем эмацыйна-сэнсавай

выразнасці: «Дзень канаў *зь недаверлівай, кволай усьмешкай*, / з *прыкрай*, *горкаю* ўсьмешкаю хворых людзёў…» Ці яшчэ гэткі яркі прыклад, калі ўся страфа пабудавана на градацыі:

*І паволі, паволі чырвоным пажарам,*
*занялося чырвоным пажарам усё:*
*і жыта, і кляноў верхавіны, і хмары,*
*й нат будзённае, шэрае ў шэрым жыцьцё* [9, с. 27].

Часам аднаго слова не хапае, каб выказаць усю паўнату зместу, тады паэтка выкарыстоўвае эпітэты, выражаныя складанымі прыметнікамі: *светла-пышны* май, *дзіўна-прыгожымі* зорамі, *цёмна-сінія* фіялкі, месяц *двурогі*, хвояў баравых убор *чорна-зялёны*, *зырка-чырвоных* агнёў, пасмам… *цёмна-сінім*, трухля *жутла-зялёная*, лябёдкі *белапёрыя*.

Тое, што ўплыў на творчасць Наталлі Арсенневай яе «ўлюбёнага паэты» Максіма Багдановіча відавочны, праявілася ў шматлікіх рэмінісцэнцыях. Таму што паэтычная хваля, узнятая нашаніўскім класікам, не магла не пакінуць следу ў вершах паэткі. Так, знакаміты Багдановічаў радок з верша «Слуцкія ткачыхі» — «Цямнее край зубчаты бору» — адлюстраваўся ў вершы «Сьнег падаў»:

*…ды пасам зубчатым сінеўся бор*
*над анямелымі даўно палямі,*
*што скутыя ляжалі маразамі,*
*адпачываючы ад летніх змор* [9, с. 26].

Паэтка паўтарыла яшчэ адну «геніяльную памылку» Максіма Багдановіча з верша «Слуцкія ткачыхі»: бор не можа быць *зубчатым*, бо сосны не маюць вострага, пірамідальнага верху, а бор — лес сасновы. Гэта елкі высяцца ў неба, вымалёўваючы на даляглядзе зубчатыя абрысы. Але высокая паэзія — гэта і ёсць спрэс «памылкі», што не адпавядаюць «узаконеным» ведам пра свет. Адной з іх — індывідуальна-аўтарскія, метафарычныя эпітэты, «дзякуючы якім з’явы рэальнасці як бы перайначваюцца і робяцца мастацкімі» [38, с. 194].



У першым паэтычным зборніку «Пад сінім небам» Наталля Арсеннева выкарыстала надзвычай разнастайныя ў граматычным выражэнні эпітэты. Зразумела, што часцей за ўсё гэта якасныя прыметнікі. Але ў якасці эпітэтаў могуць выступаць як простыя, так і развітыя прыдаткі.

У кнізе «Пад сінім небам» выкарыстана 25 простых, выражаных адным назоўнікам, прыдаткаў-эпітэтаў і 14 развітых, выражаных словазлучэннем.

У стылізаваных пад вусную народную творчасць вершах, баладах, легендах, якія паэтка змясціла ў раздзеле «Зачараваны кут» з падзагалоўкам «З крыніцы народнай» — 13 эпітэтаў-прыдаткаў, большасць з якіх простыя (10). Наталля Арсеннева не магла абысці тут гэты троп, бо, як слушна адзначыў даследчык беларускага фальклору М. А. Янкоўскі, «эпітэты ў форме прыдатка… фактычна асвоілі вялікія пласты рэчаіснасці… Такія эпітэты своеасабліва падымаюць і даносяць да слухача характарыстычныя адзнакі і прыметы персанажа… Народнае мастацтва бачыць і “ловіць” незвычайнае высокапаэтычным, унікальным па зместу і незвычайным па форме эпітэтам» [38, с. 191–192].

Ужо ў першым радку першага, зачыннага верша, які даў назву ўсяму раздзелу — «Зачараваны кут», — да назоўніка ***казкі*** паэтка далучае прыдатак ***чары***, уводзячы яго ў склад развітага звароткa, дзе праз клічную інтанацыю падкрэслівае ўзнёслы, эмацыйны лад верша: «Ой, вы, казкі, казкі-чары!»

Услед за Максімам Багдановічам, які ў апавяданні «Апокрыф» гэтак вызначыў сэнс творчасці мастака, уклаўшы высокія словы ў вусны самога Хрыста: «Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты лішні на зямлі. Запраўды кажу табе: надыйдзе яму гадзіна горычы — і чым ён разважыць тугу сваю, апроч песні твае? Як у дзень смутку, таксама ў дзень радасці ён прызавець цябе» [13, с. 50], Наталля Арсеннева даводзіць: толькі творчасць, якая ёсць спажыткам для душы, толькі песні, казкі, легенды здольны ўпрыгожыць свет штодзённага жыцця, дапамогуць угледзець «казку й на зямлі».

У гэтым уводным вершы паэтка знаёміць нас з усімі «насельнікамі» зачараванага кута: млынаром-чараўніком, русалкамі,

зданямі-страхамі, вадзянікам і вадзяніхай, лесуном і лесавіцай, ведзьмамі, змяіным царом. Казкавае царства ажывае толькі пад покрывам ночы: у імклівым лётным карагодзе кружацца русалкі, з-пад калодаў выпаўзаюць здані, «*лясун ідзе у скокі зь лесавіцай крутабокай*» [9, с. 36], маладзік сочыць за ведзьмамі, што збіраюць атрутнае зелле. Так і вее вусцішнасцю, холадам, тванню з гэтага мройнага, прывіднага свету. Асабліва выразна намаляваны вобраз вадзяніка, што не ў апошнюю чаргу дасягаецца праз выкарыстанне эпітэтаў:

*Там, а поўначы бяззорнай*
*вадзянік вылазіць чорны,*
*бруха мокрае скрабе*
*і рукой сьлізкой, зялёнай*
*вее жвір на хлеб надзённы*
*вадзянісе і сабе* [9, с. 36].

Наталля Арсеннева выкарыстоўвае тут сінестазію, што заснавана на паяднанні зрокавых (***бяззорнай, чорны, зялёнай***) і дотыкавых *(**мокрае, слізкай**)* асацыяцый.

У вершы «Лясун» адлюстравана праўдзівая трагедыя — знішчэнне царства лесуна, векавечнага бору. Эпітэт-прыдатак ***дзед*** падкрэслівае глыбокую старасць, нямогласць гэтага колісь усёмагутнага валадара перад знішчальнай сілай. Глыбокі адчай выліваецца з ягонай душы, выклікае спачуванне, суперажыванне:

*А у гушчары, прысеўшы на пнішча,*
*плакаў сутоньнямі дзед-лесунішча.*
*Плакаў стары, абціраючы вочы,*
*сьлёзы буйныя сплывалі равочкам,*
*з твару ў кары й лішаёх сіваватых*
*зьзялі расою на вусах калматых* [9, с. 36].

Усё лясное жыхарства заходзіцца ў адчайным плачы, развітваючыся са сваім адвечным прытулкам. Дасканала ўпісваецца прыдатак ***гарладзёр*** (пра крумкача) не толькі вобразным вызначэннем гэтага птаха, але і дапаўняючы карціну, заснаваную на алітарацыі на гукі **р, г**: «Грагаў крумкач-гарладзёр пералётам».



Нерэальнасць, загадкавасць дзеянняў у баладзе «Вясельле» падкрэсліваецца прыдаткам ***здані*** да назоўніка ***вербы,*** што шасцяць сухімі сукамі, падмяняючы абрад вянчання. Усё тут прывіднае, змрочнае, смутнае. Непадробнае гора маладой, якую бярэ замуж пачварны вадзянік, выказваецца ў песні-плачы дзяўчыны, у яе зваротах да самых родных людзей, адсутных тут. Замяняюць іх прыродныя з'явы, што спачуваюць няшчаснай, быццам самыя блізкія людзі:

*Была маткай мне ночка глухая,*
*родным таткам быў сплаканы ветах,*
*выпраўлялі мяне браты-ветры,*
*галасілі па мне сёстры-зоры* [9, с. 38].

У такіх выпадках ролю эпітэтаў-прыдаткаў выконваюць словы ***браты, сёстры***, а не ***ветры і зоры.*** Эпітэт, зразумела ж, мае метафарычны характар.

Праз партрэт балотніцы з аднайменнай балады паэтка не толькі раскрывае жахлівую адзіноту гераіні, але і прычыну гэтага: напоўненая злой, знішчальнай сілай, балотніца не здольна прывабіць, адштурхоўвае, палохае. Ад яе вее мярцвячынай, смяротнай небяспекай:

*Вочы балотніцы сьвецяцца трухляй*
*жутла-зялёнай, засьвецяцца — й зжухнуць,*
*косы — агню зелянкавага хваля,*
*цішкам даткнешся — і пальцы апаляць,*
*ноч ані сівер іх зьзянь не астудзіць,*
*белае цела, сьцюдзёныя грудзі* [9, с. 41].

Нават косы — неад'емны атрыбут дзявочай красы, перададзенай праз эпітэт — складаны прыдатак ***агню зелянкавага хваля*** — паўстаюць як зваблівая, але знішчальная сіла. Ненатуральны ў людскім асяроддзі колер валасоў — зялёны — зрадняе балотніцу з пануючай вакол багнай, тванню. Усё тут гнілога, шэра-зялёнага колеру.

У замове з верша «Дзяўчына», што ўкладзена ў вусны млынара-чараўніка, сустракаем два прыдаткі-эпітэты, пры гэтым адзін

з іх далучаны да назоўніка, утворанага марфолага-сінтаксічным спосабам, праз пераход з прыметніка: ***някемліцы-малому.*** Выкарыстаныя поруч з словам ***старому*** эпітэт і назоўнік падкрэсліваюць усёахопную сілу магічнага ўздзеяння літаральна на ўсіх, без выключэння. Бо нават някемнае дзіцятка не пазбегне млынаровых чараў:

*Не зьмяніць тых слоў, ні даказаць нікому,*
*ні старому, ні някемліцы-малому,*
*іх замкну я дзесяцьма замкамі,*
*заключу іх дзесяцьма ключамі,*
*а ключы па лесе расьцягаю,*
*на дне возера-прадоньня пахаваю* [9, с. 46].

У згаданых прыкладах відавочна, якія з назоўнікаў з'яўляецца прыдаткам, а які выконвае функцыю ўласна назвы. А вось у двух выпадках ужыванне прыдаткаў-эпітэтаў у баладзе «Лебядзінае возера» вызначыць тое не проста: «Жыў ён, князь, з ***лябёдачкамі-жонкамі***», «скалане нат ***продань-сінь*** паднебную». Тым болей, што ў апошнім прыкладзе два назоўнікі ўтвораныя бязафіксным спосабам ад прыметнікаў. Па сэнсу яны раўнаважныя, з розных бакоў характарызуюць назоўнік ***неба***, які тут адсутнічае.

***Продань***-сінь і возера-***прадонне*** – адзін і той жа назоўнік, што азначае бяздоннасць і глыбіню, аднак жа ў гэтых выпадках скіраваныя ў супрацьлеглых напрамках: у вышыню і глыбіню. Паэтычная прастора перакрыжоўваецца, змяшчаецца, пераломліваецца і адбіваецца ў праўдзівым люстэрку азёрнай гладзі. Як і ў нізцы «У зачарованым царстве» з «Вянка» Максіма Багдановіча, дзе люстэрка-возера «не толькі злучае-раздзяляе дзве прасторавыя бездані — вышыню і глыбіню. Яно нібы "чацвёртае вымярэнне", грань судакранання часоў — мінулага і будучага» [40, с. 475].

Сярод іншых эпітэтаў-прыдаткаў, скарыстаных Наталляй Арсенневай у першым зборніку, сустракаем фальклорна-песенныя, сталыя: зямліца-***маці***, ***краса***-вясна. Наогул, вобраз вясны і тыя, што непасрэдна звязаныя з гэтай парой года, часта падсвечваюцца эпітэтамі-прыдаткамі: вясна — ***дачка лятункаў***, асыпаюцца яблыні, ***слёзы вясны***, вясна — ***прыгажуня-княгіня***. Багатая ўладарка, што ўпрыгожвае свет, радуе хараством людскія душы, «*рассыпае вясновыя сны*» [9, с. 19] — такой паўстае вясна ў вершах «Красавік», «Люблю я сонца залатое», «Вясна», «Май» і інш. Дзякуючы выкарыстанню эпітэтаў-прыдаткаў кветкі паўстаюць у вершах як жывыя істоты: сінія кветкі — ***светлай вясны ўлюбёныя дзеткі***, кветкі — ***дзеці вясняных надзей***, фіялка — ***сіраціна***, васількі — ***краскі любыя, памяткі іншых палос***.

Перакрыжаванне зямнога і нябеснага — у наступным прыкладзе: «ў небе лялеі ***краскі сцюдзёныя зор***». Начное неба заўсёды вабіла паэтку, свет незямных летуценняў быў блізкім і зразумелым ейнай душы. У небе для яе — жыццё-***натхненне,*** дзе пануе слова ***чар.*** Таму невыпадкова сустракаюцца такія «прасветленыя» эпітэты, як зоры — ***вочы малых засмучоных анёлаў.*** Праз гэты вобраз адбываецца адухаўленне нябеснага праз вечнае, Боскае і адначаснае далучэнне, набліжэнне высокага, Боскага да зямных чалавечых пакутаў.

Шматлікія выпадкі ўжывання эпітэтаў у лірыцы паэткі сведчаць пра надзвычай тонкае адчуванне мовы, умелае выкарыстанне яе багаццяў, дасканалы густ. Усё гэта спрыяла свежасці, арыгінальнасці, непаўторнасці паэтычнага свету Наталлі Арсенневай.

# ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА


1. Калубовіч, А. Крокі гісторыі : дасьледаваньні, артыкулы, успаміны / А. Калубовіч. — Беласток ; Вільня ; Менск : Маст. літ., 1993. — 288 с.
2. Сачанка, Б. Вяртанне дадому / Б. Сачанка // Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі. — Мінск : Маст. літ., 1992. — С. 5–8.
3. Юрэвіч, Л. Літаратурны рух на эміграцыі / Л. Юрэвіч. — Мінск : Б-ка час. «Бел. гіст. агляд», 2002. — 244 с.
4. Запруднік, Я. Уводнае слова / Я. Запруднік // З гісторыяй на «Вы» : артыкулы, дакументы, успаміны. — Мінск : Маст. літ., 1994. — С. 6–10.
5. Савік, Л. Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа / Л. Савік. — Мінск : Тэхналогія, 2001. — 480 с.
6. Пашкевіч, А. Зваротныя дарогі : Проза беларускай эміграцыі XX стагоддзя / А. Пашкевіч. — Беласток : ББЛА «Белавежа», 2001. — 238 с.
7. Чыквін, Я. Далёкія і блізкія : Беларускія пісьменнікі замежжа / Я. Чыквін. — Беласток : ББЛА «Белавежа», 1997. — 201 с.
8. Адамовіч, А. Натальля Арсеньнева. Між берагамі / А. Адамовіч // Н. Арсеньнева. Між берагамі. Выбар паэзіі. — Нью-Ёрк ; Таронта : БІНІМ, 1979. — С. IX–XXXIX.
9. Арсеньнева, Н. Між берагамі. Выбар паэзіі / Н. Арсеньнева. — Нью-Ёрк ; Таронта : БІНІМ, 1979. — 350 с.
10. Мішчанчук, М. «Між берагамі» (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай) / Культура беларускага замежжа. — Кн. 1. — Мінск : Нав. і тэхніка, 1993. — С. 10–29.
11. Арсеннева, Н. З майго жыццяпісу / Н. Арсеннева // На суд гісторыі : успаміны. Дыялогі. — Мінск : Маст. літ., 1994. — С. 208–214.
12. Жыццё і творчасць Анатоля Іверса : успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 208 с.
13. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3-х т. / М. Багдановіч. — Мінск : Нав. і тэхніка, 1993. — Т. 2 : Маст. проза, пераклады, літ. артыкулы, рэц. і нататкі, чарн. накіды. — 600 с.
14. Бароўская, І. Янка Купала і станаўленне беларускай песеннай лірыкі / І. Бароўская // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні. — Гродна : ГрДУ, 2002. — С. 41–46.
15. Сямёнава, А. Лёс і над лёсам / А. Сямёнава // Крыніца. — 1996. — № 11–12. — С. 3–20.





16. Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш : гістарычны нарыс, артыкулы, эсэ / М. Скобла. — Мінск : Бел. кнігазбор, 1999. — 272 с.
17. Арсеннева, Н. Выбраныя творы / Н. Арсеннева. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2002. — 592 с.
18. Бахтин, М. М. Формы времени и хронотопа в романе // Вопросы литературы и эстетики. — М. : Худож. лит., 1975. — 397 с.
19. Фолкнер, У. О литературе / У. Фолкнер // Вопросы литературы. — 1977. — № 1. — С. 205–222.
20. Бахтин, М. М. Эстетика словесного творчества / М. М. Бахтин. — М. : Искусство, 1979. — 205 с.
21. Бердяев, Н. А. Время и вечность / Н. А. Бердяев // На переломе. Философские дискуссии 20-х годов. Философия и мировоззрение М. : Политиздат, 1990. — 401 с.
22. Арсеньнева, Н. Пад сінім небам. Вершы 1921–1925 г. / Н. Арсеньнева. — Вільня : Віленскае выд. Б. Клецкіна, 1927. — Факсімільнае выданне. Мінск : Маст. літ. — 144 с.
23. Званарова, Л. Колеравая сімволіка ў паэзіі Зінаіды Гіпіус і Наталлі Арсенневай / Л. Званарова // Культура беларускага замежжа. Кн. 3. — Мінск : Бел. навука, 1998. — С. 97–109.
24. Байкоў, М. Аб творчасці Наталлі Арсенневай / М. Байкоў // Полымя. — 1927. — № 8. — С. 85–98.
25. Макмілін, А. Беларуская літаратура дыяспары / А. Макмілін. — Мінск : Тэхнапрынт, 2004. — 440 с.
26. Марціновіч, А. Між берагамі. Аб жыцці і творчасці Наталлі Арсенневай / А. Марціновіч // Дзе ж ты, храм праўды? — Мінск : Маст. літ., 1996. — С. 137–152.
27. Арсеннева, Н. Чарнобыль / Н. Арсеннева // ЛіМ. — 1992. — 6 сакавіка. — С. 2.
28. Григорьян, К. Н. Пейзаж в русской живописи и поэзии / К. Н. Григорьян / Литература и живопись. — Л. : Наука, 1982. — С. 128–146.
29. Петров-Водкин, К. Хлыновск. Пространство Евклида. Самаркандия / К. Петров-Водкин. — Л. : Искусство, 1982. — 544 с.
30. Лосев, А. Ф. Проблема вариативного функционирования живописной образности в художественной литературе / А. Ф. Лосев // Литература и живопись. — Л. : Наука, 1982. — С. 31–65.
31. Тарасюк, Л. Пад небам паэзіі : Творчасць Наталлі Арсенневай 20–30-х гг. / Л. Тарасюк // Полымя. — 1996. — № 6. — С. 247–257.
32. Дмитриева, Н. Изображение и слово / Н. Дмитриева. — М. : Искусство, 1962. — 250 с.

33. Багдановіч, І. Э. Авангард і традыцыя. Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. — Мінск : Бел. навука, 2001. — 387 с.
34. Арлоў, У. Імёны свабоды / У. Арлоў. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2007. — 576 с.
35. Геніюш, Л. Выбраныя творы / Л. Геніюш. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2000. — 616 с.
36. Гардзіенка, Н. Лісты з часу страчаных надзеяў : Антон Адамовіч да Натальлі Арсеньневай / Н. Гардзіенка // Запісы БІНІМ. — 2010. — № 33. — С. 111–120.
37. Адамовіч, А. Лісты да Натальлі Арсеньневай / А. Адамовіч // Запісы БІНІМ. — 2010. — № 33. — С. 121–216.
38. Янкоўскі, М. А. Паэтыка беларускай народнай прозы / М. А. Янкоўскі. — Мінск : Вышэйш. школа, 1983. — 271 с.
39. Чабан, Т. Космас «Вянка». Літаратурны каментарый да «Вянка» Максіма Багдановіча / Т. Чабан // Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1992. — Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды.— С. 463–518.






*Раздзел II*

# ТВОРЧАСЦЬ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ У АЙЧЫННЫМ ЛІТАРАТУРНЫМ КАНТЭКСЦЕ



# УСЛЕД ЗА ЎЛЮБЁНЫМ ПАЭТАМ: Наталля Арсеннева і Максім Багдановіч

Творчасць Максіма Багдановіча стала ўзорам паэтычнага майстэрства для многіх наступнікаў. Між іншых беларускіх паэтаў у гэтым плане асабліва вылучаецца постаць Наталлі Арсенневай — нашай знакамітай паэткі, чыё жыццё даследчыкі называюць пяціэтапнай эміграцыяй. Ніхто з айчынных творцаў не зрабіў гэткага плённага ўплыву на яе лірыку, як Максім Багдановіч. Пра гэта сведчыць і экзэмпляр дэбютнага зборніка паэткі «Пад сінім небам», дзе на тытульным лісце яе рукою было напісана: «Шаноўнаму Адаму Ягоравічу, бацьку майго улюбёнага паэты». Гэты экзэмпляр знаходзіцца ў аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Аўтограф яшчэ раз сведчыць пра тое, што відавочна праступае ў многіх творах Наталлі Арсенневай: яна ішла ўслед за ўлюбёным паэтам. Максім Багдановіч быў ейным літаратурным настаўнікам. Ён — «пясняр чыстае красы», як назваў паэта Антон Навіна, — аўтар першай рэцэнзіі на адзіную прыжыццёвую кнігу паэта «Вянок», падказаў ёй шлях — да красы высокага сіняга неба, да чароўнай велічы залатой восені, да пошуку гармоніі ў прыродзе і ў чалавечай душы, да «натуралізацыі ў беларушчыне» (тэрмін належыць эміграцкаму крытыку Антону Адамовічу) праз заглыбленне ў загадкавы свет народнай міфапаэтычнай творчасці, праз імкненне стаць на забыты нашай літаратурай шлях — «свой родны, беларускі шлях, пралажаны праз соткі год народнай песеннай працы» [1, с. 287].

Варункі жыцця абодвух паэтаў, здавалася б, не былі спрыяльнымі для захаплення беларусікай. І Максім Багдановіч, і Наталля Арсеннева ўзгадоўваліся ў сем'ях, дзе панавала расейская мова. Згадаем, што бацька Максіма, беларус, настаўнік па адукацыі, этнограф, фальклярыст, які пакінуў значны след у вывучэнні

міфапаэтычнай культуры свайго народа, не ўхваляў захапленне сына беларускай паэзіяй. Што тады гаварыць пра Наталлю Арсенневу, рускую па нацыянальнасці, дачку вайскоўца, якая не тое што ніколі нават не чула беларускай мовы, але не ведала, што гэткая мова існуе, што край, дзе яна жыла, і ёсць — Беларусь.

Наталля Арсеннева ўпершыню пачула жывую беларускую мову ў часе вяртання з бежанства, з Яраслаўля, дзе ў тым часе жыла сям'я Багдановічаў. Гэты шлях доўжыўся блізу двух гадоў. Панавала бязладдзе грамадзянскай вайны. Не было транспарту, хварэлі дзеці. Таму падоўгу прыпыняліся ў вёсках, дзе юная Наталля прагна ўслухоўвалася ў тутэйшыя гаворкі, адкрывала для сябе таямніцу беларускай мовы. Часам не магла дайсці да разумення беларускага слова, загадкавы сэнс якога не адразу даваўся рускамоўнай дзяўчыне. У тых вёсках яна ўпершыню пачула аўтэнтычнае гучанне беларускіх народных песняў, напоўненыя фантастыкай казкавыя аповеды ў доўгія зімовыя вечары. Усё гэта зачароўвала ўражлівую душу будучай паэткі.

Міфалагічная, казкавая Беларусь паўставала перад Максімам Багдановічам інакш, найперш праз знаёмства са скарбамі знакамітай бацькавай бібліятэкі, зборамі беларускіх фалькларыстаў, а таксама з аповедаў цётак, сёстраў бацькі Марыі і Магдаліны, што і на чужыне не забываліся ні сваёй мовы, ні беларускай культуры. З усяго гэтага, а найперш паэтычнага ўяўлення творцы, паўстане вобраз Беларусі, спячай прыгажуні, у вершах нізкі «У зачарованым царстве» ў ягоным знакамітым «Вянку».

Адзін з раздзелаў першай кнігі Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам» таксама напісаны на аснове народна-песеннай традыцыі. Назва яго пераклікаецца з назвай нізкі Максіма Багдановіча — «Зачараваны кут». Гэта і ёсць сама Беларусь, яе зачараваныя, схаваныя часам на самае дно народнай памяці скарбы. І як у творах нашаніўскага паэта, гэтак і тут паўстаюць вобразы лесуноў, вадзянікоў, балотніцы, русалкі. Падабенства між творамі абодвух паэтаў «выяўляецца ў інтэрпрэтацыі свету прыроды як своеасаблівай жывой субстанцыі, у сістэме мастацкіх вобразаў-міфалагемаў» [2, с. 253].



Класічная беларуская паэзія заўсёды плённа выкарыстоўвала багацце фальклору. Наталля Арсеннева ўзбагаціла гэтую традыцыю. Адзін з першых вершаў гэтага плана — «Крыніца», што характарызуецца багаццем народна-паэтычнага сінтаксісу. Гукавая анафара, накапленне: «*За ніўямі, балатамі, / за хваёвымі барамі…*», шматпрыназоўнікавасць, калі адзін і той жа прыназоўнік ужыты і перад назоўнікам, і перад прыметнікам: «*над вадою, над жывою*», інверсія: «*дзень цэлы*», «*сэрца людскага*», «*з жыццём нямілым*» — ствараюць своеасаблівы баладна-напеўны рытмічны малюнак. Пераносы і ўмаўчанні спрыяюць сэнсаваму выдзяленню ключавых слоў, засяроджваючы на іх увагу, разнастайнасці інтанацыі, роздуму там, дзе праз абрыў аўтарка запрашае да сумоўя:

*Толькі ж горкая дарога*
*да яе… Людзкім нябогам,*
*гэтым — сьмеласьці ды сілы*
*не дастала… З паўдарогі*
*іншых пушчы і разлогі*
*завярнулі…* [3, с. 9]

Некаторыя вершы цыкла маюць баладны змест: «Балотніца», «Лебядзінае возера», «Вясельле». Казкава-фантастычныя элементы, незвычайныя падзеі, пераўтварэнні, таямнічасць характэрны для гэтых твораў. Як слушна адзначае літаратуразнаўца Лідзія Савік, тут «раскрываюцца традыцыйныя для фальклору матывы, дзеянні, вобразы, але ў трагічнай афарбоўцы прывіднага, ірэальнага свету, праз адмоўны паралелізм у апісанні вяселля і наогул лёсу маладых» [4, с. 52].

А ў вершаваным апавяданні «Дзяўчына» паэтка выкарыстала замову — самы старажытны з усіх фальклорных жанраў. Узноўлены праўдзівы абрад чарадзейства з угляданнем у водныя глыбіні, трайнымі абыходамі-колазваротамі, выкарыстаннем гаючай моцы зёлак. Напісаная рыфмаванай прозай, напоўненая вобразнасцю, магутнай глыбіннай сілай, замова і сапраўды здольна ўздзейнічаць на чалавека. Асабліва калі яна ўкладзена ў вусны старога млынара-ведзьмака, а аб'ектам уздзеяння

ёсць зусім яшчэ юная асоба, што так марыць пра шчасце, што спадзяецца праз чары замовіць сабе шчаслівую долю. Апавяданне вяртае нас у тыя даўнія часы, калі чалавек шчыра верыў у магічную сілу слова, валадарамі якой і былі знахары-ведзьмакі:

*Абтулюся хмарамі сівымі,*
*абаткнуся зорамі малымі,*
*абмачуся чыстаю расою,*
*абсушуся сонцавай касою…* [3, с. 46]

Той жа замоўны матыў, той жа вобраз млынара-знахара сустракаем у вершы Максіма Багдановіча «Ціхі вечар; знікнула спякота…», дзе адбываецца чараванне-замаўленне на вадзе, каб змыць з дзявочага сэрца скруху. Пачынаецца замова з традыцыйнага этыкету — паклону, з развітага паэтычнага зваротка — звароту да вады, бо вада разумеецца вялікай сілай, праўдзівай валадаркай, што ведае шлях да мора-акіяна, дзе будзе пахаваны «важкі сум ад сэрца Кацярыны»:

*Пакланюся я табе, царыца,*
*Чыстая, сцюдзёная вадзіца.*
*Ты цячэш балотамі, імхамі*
*Жоўтымі, сыпучымі пяскамі…* [5, с. 93]

Як і ў яе «ўлюбёнага паэты» Максіма Багдановіча, усё ў лірыцы той пары — гэта малюнкі і спевы: «*Песні, што ўлетку сплываюць на нівы, / плач лясуна, сінь вазёр лебядзіных, / жахі глухое паўночнай гадзіны*» (верш «Сонца весьнянае ў золаце косаў…») [3, с. 7]. І бадай што самае дакладнае аўтарскае вызначэнне музычнасці, спеўнасці яе паэзіі — у заключных радках гэтага верша:

*Усё, што у думках нясьцішных* ***пяе****, —*
*вершы мае* [3, с. 7].

Наталля Арсеннева добра ведала беларускія народныя песні, сведчаннем чаму — выкарыстанне шматграннага багацця вобразна-паэтычнага свету гэтай невычэрпнай крыніцы, што спрыяла паэтычнаму натхненню, радавала сэрца творцы, напаўняла душу чароўным гаючым бальзамам. Прызнанне пра гэта сустракаем у вершы «У дажынкі»: «*Хмелем родных песьняў / мы наліваем чары сэрц*» [3, с. 128].

Узнікненне мастацтва — гэта праўдзівы цуд. У баладзе Наталлі Арсенневай «Песьні», якую паэтка ўключыла ў нізку «Зачараваны кут», створана легенда пра ўзнікненне песеннага мастацтва. Пра тое, як «*дзіў найбольшы стаўся — / нарадзіўся лек на гора*». Бо сапраўды смутным і горкім было жыццё людзей, пакуль не прыйшла да іх песня:

*Кажуць людзі, што сівою*
*даўнінай сьпяваць ня ўмелі.*
*Скрозь бязь песьні лог травою,*
*а палі брынялі сьпеляй,*
*і, лён сьцелячы увосень,*
*ці жнучы жытцо сьпякотай,*
*ці рашчэсваючы косы,*
*не сьпявалі, нат употай* [3, с. 39].

Гэты верш пераклікаецца з апавяданнем «Шаман» Максіма Багдановіча, у якім герой-апавядальнік разважае пра зробленае ім у далёкім Нарымскім краі адкрыццё: што ёсць коранем красы, у чым сутнасць мастацкага, паэтычнага ўспрыняцця жыцця, прыроды? Пачуццё красы і ёсць тым цудадзейным лекам ад страху, ад гора: яго «вытварылі сабе людзі таму, што былі змучаны і запужаны суворай зямлёй; вытварылі, каб пазбыцца няяснага, але бяскрайнага, усю душу запаўняючага смутку. І тады лягчэй стала ім жыці, бо зямлю яны бачылі прыгожай, а не такой, якою яна запраўды ёсць…» [1, с. 68]. У красе, у мастацтве, у песні сталі шукаць людзі збавення, магчымасці напоўніць жыццё не адно «*лустай жытняй*». У фінале балады Наталлі Арсенневай гучыць матыў узвышэння чалавека-мастака, чыя творчасць так яскрава змяніла жыццё людское:

*І пайшоў адсюль па сьвеце,*
*звык — шукаць у песьнях рады,*
*скрозь бо зь песьняй — сонца сьвеціць,*
*скрозь бо зь ёй — іскрыцца радасьць.*

*Бо бязь песьні ўжо ня жыць нам,*
*Не лавіць нам вецер весьні,*
*Не пад'есьці лустай жытняй,*
*Да яе ня даўшы песьні* [3, с. 40].

У адным з праўдзівых шэдэўраў пейзажнай лірыкі — вершы «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…» Максім Багдановіч адлюстроўвае стан надзвычайнага суладдзя чалавечай душы з светам прыроды, калі абвастраюцца і зрок, і слых, бо на першы план выступае відучасць душы, адбываецца ўзаемапранікненне, узаемараставарэнне чалавечага і прыроднага:

*Заварожаны вячэрняй цішынёй,*
*Я не цямлю, дзе рука, дзе галава;*
*Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,*
*Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,*
*Чую ў цішы, як расце трава* [5, с. 62].

Гэткая ж гармонія дасягнута і ў вершы Наталлі Арсенневай «Шэпты ночы», у прасторы якога пануе надзвычайная сцішанасць, бо «*з душою душа гавора*». Вынікам духоўных пошукаў ёсць узыходжанне на новы шлях, што азначае новае ўспрыняцце, бачанне, разуменне сэнсу жыцця. Гэта рацыянальная аснова, роздумная канва твора. Аднак жа лірычнае дзеянне скіравана ў іншую, эмацыйную прастору, якая поўніцца пачуццямі мройнымі, недасказанасцю. Верш завяршаецца тым жа пытаннем, якім і пачынаецца: «*Што сумна шэпчуць мне тыя ночы*?» Паэтка наогул даволі часта выкарыстоўвае кальцавую кампазіцыю, што дае магчымасць не толькі паўторна звярнуцца да пастаўленай праблемы, але і паспрабаваць асэнсаваць яе на новым вітку паэтычнай думкі.

Надзвычайнае суладдзе вобразаў, настрояў назіраем, параўноўваючы вершы «Блішчыць у небе зор пасеў…» Максіма Багдановіча і «Незгаданае» Наталлі Арсенневай. Створанае, пасеянае вялікім Творцам вечнае для вечнасці ў высокім небе адлюстроўваецца ў заўсёднай сяўбе — тварэнні рук чалавечых дзеля той жа вечнасці — прадаўжэння жыцця на зямлі:



*Блішчыць у небе зор пасеў;*
*У полі – рунь і ў небе – рунь* [5, с. 61].

Гэтая вечная зорная рунь дае надзею ў няпростым зямным існаванні, дзе чалавека сустракаюць смутак і роспач, дзе гэтую надзею часта нішчаць ахвяры і страты. Так у вершы Наталлі Арсенневай:

*І хоць гасьне у сэрцы надзея*
*Пад цяжарам падзей ды ахвяр, –*
*Ў небе зорная рунь зелянее,*
*Ў небе месяца зьзяе пажар* [3, с. 64].

Колазварот — адзін з асноўных сэнсавых матываў паэзіі Максіма Багдановіча. Рух жыцця адбываецца па бясконцым коле, калі бясконца паўтараюцца нараджэнне і смерць. Асабліва выразна гэты матыў прагучаў у вершы-прысвячэнні гімназічнаму сябру Дзіядору Дзябольскаму, які ўспрымаецца як працяг размовы аб сэнсе і формах жыцця:

*Быць можа, пуціна жыцця*
*Лягла пярсцёнкам, друг,*
*І я ў краіне забыцця*
*Не раз раджаўся, як дзіця,*
*Прайшоўшы поўны круг* [5, с. 245].

Цыклічны рух, колазварот у лірыцы Наталлі Арсенневай сімвалізуе жыццё прыроды. Увага паэткі ў гэтым колазвароце заўсёды запыняецца на ранняй вясне, дзе пануе сіні колер: вочы пралесак, неба. Пазней, на эміграцыі, прыгажосць і чысціню вясны ўвасабляе магнолія, чыя снегавая квецень супрацьпастаўлена чорнаму, затаптанаму бруку. Незаўважна прамільгне лета, астудзіць холадам зіма. Але самая ўлюбёная пара для Наталлі Арсенневай — залатая, жоўтая восень. «Паэтка восені» — гэтае вызначэнне стала замацавалася за ёю яшчэ з 30-х гадоў. Восень перастае быць часам, парой года. Гэта ўжо стан душы, калі суладдзе, знітаванасць робіць магчымым цудоўнае і зусім звычайнае ў паэзіі пераўвасабленне:

*Будуць людзі гукаць цябе проста*
*«Наталяй»,*
*а мяне клікаць «Восеняй»,*
*гэтак жа проста* [3, с. 262].

У раздзеле «На ростанях» з кнігі Наталлі Арсенневай «Між берагамі» знаходзім нізку «Аджытае», што складаецца ўсяго з чатырох вершаў: «Вясна», «Лета», «Восень», «Зіма». Гэтак паэтка перапляла, знітавала ў адно гадавы прыродны цыкл і перажытае чалавекам.

Кола як кругабег чалавечага жыцця часам пазначана паэткай асобнымі пунктамі, пункцірамі, прыпынкамі: «*Маленства… вёскі… восені… магільнік*» (Магнолія). Гэтыя чатыры знакі можна спарыць і адначасна супрацьпаставіць: маленства (вясна) — восень (сталасць), вёскі, дзе пануе жыццё, — магільнік. Чалавечае і прыроднае пераплятаецца, падмяняе адно другое.

Тое ж кола жыцця Наталля Арсеннева часам апрадмечвае: праз вобраз ружанца, як у вершы «Ня ўмею я тужыць», дзе бясконцае паўтарэнне жыццёвых пакутаў атаясамляецца з заўсёдным прыходам лістападу. У вершы «Сыны й маці» вобраз гэтага самага змрочнага ў гадавым цыкле месяца адлюстраваны ў трагічнай, злавеснай постаці — «крывавы старац з кіем».

У апошнім вобразе адкрыта гучыць матыў смерці, развітання з жыццём, якому Наталля Арсеннева надавала значную ўвагу. Безумоўна, і тут уплыў паэзіі Максіма Багдановіча відавочны. Па-новаму загучаў гэты матыў у нашаніўскую пару менавіта ў ягонай паэзіі. Хаўтуры, праводзіны ў апошні шлях адбываюцца па пэўным каноне, але штоазу гэта падзея ўражвае глыбіннай сутнасцю, сутыкненнем розных светаў і розных светаўспрыняццяў, калі спалучаецца неспалучальнае:

*Чорны крэп, спеў царкоўны, пах ладана,*
*Труп, ляжачы ў труне нерухома, —*
*Так таінственна ўсё, так знаёма,*
*Ўсё так проста і так неразгадана* [5, с. 241].

Верш Максіма Багдановіча «Хаўтуры» філосаф Уладзімір Конан назваў унікальным у нашай паэзіі, бо тут намаляваны



«выразны па трагічнай пластычнасці малюнак пахавання… Уражвае глыбокае адчуванне таінства ў звычайным абрадзе» [6, с. 140]. І ва ўспрыняцці таямніцы сыходу Наталля Арсеннева таксама ідзе ўслед за Багдановічам. Магчыма, пададуцца выпадковымі ў творчасці васямнаццаці-дваццацігадовай паэткі матывы смутныя, пахавальныя. Яны сустракаюцца ў многіх вершах, сведчаць пра надзвычайную засяроджанасць юнай асобы, сур'ёзнасць, здольнасць заглыбляцца ў адвечнае, таямнічае. Зрэшты, верш «Хаўтуры» Максім Багдановіч таксама напісаў у дзевятнаццаць гадоў.

У вершы Наталлі Арсенневай «На матыў хаўтурнага маршу» мінорныя настроі не перашкаджаюць захапленню лірычнай гераіні красою таемнага, неспазнанага, нябеснага, якое звычна супрацьпастаўляецца шэраму зямному існаванню. Рэцэнзуючы кнігу паэткі «Пад сінім небам» у часопісе «Полымя», савецкі крытык Мікола Байкоў асаблівую ўвагу ўдзяліў менавіта гэтаму вершу, адзначыўшы: «Ён стаіць на роўным стопню з найлепшымі вершамі М. Багдановіча й запраўднага нашага клясыка Янкі Купалы» [7, с. 92]. Меладычнасць, малітоўнасць робяць гэты твор светлай песняй, бо йдзецца не пра развітанне з жыццём, а пра сустрэчу з вечнай гармоніяй Раю:

*Чуеш… як пошчакі маршу хаўтурнага*
*ціха ў паветры імглістым плывуць?*
*Сэрцы ад сьвету нявеглага, хмурнага*
*Недзе ў нязнаную далеч вядуць?* [3, с. 22]

Праз увесь верш, дзе выразна гучаць пахавальныя мелодыі, праходзіць сэнсавы матыў-паўтор «*Досі ўжо, досі ўжо жыць*!». Але ён (як і твор у цэлым) успрымаецца не як вітанне смерці-нябыту, а як адрачэнне ад жыцця «*недарэчнага, сумнага*», як светлы, без трагедыі, без болю, пераход у пазазямное іншабыццё, куды вабіць «*сьвет неспазнаны, таёмны*»:

*Гукі трымцяць, наплываюць, зьліваюцца,*
*плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца…*
*Зь імі і сэрца дрыжыць:*
*досі ўжо, досі ўжо жыць!* [3, с. 23]

І Максім Багдановіч, і Наталля Арсеннева — паэты паўтонаў. Колеравая палітра іх лірыкі ўражвае не столькі багаццем і разнастайнасцю, колькі адчуваннем высакароднай гармоніі колеру, адметнасцю калярыту — колеравай пабудовы — паэтычнага вобраза. Часцей вершы нешматколерныя, вытрыманыя ў блізкіх, роднасных колерах, у адной колеравай гаме. Таму магчыма гаварыць пра калярызм іх паэзіі — тонкую нюансіроўку тонаў у межах зблiжанай колеравай гамы.

Самы ўлюбёны колер ранняй лірыкі Наталлі Арсенневай — сіні. Як і ў Максіма Багдановіча.

Сіняе неба — гэта Храм, дзе пануюць светласць і краса, летуценні, натхненне, бясконцасць і несмяротнасць. Традыцыйна гэты колер лічыцца халодным, але паэтка якраз і насычае яго душэўным цяплом, здольнасцю лячыць стомленыя душы. Колеравую палітру складаюць усяго тры блізкія па гаме кампаненты: *сіні* (сіняе неба), *шэры* (шэрая зямля), *белы* (белыя крылы летуценняў). Неба — крыніца святла, радасці, натхнення:

*Пад сінім небам усё іначай —*
*здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,*
*такім нязнаным, дзіўным, узьлётным,*
*жыцьцём-натхненьнем бязь сьлёз, турбот.*
*У сініх неба нясьмяротных*
*бясконцым сьвятам сплывае год* [3, с. 7].

Зямное, нявечнае, недасканалае — шэрае супрацьпастаўлена высокаму, значнаму, прыгожаму — сіняму. А вырвацца з шэрай будзённасці, ад зморы, зла і нявтласці дапамагаюць белыя крылы. Сапраўды, белая фарба тут, як і ў жывапісе, раздзяляе зямное гібенне і нябеснае ўзвышэнне. Паэзія Наталлі Арсенневай «па маляўнічасці, жывапіснай выразнасці… стаіць поруч з тымі, каго брала яна ў свае настаўнікі» [2, с. 251].

Не абыдзены ў колеравай палітры Максіма Багдановіча і Наталлі Арсенневай срэбраны колер. Надта часта ўзнікае ён перад зрокам у нашай няяркай, але такой далікатна-рухомай прыроднай красе. Колер гэты традыцыйна халодны (снегу, золкасці, ночы, імглы, змроку, месяца, павучыння). У вершы Максіма Багдановіча «Срэбраныя змеі» — гэта таксама прыгожы, але халодны адбітак жывой красы. Тут, як заўважыла Ірына Багдановіч, «паэт схоплівае незабыўны момант у адвечным прыродным руху — момант, калі серабрыстае нияркае месячнае святло залівае паверхню возера» [8, с. 183]:

*Ў хвалях гуляць выпускае*
*З віру змяю за змяёй;*
*Вось іх грамада ўсплывае,*
*Срэбнай ірдзіцца луской* [5, с. 239].

Ёсць у абодвух паэтаў яшчэ адна вялікая агульная любоў — Вільня, горад, дзе Максіму Багдановічу давялося пабываць толькі аднойчы, тым шчаслівым летам 1911 года, калі ён прыехаў у Беларусь з далёкага Яраслаўля па запрашэнні рэдакцыі «Нашай Нівы». У выніку ў зборніку «Вянок» маем цэлую нізку, прысвечаную Вільні, — «Места». Юны паэт быў зачараваны горадам, што ў тым часе стаў цэнтрам беларускай культуры. Асабліва ўражанне зрабіў на яго знакаміты касцёл Святой Ганны — праўдзівы цуд, створаны рукамі мастака, каб узвысіць да самага неба сваё глыбокае пачуццё. Захапленне гэтым помнікам Максім Багдановіч перадаў у вершы «Касцёл святой Анны ў Вільні»:

*Як лёгка да гары, як красна*
*Узносіць вежы ён свае!*
*Іх зарыс стройны ў небе ясна*
*Ізломам дзіўным устае.*
*А вастрыя іх так высока,*
*Так тонка ў вышу неба тнуць:*
*Што міг — і ўжо, здаецца воку,*
*Яны ў паветра паплывуць* [5, с. 247].

Наталля Арсеннева, для якой Вільня, — родны горад, дзе прайшлі светлыя гады дзяцінства і юнацтва, наогул усе свае эміграцкія гады пражыла «між Вільняй і Рочэстэрам» (Ян Чыквін). У нізцы «Прывіды» з кнігі «Між берагамі» ёсць абразок «Готык», дзе ўваскрашоны праз шматлікія напластаванні памяці, праз неабсяжныя прастору і час касцёл Святой Ганны. Сустрэты

на чужыне гатычны храм вярнуў ва ўяўленні паэткі віленскую святыню. У вершы адлюстравана веліч гатычнага касцёла, перададзена прага вышыні, калі лірычная гераіня імкнецца дасягнуць высокага неба, а таксама геніяльнасць чалавека-творцы, што ўзвёў гэты цуд. Усё гэта літаральна вырываецца праз адну (зразумела, клічную) інтанацыю. Паэтычныя радкі нагадваюць узвышаныя звароты акафіста:

*Готык непераможны!*
*Готык імклівы, вечны!*
*Келіх лялеі божае!*
*Наквець грамнічнай сьвечкі!* [3, с. 260]

Паэтычная градацыя, калі экспрэсія ўзмацняецца за кошт нагнятання эпітэтаў, выкарыстання паўтораў, ляжыць у аснове кампазіцыі ўсяго верша. Узняты да неба храм — гэта сімвал перамогі боскага, вечнага над зямным, грахоўным: «*Веры прамень над нявераю, / гвалтам, / пагардай, / пакорай!*»

Узорам для вершаў патрыятычнага, грамадзянскага гучання, што трывала ўвайшлі ў творчасць Наталлі Арсенневай з часоў вайны, таксама з'яўляюцца творы гэтага накірунку з спадчыны Максіма Багдановіча. Так, верш «Прысяга» вельмі выразна пераклікаецца з знакамітай «Пагоняй». Падабенства і рытміка-інтанацыйнае, і вобразнае. У цэнтры вобраз Бацькаўшчыны-Беларусі, асноўны матыў — патрыятычнае служэнне Айчыне. Але калі ў творы Багдановіча гучыць зварот-папрок да тых, што «забылі» Беларусь, «адракліся» ад яе, то ў вершы Арсенневай — гэта ўзнёслы маналог-зварот верных сыноў да свае Бацькаўшчыны:

*Беларусь!*
*Наша маці-краіна!*
*Ты з нас моцных зрабіла людзей.*
*Не загінулі мы і ня зьгінем,*
*пакуль Ты нас наперад вядзеш!* [3, с. 139].

Вобраз Пагоні таксама аб'ядноўвае гэтыя два творы. У заключнай страфе верша Наталлі Арсенневай гучыць прысяга



юных патрыётаў перад спрадвечным сімвалам беларускай дзяржавы. Верш быў напісаны для беларускай моладзі, якая ў гады ліхалецця ўзняла Пагоню з нябыту:

*Прысягаем*
*Табе мы сягоньня,*
*што пакуль хоць адзін з нас жыве, —*
*нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні*
*мы не зганьбім,*
*мы ўславім яе!* [3, с. 139–140].

Зразумела, былі ў Наталлі Арсенневай і іншыя паэтычныя настаўнікі. Але ніхто з іх не зрабіў гэткага вялікага ўплыву на яе творчасць, як Максім Багдановіч. Услед за ім паэтка вымалёўвала залатыя ўзоры на сінім небе сваёй паэзіі, прайшла шлях ад апявання залатой восені да ўслаўлення залатой Беларусі.

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА І ЛАРЫСА ГЕНІЮШ: жыццёвыя і творчыя перазовы

Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш — яркія постаці айчыннага пісьменства сярэдзіны XX стагоддзя. Уладзімір Арлоў назваў Наталлю Арсенневу «выбітнай паэткаю, жанчынай з таго шэрагу, які пачынаецца з Рагнеды і Эўфрасіньні» [9, с. 258]. Ларыса Геніюш з гэтага ж шэрагу.

Поруч з абедзвюма паэткамі хораша паўстае асоба Максіма Танка. Згадаем вядомы фотаздымак з першай сустрэчы паэтычных важакоў заходнебеларускай літаратуры, як справядліва называлі ў 30-я гады Наталлю Арсенневу і Максіма Танка. Гэта адбылося 21 снежня 1937 года на вечарыне ў Вільні, што ладзіла Беларускае навуковае таварыства. Дакладную дату падае Максім Танк у дзённіку «Лісткі календара». Часопіс «Беларускі летапіс» азваўся на тую падзею, змясціў фотаздымак. Гарадзенская паэтка Данута Бічэль у прадмове да публікацыі лістоў Наталлі Арсенневай пісала: «Разглядвала фотку Наталлі Арсенневай і Максіма

Танка, неяк інтымна прытуліўшыхся, як два галубкі, двое шчаслівых у сваёй духоўнай сяброўскасці, лучнасці… А містычна — з другога боку — я каля Максіма Танка бачыла Ларысу Геніюш. Не спытала і не ведаю, ці спрабавала напісаць Ларыса Наталлі ў ЗША, ці хоць калі яны сустрэліся…» [10, с. 64]. І хоць не магло быць побач з Арсенневай і Танкам у 1937 годзе Ларысы Геніюш, бо тады яна была найперш маці, што гадавала свайго маленькага сына, але менавіта тады, напрыканцы 1937 года, пачала пісаць, відавочна, пад уплывам беларускіх газетаў, часопісаў, пра што згадвала ў «Споведзі»: «Я крыху пісала, вершаў сваіх нікуды не пасылала, часам мужу» [11, с. 241]. І згадвае страфу з таго даўняга верша:

*Калі першая зорка на неба загляне,*
*тады ўспомні, мілы, пра нас,*
*душа мая выйдзе к табе, на спатканне,*
*па небе, на зорку якраз* [11, с. 241].

А ў тых заходнебеларускіх перыёдыках (часопісах «Калосьсе», «Родныя гоні», «Нёман», «Шлях моладзі» і інш.) вершы Наталлі Арсенневай з'яўляліся пастаянна. Так, відавочна, Ларыса Геніюш і пазнаёмілася з яе творчасцю. Друкавацца стане пазней, першыя вершы датуюцца 1939 годам, а яркі паэтычны дэбют адбудзецца ў берлінскай газеце «Раніца» ў 1940 годзе. Ім стане верш «Беларуска», які быў успрыняты рассыпанымі па чужых краях беларусамі вельмі прыхільна. Аўтарка адышла ад традыцыйнага адлюстравання вобліку маладой суайчынніцы як прыгожай, мілай, працавітай, пакорнай лёсу. Матыў развітання з каханым, якога чакаюць змагарныя дарогі, напоўнены не слёзным смуткам і нараканнем на нядолю, а жаданнем самой тварыць уласны лёс. Яе беларуска — моцная, гордая, годная быць гаспадыняй сваёй зямлі, здольная пастаяць за сябе і свой Край. І гэта вабіла, было новым і незвычайным:

*Калі цябе, мілы, Краіна пакліча*
*за родны змагацца парог,*
*то суму не будзе ў мяне на абліччы*
*і страху не будзе ў грудзёх* [11, с. 26].



Відавочна, мае рацыю Ян Чыквін, калі сцвярджае, што такі вобраз беларускі быў створаны пад уплывам пражскага асяроддзя беларускіх палітычных эмігрантаў, «якое было прасякнута тым духам, які зарадзіўся ў час бурлівага разгортвання масавага беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху 1918–1921 гг. І выліўся ў… "ваяцкую паэзію", запачаткаваную Макарам Краўцовым… Паэтэса стварае, на "ваяцкі" лад, вобраз беларускай жанчыны-змагаркі, вобраз нетрадыцыйны… Яна натхняе сваёй адвагай, смеласцю мілага… яна ведае, што ім разам трэба будаваць Краіну» [12, с. 107–108].

Пра пачатак сталай творчасці паэтка будзе згадваць як пра свядома прынятае, вельмі важнае, лёсавызначальнае рашэнне: «Так, знача, я цяпер буду пісаць. Усё дарагое мне забралі, панішчылі, але ёсць тут у няволі браты мае, цёмныя, нават не ведаюць добра, хто яны, самыя сябе падцэньваюць, вось я хачу аказацца да іх, але так: сэрцам да сэрца» [11, с. 254].

Як адзначае літаратуразнаўца А. М. Пяткевіч, у яе «літаратурнай дзейнасці, па сутнасці, не было вучнёўскага перыяду, які праходзяць звычайна маладыя паэты. Гэтаму садзейнічалі нялёгкія выпрабаванні, якія рана выпалі на яе долю, душэўная развітасць, самастойнасць» [13, с. 176]. Тое ж можна сказаць і пра яркі дэбют Наталлі Арсенневай, і бадай што з тых жа прычынаў у яе таксама не было вучнёўскага перыяду. Хоць першаштуршком да яе творчасці сталі прычыны зусім іншага, асабістага плана: яе светлая закаханасць у настаўніка літаратуры Максіма Гарэцкага, імкненне звярнуць ягоную ўвагу. Праз многа гадоў паэтка згадае пра гэта: «Настаўнік літаратуры, якую я так любіла… Я доўга не адважылася гаварыць аб тым, што і я пішу, Гарэцкаму. Зрэшты, якая б з гэтага была б карысць? Гарэцкі… і расійскія вершы! І я маўчала і вучылася, і чытала» [14, с. 468]. Авалодала мовай настолькі дасканала, што ў хуткім часе з поспехам выканала ролю Агаты ў Купалавай «Паўлінцы». «Заахвочаная ўдачаю, я спрабавала пісаць па-беларуску вершы. І як ні дзіўна, у мяне адразу пайшло вельмі гладка» [14, с. 469].

А сустрэцца ім, ужо вядомым беларускім паэткам, усё ж давялося. У няпростым часе, у чэрвені 1944 года, калі Ларыса Геніюш

прыязджала з Прагі ў Менск. Прыпынялася на кватэры менавіта Кушаляў, пра што расказала ў сваёй «Споведзі». Асабліва значнай падаецца ацэнка паэткай асобы Францішка Кушаля, на якога шмат бруду выліта. І не толькі ворагамі беларушчыны. «Павароты яго жыццёвага шляху дагэтуль змушаюць гісторыкаў распачаць зацятыя спрэчкі» [9, с. 206]. Ларыса Геніюш пісала: «Мала ў жыцці сустракала я так шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі» [11, с. 301]. Пра саму гаспадыню згадвала таксама з глыбокай павагай, адзначаючы яе ахвярнасць: «Яна наагул найменей думала пра сябе, памагала іншым» [11, с. 302].

І ліставанне між імі было. Знайшліся тры лісты Ларысы Геніюш да Наталлі Арсенневай, напісаныя восенню 1944 года. Падрыхтавала да друку і пракаментавала іх Наталля Гардзіенка. А ў новай кнізе эпісталярыю Ларысы Геніюш «Лісты з Зэльвы» знаходзім сведчанне, што яны ліставаліся і ў 70-х гадох. У лісце да Зоські Верас чытаем пра скрушна-камічны выпадак, калі аўтарка атрымала «вестку аб смерці адной паэтэсы, якая ня тут жыве. Я паплакала крыху, паспачувала ў сэрцы і вельмі ўсцешылася, атрымаўшы ад "памершай" картку, пісаную 27 ліпеня 1974 года. Калі другі раз мне казалі аб сентыментальнай паэзіі гэтай выдатнай у маіх вачах, старой паэткі (у сувязі з яе "смерцю"), я не ўстрымалася, каб не паказаць жывы доказ яе "ўваскрашэньня"» [15, с. 205]. Каментуючы гэты ліст, Міхась Скобла сцвярджае, што размова ідзе пра Наталлю Арсенневу: «Дэзынфармацыя пра яе сьмерць неаднаразова распаўсюджвалася ў гарадзенскім літаратурным асяродку» [15, с. 419].

Пакінуўшы гэтыя ўдакладненні, гэтак жа містычна ўслед за Данутай Бічэль уявім іх побач, маладых і надзвычай прыгожых: Наталлю Арсенневу, Максіма Танка, Ларысу Геніюш. У 30-я гады светлая прыязнасць звязвала Максіма Танка з Наталляй Арсенневай, у 60–70-я — з Ларысай Геніюш. І не проста прыязнасць на словах, а ахвярнае імкненне дапамагчы. Наталлі Арсенневай у 1939 годзе, калі яна з сынамі — сям'я ворага народа — апынулася без сродкаў для існавання, менавіта



Максім Танк дапамог уладкавацца на працу ў вілейскую раёнку «Сялянская газета». А пасля арышту як мог ратаваў паэтку, падаючы свой голас разам з Янкам Купалам у яе абарону. Нашы літаратуразнаўцы ў сваіх артыкулах пра паэтку прычыну яе вяртання з Казахстанскай ссылкі наіўна шукаюць у гэтым. Калі б тая злачынная ўлада прыслухоўвалася да такіх зваротаў, то ніхто з творцаў у ГУЛАГу не застаўся б. І пасля вяртання з ссылкі Наталля Арсеннева знайшла падтрымку таксама ў яго, смелага і чалавечнага Максіма Танка, які ізноў дапамог і з працай, і з жыллём. З удзячнасцю згадвала паэтка: «Ён, не ў прыклад іншым, быў мне нават напісаў ліст у Казахстан, не пабаяўся…» [14, с. 483].

Апальная «зэльвенская непаслушніца» (так яе назваў літаратуразнаўца Ян Чыквін) Ларыса Геніюш мела ад Максіма Танка вялікую маральную падтрымку, сустракаючыся і лістуючыся з ім пасля вяртання з лагераў. У многім дзякуючы ягоным намаганням пабачылі свет дзве яе кнігі таго часу «Невадам з Нёмана» і «На чабары настоена». Клопат Максіма Танка пра абедзвюх паэтак сведчыць не толькі пра ягоную чалавечнасць, але і пра разуменне, якога высокага ўзроўню талентам былі пазначаныя гэтыя творцы.

Яны былі вельмі розныя. І вельмі падобныя. Гараджанка Наталля ўзгадоўвалася ў сям'і рускага вайскоўца. Але вельмі любіла прыроду, лес. Ларыса — у маёнтку-хутары, дзе прырода натуральна ўваходзіла ў жыццё з самага маленства. Былі зачараваны беларускімі казкамі-песнямі, якія ў жыццё Ларысы ўвайшлі з нараджэння, а Наталля ўпершыню адчула іх прыгажосць у часе вяртання сям'і ў Вільню з Яраслаўля. Абедзве ў дзяцінстве, раннім юнацтве зведалі пакуты бежанства часоў Першай сусветнай вайны. І гэткае ж пакутнае вяртанне на зруйнаваныя, страчаныя сядзібы.

Абедзве выйшлі замуж за шчырых беларускіх патрыётаў. Шкада, што не захавалася шлюбнага фотаздымка Кушаляў. Ды і ці магло быць вяселле ў збяднелай сям'і Арсенневых такім, як у дачкі пана Міклашэвіча, што было б зафатаграфавана, як у Ларысы і Янкі Геніюшаў. Мне ўяўляецца, што шлюб Наталля

брала ў той мілай белай сукенцы, у якой бачым яе на фотаздымку першага выпуску Віленскай беларускай гімназіі. Былі шчаслівымі ў шлюбе, наколькі наогул можна быць жанчыне шчаслівай. І ў мацярынстве. І не абышоў іх самы страшны боль — страта дзяцей. Кушалі пахавалі свайго першынца Яраслава ў Менску, а Ларыса ў вязніцы і ў лагерах нічога не ведала пра свайго пакінутага хлопчыка, з якім разлучана была на доўгія гады. Не ведала нават, ці жывы. Пакінутага ў вельмі няпростым падлеткавым, юнацкім узросце, калі хлопчык асабліва патрабуе ападтрымкі і апекі родных. У часе рэдкіх сустрэчаў з мужам «стараліся не ўспамінаць Юркі, бо гэта было цяжэй нашых сілаў у гэты час» [11, с. 375]. І тут жа дадае, тлумачыць: «Не ўспамінаць яго было нельга, можна было толькі не гутарыць аб ім». З годнасцю трывала ўсё, а вытрываць боль з-за сына не магла: «Доля сына свідравала мозг, паласавала нервы» [11, с. 363]. Вярнулася, знайшла свайго Юрку. Але ўжо зусім не таго светлага хлопчыка, маленькага патрыёта, што меў гонар цярпець за Беларусь, а скалечанага нялюдскім лёсам чалавека, праз якога столькі болю давядзецца вытрымаць ягоным бацькам. Каб пачуць ад яго надзвычай горкую праўду пра тое, што давялося перажыць.

Відавочна, невыпадковыя тыя шматлікія вобразныя перазовы, што сустракаем у вершах паэтак. Найперш прыгадаем матыў *пад сінім небам,* што даў назву першай паэтычнай кнізе Наталлі Арсенневай, праз які паэтка імкнулася пазначыць шлях-палёт думкі, пачуцця да красы незямной, прывіднай:

*пад сінім небам усё іначай —*
*здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,*
*такім нязнаным, дзіўным, узьлётным,*
*жыцьцём-натхненьнем бязь сьлёз, турбот* [3, с. 7].

Праз гэты матыў выказвае паэтка самае запаветнае, жаданае, як і Ларыса Геніюш у вершы «Блукаю сёння па родным Краі…», дзе, аднак, мары лірычнай гераіні скіраваны ў іншым напрамку, да сціплай прыгажосці радзіннага Краю:

*Пад тваім небам, чыстым і сінім,*
*быць канапелькай,*
*быць тваім гордым, вечным ўспамінам,*
*мая зямелька* [11, с. 69].

Але той эстэцкі кірунак заходнебеларускай паэзіі, узначальвала які якраз Наталля Арсеннева (цалкам згаджаемся з заўвагай А. М. Пяткевіча: неабходна «ўкласці ў дадзенае вызначэнне самы высокі пазітыўны змест» [13, с. 62]), меў не меншую вартасць у плане патрыятычнага выхавання, бо якраз і раскрываў усю тую прыхаваную, стоеную адметнасць красы нашага краю, што так прываблівала аматараў прыгожага пісьменства. «Лірыка Н. Арсенневай кранала чытача эмацыянальна-эстэтычным інструментарыем і выхоўвала беларускасць з большай энергетычнай сілай» [13, с. 63]. З не меншай, чым хай нават вельмі таленавітыя патрыятычныя дэкларацыі.

Уплыў фальклору, матывы і вобразы народна-песеннай паэзіі ўваходзяць у творчасць паэтак амаль з самага пачатку, зразумела, у рознай ступені. Што да Ларысы Геніюш, то, як слушна сцвярджае Данута Бічэль, «асновай яе паэзіі была народная песня, па якой яна ткала, як перабіранкі, квяцістыя, далікатныя, мудрыя, самабытныя, смелыя метафары» [16, с. 234]. Невыпадкова менавіта фальклорны матыў прадзіва, ткацтва — адзін з галоўных у яе паэзіі. Так, яна старанна і акуратна праз вобразнае слова ткала нітку і жыцця, асэнсоўваючы ягоныя павароты, страты, ведаючы, што ўсё адбываецца па волі вышэйшай, і майстравала канву сваёй паэзіі. Бо сама яна з роду ткалляў. І ў прамым сэнсе гэтага слова таксама. Згадаем цудоўны фотаздымак, зроблены ў Гудзеўскім музеі, на якім Ларыса Антонаўна прадзе на калаўротку тонкую нітку. Кабета паважанага веку, але якая ж прыгожая! Строгага фасону, акуратная сукенка, хораша завязаная квяцістая хустка, пярсцёнак на руцэ. І светлая, нават нейкая загадкавая ўсмешка на твары, быццам углядаецца яна ў часы далёкай маладосці. Або і сапраўды чаруе, перабіраючы нітку часу. І робіць гэта так спраўна і лёгка, што праца ператвараецца ў сапраўдную творчасць:

*Пальцам няцяжка нітачку віць,*
*долю з праменных валокнаў,*

*нітачка ўецца, песня ляціць,*
*зоры калыша звонку* [11, с. 178].

Гэта радкі з паэмы «Куфар», у якой матыў ткацтва, прадзіва — стварэння сапраўдных мастацкіх цудаў, наогул, скразны ў творчасці паэткі, прагучаў асабліва шырока, магутна. А ў зачыне паэмы нават час той даўні пазначаны галоўнай прыкметай — гэтай жаночай працай:

*Быў час ў маім Краі*
*сягоння туманны,*
*аднесены хваляй,*
*час прадзены, тканы* [11, с. 175].

У спадчыне Наталлі Арсенневай гэты матыў таксама не абыдзены. У вершы «Ткалля» са зборніка «Сягоньня» створаны вобраз гераіні, вясковай дзяўчыны на выданні. Яе настрой насуперак вайне мажорны, бо жыццё мацнейшае за смерць, знішчэнне. Добра засвоенае ад маці майстэрства радуе юную ткаллю, а жыццесцвярджальная сіла даўняй традыцыі надае ёй упэўненасці:

*Нат ня буду задумляцца,*
*ці пашле той кон сватоў, –*
*запяю і буду ткаці,*
*як вучыла дзеўку маці,*
*у дванаццаць у нітоў!* [3, с. 106]

Абедзве пакінулі вершы, навеяныя светлым пачуццём мацярынства. Блізкія да спрадвечнай песні беларускіх матуляў калыханкі. Юная паэтка Наталля Арсеннева ў хуткім часе па заканчэнні Віленскай беларускай гімназіі разам з сям'ёй апынулася ў Слоніме, дзе гадавала дзіця. Тады яна і напісала сваю першую калыханку.

Вершы Ларысы Геніюш «Зорка», «Сын і матуля», набліжаныя да калыханкі, хораша гучаць у выкананні ансамбля «Белы сон» з Беластока. Ласкава прамоўлена просьба маладой матулі пра спакойны сон для свайго сыночка:



*Засвяці мне, зоранька,*
*засвяці ясней,*
*хай сынок мой скоранька*
*на руках засне!* [11, с. 42].

І пра шчаслівую долю для дзіцяці, што абышла ягонага бацьку-змагара: «*Ты ж хоць сыну, зоранька, / засвяці ясней!*»

Абедзве прайшлі праз ГУЛАГ. Наталля Арсеннева пакінула ўспаміны «З Казахстанскай ссылкі», Ларыса Геніюш і тады ў нялюдскіх умовах не пакідала пісаць вершы. Тры раздзелы ў «Споведзі»: «Гегенна», «Лагер», «Абезь» — гэта яе сведчанне не толькі пра здзек з самога паняцця «чалавечнасць», але і пра нязломнасць духу, пра вялікую сілу веры, якая давала магчымасць выстаяць.

Абедзве зведалі чужыну, таму гэты вобраз стаў адным з асноўных у вершах перыяду эміграцыі. Наталля Арсеннева адлюстравала стан душы выгнанцаў праз дасканалы вобраз — між берагамі, што даў назву галоўнай кнізе яе жыцця. У зачынным вершы, дзе ў цэнтры рух бясконцай жыццёвай плыні, паўстае вобраз асобы мужнай, што прайшла праз нялёгкія выпрабаванні:

*А я б яшчэ плыла,*
*няхай між берагамі*
*каменьне, і віры, і дна глыбінны жвір…*
*Ці раз параненая імі да крыві*
*не паддалася ўсё-ж, ня пала я ў змаганьні* [3, с. 3].

Часцей паэткі перадавалі стан душы выгнанніка праз карціны прыроды. Так, у вершы Ларысы Геніюш «Чужына» змрочны малюнак позняй восені навявае смутныя думкі пра долю чалавека далёка ад Радзімы:

*Так часта ў чужым ды няветлівым краі*
*аб ціхія сэрцы бяздомных людзей*
*сумней, як той вецер аб дрэвы, зайграе,*
*злая доля ударыць, зазвоніць сумней* [11, с. 29].

Захапленне красой прыроды, асабліва рухомымі, зменнымі карцінамі вячэрняй, начной пары ўпершыню ў айчынным пісьменстве шырока адлюстраваў нашаніўскі класік Максім Багдановіч. Паэткі былі вялікімі прыхільніцамі ягонай творчасці. Нагадаем, што назва першай кнігі Ларысы Геніюш «Ад родных ніў» падказана радком з вядомага верша «Слуцкія ткачыхі». Што да Наталлі Арсенневай, то існуе мноства прыкладаў паэтычнага наследавання творчасці Максіма Багдановіча. Паэткі прынеслі сваё адметнае бачанне ў карціну згасання белага дня, святла. Згадаем верш Ларысы Геніюш «Вячэрняя містэрыя», узнёслы, малітоўны лад якога адпавядае настрою надзвычайнай сцішанасці, урачыстасці:

*Золатам тканаю рызаю*
*пакрылася неба без хмар.*
*Пацеркі зораў нанізаных*
*вечар кладзе на алтар* [11, с. 26].

Але ў яшчэ большай ступені выяўляецца гэты матыў у імпрэсіяністычнай паэзіі Наталлі Арсенневай, дзе пералівы фарбаў згасання малююцца праз далікатнае судакрананне з чалавечымі настроямі ў шматлікіх вершах: «Светлы дзень дагарае…», «Ціха плыў месяц…», «Увечары», «Перад ночай», «Вячорны абразок», «Вячорнаю парою» і інш. Першы з згаданых твораў літаратуразнаўца Люба Тарасюк называе «дзівоснай з-паміж вясняных настрояў элегіяй… дзе сам першы радок, эмацыянальны ключ верша, варты таго, каб застацца ў паэтычнай класіцы» [2, с. 249]. У колеравай палітры дамінуе тое ж золата, што і ў вершы Ларысы Геніюш:

*Сьветлы дзень дагараець над сумнай зямлёю…*
*Ліпаў лісьцейка хварбай гарыць залатою,*
*сад пажоўклы цямнее, маўчыць* [3, с. 7].

Абедзве былі моцнымі, шмат цяжка фізічна працавалі. Літаральна да апошніх гадоў жыцця. Ларыса Антонаўна працавала на агародзе, на кветніках, сама рамантавала і бяліла старую хату Генюшоў, насіла ваду, даглядала хворага і да таго ж вельмі



далікатнага Івана Пятровіча. А Наталлі Арсенневай давялося пакінуць сталае месца ў Нью-Ёрку, дзе ўжо прыжылася, каб выгадаваць унукаў, дзяцей сына Уладзіміра, што рана страцілі маці. Хлопчыку было восем гадоў, а дзяўчынцы ўсяго чатыры. А пасля давялося дапамагаць і хворым сватам, бацькам нявесткі.

Абедзве сталі беларускімі паэткамі ў многім насуперак таму асяроддзю, у якім узгадоўваліся. Ларыса — шляхецкаму, спаланізаванаму, Наталля — рускаму, рускамоўнаму.

І ўрэшце, абедзве доўгі час былі паэткамі забароненымі ў Беларусі. І гэта недарэчнасць, бо якраз у той час, за які ім прыпісваліся неіснуючыя правіны, «на пачатку 40-х, калі вымушана прымоўклі прызнаныя беларускія песняры, калі перастала гучаць беларуская паэтычная араторыя, жаночая партыя гэтымі дзвюма паэткамі была выкананая бездакорна. Як з гледзішча прафесійнага, так і з ідэалагічнага — акупантам не было прысвечана ні аднаго слова, ніводнай фальшывай ноты» [17, с. 11].

Іх творчасць была з захапленнем ўспрынята чытачамі напрыканцы 80-х гадоў, калі пачалося актыўнае вяртанне ў айчынную літаратуру забароненых творцаў.

Гэтыя дзве вялікія беларускія паэткі містычна сустрэліся ў жніўні 2010 года ў мястэчку Зэльва, калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Над яе магілай узнёсла прагучала малітва «Магутны Божа» на верш Наталлі Арсенневай.

## ШЛЯХІ Ў ПАЭЗІЮ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ І МАКСІМА ТАНКА

Першы месяц восені — час іх прыходу ў гэты свет: Наталля Арсеннева нарадзілася 20 верасня, Максім Танк — 17-га. Праз многія дзесяцігоддзі ў Беларусі традыцыйна ўшаноўваецца ў гэтым месяцы толькі адно імя — Максіма Танка. А гэта азначае, што айчынная літаратура ўздымаецца да вяршыняў з дапамогай усяго аднаго крыла: творчасці беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Тое ж магутнае, няхай нават параненае, крыло —

літаратурнае замежжа — усё ніяк не набярэ належнага ўзлёту на Бацькаўшчыне.

Постаці Наталлі Арсенневай і Максіма Танка пастаўлены поруч невыпадкова. Яшчэ з 30-х гадоў гэтыя паэты сталі «паэтычнымі важакамі» заходнебеларускай літаратуры. Максім Танк стаяў на чале яе актыўнай, дзейнай, змагарнай плыні, Наталля Арсеннева апявала высокую красу, «Багдановіча "ціхае каханьне", пералучанае з рамансавага кантэксту ў патрыятычна-настальгічны» [18, с. XXV].

Ужо ад самага пачатку сваёй творчасці Наталля Арсеннева і Максім Танк па-рознаму асэнсоўвалі свой шлях. Так, запеўны верш да зборніка паэткі «Пад сінім небам» — гэта шлях-накірунак яе слова «*Ад злых, нявеtлых песняў гора / ад змогаў шэрае зямлі / у неба сіню, у неба мора*». А Максім Танк у адным з першых вершаў «Песня» (1931) заклікае сваю паэзію: «*Ляці ты туды, дзе звіняць яшчэ путы… / Дзе гора пануе з няволяю лютай*».

Збліжае вершы матыў руху, лёту, палёту. Раз'ядноўваюць — накірунак (у Наталлі Арсенневай — да нябесных высяў, «*у край бязь сьценяў*», у Максіма Танка — да зямных сцежак) і мэты (у Танка: «*І ў сэрцах будзі ты надзеі жывыя*», «*Змагацца за волю вядзі ўсіх бяздольных*»; у Арсенневай — да жыцця нязнанага, дзіўнага, жыцця-натхнення без слёз, турбот).

Асэнсаванне, чым ёсць іх творчасць, і надалей разводзіла паэтаў па розных шляхах:

*Сонца вясьнянае ў золаце косаў,*
*срэбныя вербы на плёсах бялёсых,*
*восені зырка-чырвонай пажары,*
*ночныя зводы і ночныя чары… —*
*вершы мае* [3, с. 7].

У такіх вершах Наталлі Арсенневай даследчыкі адзначаюць «зменлівасць, складанасць колеравай палітры, лёгкую плыткасць або драматычную напружанасць святла» [2, с. 251].

Вершы Максіма Танка «Мы яшчэ ўсіх шляхоў не апелі», «Эх вы, песні», «У маршы» — гэта песні гневу, болю, што гартуюць свае сілы да змагання:



*Мы яшчэ ўсіх шляхоў не апелі,*
*Не змаглі з жыцця нашага плесняў,*
*І не ўсе навальніцы, мяцелі*
*Адзвінелі на струнах песняў* [19, с. 50].

Дарогі Наталлі Арсенневай і Максіма Танка перасякліся не толькі ў паэзіі, але і ў жыцці. Яны не маглі не сустрэцца. Упершыню гэта адбылося 21 снежня 1937 года на вечарыне, што ладзіла Беларускае навуковае таварыства. Гэтую дату падае Максім Танк у апублікаваным дзённіку «Лісткі календара». Наталля Арсеннева ва ўспамінах сцвярджае, што была зіма 1935 года. Відавочна, што паэтка памылілася. Бо гэты ж год, 1937, падае і Антон Адамовіч у прадмове да выбранага «Між берагамі». Ды і часопіс «Беларускі летапіс» азваўся на тую падзею, змясціў фотаздымак. Было гэта ў 1937 годзе.

Месца сустрэчы невыпадковае, знакавае — Вільня. Цэнтр заходнебеларускай культуры. Для Наталлі Арсенневай — улюбёны горад, калыска яе маленства, шляхі юнацтва, найсвятлейшая мроя ў далёкім заакіянскім жыцці. Для Максіма Танка Вільня гэткая ж блізкая, але — інакш: тут ён шукае і знаходзіць сваё, вясковае: «Неяк хутка прывык я да Вільні. Можа таму, што вуліцы акраін, дзе я туляюся, мала чым адрозніваюцца ад вясковых. Летам тут можна сустрэць коней, кароў, коз, пачуць, як голасна пераклікаюцца пеўні, восенню гэтыя вуліцы пахнуць сенам, гароднінай, садавінай, зімой — бярозавым ды сасновым дымам з комінаў, а вясной — верхаводкай, капяжамі, балотам» [20, с. 15].

Сустрэча была не шараговай. Пакінула след у душы і Наталлі Арсенневай, і Максіма Танка. У згаданых вышэй успамінах на эміграцыі паэтка пісала: «Чытала тут свае вершы. Ізноў цесна сутыкнулася з усімі старымі знаёмымі, пазнала новых. Максім Танк і ягоная творчасць зрабілі на мяне вялікае ўражанне» [14, с. 471]. Лаканічна, але — не хаваючы пачуццяў.

Запіс, зроблены ў дзённіку Максіма Танка, даволі вялікі. Высока ацэньваючы творчасць Наталлі Арсенневай, паэт робіць гэта надта абачліва, з самага пачатку заяўляючы: «Агулам, я — не прыхільнік яе паэзіі…» Але мастак у змагарным Танку на нейкі

момант бярэ верх, на задні план адыходзяць агаворкі, і перад намі паўстае вельмі трапная характарыстыка творчасці паэткі: «…Некаторыя яе вершы, прачытаныя на гэтым вечары, мне спадабаліся сваім лірызмам, вобразнасцю. Трэба прызнаць, што са сваіх інтымных пачуццяў яна ўмее вязаць прыгожыя карункі. Зараз пасля доўгага маўчання яна перажывае нейкі стан прабуджэння» [20, с. 123]. Заканчваецца запіс зусім іншым настроем. Малады паэт адназначна адмяжоўваецца ад Наталлі Арсенневай з-за ідэйных перакананняў. Стрыманасць пераходзіць у непрыязнасць, а то і непрыхаваную варожасць: «Я заўважыў, што сярод прысутных было шмат сватоў, якім хацелася, каб паміж намі завязалася нейкая творчая дружба. Няўжо яны не бачаць, што мы — людзі рознага складу, розных поглядаў? Выпадкова сустрэліся і не ведаю, ці сустрэнемся больш калі» [20, с. 123].

Ніхто сёння пэўна не можа сказаць, ці не давялося Максіму Танку, рыхтуючы да друку свае дзённікі ў 1970 годзе, рэдагаваць запіс, пазначаны той датай. Бясспрэчна наступнае: калі б тут была толькі станоўчая ацэнка творчасці Наталлі Арсенневай, асобы, якую згадваць наогул было небяспечна, то ці застаўся б гэты запіс у кнізе, выдадзенай на пачатку сямідзясятых?

Пра тое, што насамрэч прыхільнасць да Наталлі Арсенневай у паэта засталася, сведчыць многае. Неаднойчы ён будзе пазней апекавацца апальнай паэткай. Так, перад ейнай ссылкай у Казахстан менавіта Максім Танк дапамог уладкавацца на працу ў Вілейцы ў рэдакцыю мясцовай «Сялянскай газеты», дзе колішняе знаёмства перарасло ў сяброўства: «Мы вельмі пасябравалі з Танкам і ягонай Любай» [14, с. 475].

Разам з Максімам Танкам і Міхасём Машарам на пачатку сакавіка 1940 года Наталля Арсеннева была запрошана ў Мінск на сустрэчу з сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Самае запамінальнае ўражанне было і самым балючым: «Кучар зрабіў Танку цікавую заўвагу, калі мы раз ішлі Савецкай вуліцай» [14, с. 475]. Слова «цікавую» тут відавочны эўфемізм. Хутчэй — недарэчную, незразумелую. Далей — вельмі трапная, крыху з гумарам характарыстыка Максіма Танка: «Танк, вядома, як Танк, ішоў, смяяўся, голасна гаварыў па-беларуску, бо па-іншаму ён ці ўмеў». Тут маецца на ўвазе не іншая мова, а звонкагалоссе, якога ў горадзе няпроста пазбыцца ўраджэнцу шырокіх лугоў і ніў. Пра тое Максім Танк таксама пісаў у «Лістках календара»: «Вярнуўшыся ў Вільню, і я доўга не магу прывыкнуць да гарадской сцішанай гамонкі, якой толькі можна запоўніць невялічкі пакой, а не поле або гэты лес» [20, с. 19].

Вось тое «цікавае» Кучарава: «Не гаварыце так голасна па-беларуску, у нас гэта не прынята». І гэта ў сэрцы Беларусі — Менску!» [14, с. 475]. Гэты боль — знішчаная родная мова ў сталіцы краіны — вярэдзіў душу паэткі заўсёды. У адным з нешматлікіх інтэрв'ю, якое яна дала беластоцкай газеце «Ніва» ў 1994 годзе, Наталля Арсеннева ізноў гаворыць пра тое ж: «А ў Менску бяда, людзі нават па-беларуску не гавораць» [14, с. 515]. Тая ж Кучарава заўвага была ўспрынята Наталляй Арсенневай, беларускай паэткай, як абраза. А як гэта ўспрыняў Максім Танк? Хутчэй гэтак жа. Але ў «Лістках календара», тых, што выдадзены за савецкім часам, мы пра гэта, зразумела, не прачытаем.

Максім Танк быў адзіным, хто даслаў ссыльнай паэтцы ліст у Казахстан. Гэта быў надзвычай смелы ўчынак. Не адвярнуўся ад яе і па вяртанні: дапамог уладкавацца на працу ў рэдакцыі газеты ў Беластоку, знайсці кватэру. Ды і клопат пра вызваленне Наталлі Арсенневай з боку Максіма Танка, пэўна, быў усё ж таксама хай не асноўнай, але прычынай дзеля яе вяртання.

У сваім архіве паэт бярог фотаздымкі з той памятнай сустрэчы. Адзін з іх, дзе Максім Танк разам з Наталляй Арсенневай і Янкам Шутовічам на віленскай вуліцы, быў надрукаваны толькі ў 1993 годзе ў часопісе «Роднае слова». Іншаму фотаздымку, на якім толькі Наталля Арсеннева і Максім Танк («Увесь вечар мы сядзелі побач. Гаспадар нават нас сфатаграфаваў» [20, с. 123]), пашанцавала больш: ён быў надрукаваны ў часопісе «Беларускі летапіс». Якія шчырыя, адкрытыя ўсмешкі на іх дасканала прыгожых тварах. Усмешкі — не проста поза перад аб'ектывам. Відаць, нейкі дасціпны жарт рассмяшыў паэтаў.

Сустрэча стала працягам той дыскусіі, што ўжо пачалася між Наталляй Арсенневай і маладымі паэтамі. Пачатак ёй паклаў вядомы верш паэткі, які так і называўся «Маладым паэтам» і быў

надрукаваны ў тым жа «Беларускім летапісе» (№ 1 за 1936 год). Упершыню ў гэтым вершы сустракаем надзвычай натуральнае для лірыкі Наталлі Арсенневай параўнанне-параўвасабленне лірычнай гераіні і восені — яе ўлюбёнай пары. Але не гэта тут галоўнае. Аўтарцы, відаць, патрэбна было (і сабе самой) вытлумачыць, чым ёсць яе паэзія, яе шлях. Нельга згадзіцца, што тут — «прызнанне нейкай сваёй нявартасці» [2, с. 257]. Хутчэй — сцверджанне, што краса — усюды, у кожнай найдрабнейшай, кволай былінцы, у кожнай праяве свету, што яшчэ не была ўбачана іншымі. Ідэя «стаю над жыццём» і сапраўды не ёсць «ключ да разумення творчасці паэткі» [2, с. 257]. Гэта, магчыма, погляд з пэўнай адлегласці на тых, што ішлі іншай дарогай. Як погляд восені на веснавое разводдзе. Але — не сыход са свайго шляху:

*Нібы жоўтая восень,*
*стаю над жыцьцём*
*і гляджу на яго,*
*хоць навокал — змаганьне.*
*Мае вершы —*
*над сонным балотам трысьцё,*
*ймгла сівая асеньняга раньня* [3, с. 78–78].

Як справядліва адзначыў літаратуразнаўца М. І. Мішчанчук, «Наталля Арсеннева вызначаецца найперш уменнем спаборнічаць у сваіх творах з іншымі творцамі, шукаць свае варыянты мастацкага рашэння праблемаў…» [21, с. 24]. Можна дапоўніць: весці дыскусію шляхетна, ненавязліва сцвярджаючы сваё, але прымаючы і іншае.

Ужо ў той дзень, мяркуючы па запісу, Максім Танк вырашыў і сваю пазіцыю выказаць вершам: «Дарогі нашы разыходзяцца ў процілеглых напрамках. Відаць, калі буду нешта пісаць, і выкажу гэтую сваю думку» [20, с. 123]. Верш быў напісаны даволі хутка, праз чатыры дні, 5 студзеня. Пад назвай «Нашы шляхі», з прысвячэннем Наталлі Арсенневай быў змешчаны ў часопісе «Калосьсе» (№ 1 (10) за 1937 год). За савецкім часам не друкаваўся. Нават у шасцітомны збор не ўвайшоў: крамольнае прысвячэнне.



У цэнтры верша — вобраз шляхоў, дарогаў. Гэта лейтматыў не толькі многіх твораў паэта, але і ягонага дзённіка. Аўтар неаднойчы раздумваў над сэнсам свайго шляху і ў жыцці, і ў творчасці. Да прыкладу, 29 ліпеня 1935 годаМаксім Танк пісаў пра сваю неабыякавасць да розных літаратурных школаў. Надзвычай метафарычна характарызаваў паэзію Заходняй Беларусі: «Паэзія наша — цяжкая, як камень, вырваны з бруку пад час вулічных баёў, немілагучная — як стогн ці крык, чырвоная — як пралітая кроў. Іншай яна на сёння і не можа быць» [20, с. 32].

Малады паэт быў надта катэгарычным. Да «нашай» ён, зразумела, ніяк не далучаў паэзію Наталлі Арсенневай, пяшчотную і далікатную, як лёгкія воблакі, прыгожую, як вытканыя рукою майстра карункі, мілагучную, як літанне да Творцы, сінюю, як бяздоннае неба, што адбіваецца ў вачах вясновых красак.

Максім Танк быў пэўны: ад уплыву розных літаратурных школаў яго ратуе «адчуванне галоўнага напрамку — дарогі» [20, с. 32]. Што ляжала ў аснове гэтага шляху? На чым грунтавалася ўпэўненасць паэта ў сваёй перавазе? Як слушна сцвярджае Уладзімір Калеснік, гэта — «ідэал духоўнай перавагі ўдзельнікаў рэвалюцыйна-вызваленчага руху… якая давала пафас усёй яго творчасці» [22, с. 27]. Эстэтычная вартасць паэзіі, бясспрэчна, прызнавалася, але ставілася не на пярэдні план. У іншай сваёй працы літаратуразнаўца пацвярджае тую ж думку: «Паэт верыць у сваю дарогу таму, што яна цяжкая, сумленная дарога пакут і барацьбы» [23, с. 219].

Верш «Нашы шляхі» пачынаецца не па-танкаўску плаўнай, цягучай мелодыяй, ва ўлонні якое, аднак, пульсуюць непрымірымыя супярэчнасці: баявітае, імклівае, маршавае — «крок» і павольнае, расцягнутае, аморфнае, нежыццёвае — «шум трысця»:

*Нашы дарогі расходзяцца здаўна пад зорамі.*
*На адной чуем крок, на другой — шум трысця* [24, с. 120].

Словы гэтыя і сапраўды, як напісала пра тое крытык Ала Сямёнава, сталі прарочымі: «Дарогі разышліся, мабыць, куды больш далёка, як маглі сабе ўявіць… Народны паэт Беларусі, старшыня Саюза пісьменнікаў, літаратар, якога ведалі са школь-

най лавы. І — паэтка эміграцыі, нават прозвішча якой некалькі дзясяткаў гадоў было пад забаронай» [25, с. 5].

Але гэта ўсё будзе значна пазней. Праз увесь верш «Нашы шляхі» Максіма Танка — адмежаванне ад «сіратлівых сузор’яў» паэзіі Наталлі Арсенневай, сцверджанне сваёй праўды, сілы, дарогі. Часам паэт дазваляе сабе выпады не зусім справядлівыя:

*Любіш край за бярозы, за месяц, за восені дзіўныя,*
*а тым больш яго нам як, скажы, не любіць:*
*калі нівы і рэкі, палотны азёр пераліўныя,*
*калі песні, што б’юць жывой сілай крыніц,*
*нам гавораць аб долі сярмяжнай аратага…* [24, с.120]

Праз гэтае «нам» Максім Танк як бы адлучае Наталлю Арсенневу не толькі ад ідэйных, але і ад духоўных арыенціраў, ад «натуральнай» беларушчыны з яе бедамі і трываннямі. Гэтую ж думку знаходзім і ў артыкуле даследчыка заходнебеларускай літаратуры Міколы Мікуліча: «Верш засведчыў і выявіў духоўна-філасофскае і мастацка-эстэтычнае разыходжанне канкрэтных творчых індывідуальнасцяў і цэлых напрамкаў і плыней… М. Танк аперыраваў такімі паняццямі, як “песня твая” і “наша”, несумненна, з аднаго боку, падкрэсліваючы індывідуальны шлях Н. Арсенневай, адасобленасць паэтэсы ад літаратурна-мастацкага працэсу, адсутнасць у яе творчасці шырокай грамадска-сацыяльнай асновы, а з другога, маючы на ўвазе не толькі свае вершы, а і паэзію многіх сваіх сяброў і аднадумцаў» [26, с. 349].

Так, паэтка, узгадаваная ў гарадскім асяроддзі, у інтэлігентнай, матэрыяльна забяспечанай сям’і рускага вайскоўца, з дзяцінства і сапраўды была далёкай ад «долі сярмяжнай аратага». Але ўсё гэта мінула з пачаткам вайны, бежанствам, беспрытульнасцю, сіроцтвам. На гэтым шляху спазнала сям’я будучай паэткі шмат пакутаў, стратаў. Праз гэта ўпершыню была далучана да жыцця беларускага сялянства: «Месяцы, пражытыя ў голадзе і холадзе, выйшлі мне на вялікую карысць. Справа ў тым, што тут я ўпершыню сутыкнулася… з беларускаю вёскаю і найчысцейшаю беларускаю моваю» [14, с. 467]. Сутыкнулася, каб стаць у будучым не проста паэткай, а паэткай беларускай. Таму зусім невыпадковым бачыцца ў яе творчасці вобраз беларускага селяніна з верша «Стары Сымон», створаны ў лепшых традыцыях нашаніўскай літаратуры. Згадаем вобразы з твораў Алаізы Пашкевіч: Мацея з апавядання «Прысяга над крывавымі разорамі», Сымона і Сцяпана з апавядання «Асеннія лісты».

Вобраз старога Сымона надзвычай блізкі і да вобразаў беларускіх сялян з вершаў Максіма Танка «Песня кулікоў» і «Спатканне». Той жа спакутаваны стары бацька, сын якога, «хоць нічога не зрабіў благога», —у няволі. Але калі сыны ў вершах Максіма Танка ў астрогах польскіх, то ў Наталлі Арсенневай — у савецкім ГУЛАГу: «*у тайзе сьсякае з хвоямі жыцьцё*». Герой балюча перажывае новую (ужо каторую за немалы век!) акупацыю. Веры, што нямецкія ўлады здольны зрабіць шчаслівым гэты край, у старога Сымона няма. Ягоны клопат — клопат бацькі, земляроба: дачакацца сыноў, засеяць зямлю:

*Ды дасі ж ты веры, каб штыхом ці куляй*
*хтось прынесьці шчасьце або й волю мог?*
*Дось крыві старому,*
*і зямля-матуля*
*ня штыхоў чакае… Ёй карціць нарог* [3, с. 88].

Наталля Арсеннева і сама разумела, што ідзе па зусім іншым шляху. Гэтак пісала пра створаныя ў 30-х гадах паэмы: «Злашчасная «Князёўна», якая столькі крыві папсавала Танку» [14, с. 473]. На жаль, паэму гэту сёння прачытаць немагчыма: няма ні ў выдадзеным у Амерыцы выбары паэзіі, ні ў кнігазбораўскім выданні. Відавочна, ужо сама гераіня твора была недаспадобы маладому змагару Танку. Згадваючы пра іншыя дзве паэмы «Вяселле» і «Лілейкі», што зніклі без следу, паэтка адзначае: «Здаецца, што рэчы гэтыя не былі такія ўжо благія, і адзіны грэх за імі быў, што яны не ішлі крок у крок, маршам па халодным бетоне із сучаснасцю» [14, с. 473]. Гэта разуменне можна аднесці і да ўсёй творчасці паэткі: не ішла маршам.

Поруч з змагарнымі матывамі, маршавымі інтанацыямі ў лірыцы Максіма Танка даверасьнёўскай пары сустракаем радкі,

напоўненыя глыбокім лірызмам. Ствараецца ўражанне, што ягоны герой, стомлены сваёй змагарнай дарогай, прыпыняецца на момант, каб заглыбіцца ў суладдзе прыроды, перадаць таямніцу спрадвечнай цішыні:

*Ціха, так ціха — ні ветру, ні шуму…*
*Быццам лес белую думае думу* [19, с. 71].

Але ягоная дарога прымушае ўсё ж ісці далей і наперад:

*Цяжка ісці, прыстаюць ужо ногі, —*
*Толькі мне нельга спачыць ля дарогі,*
*Нельга спыніцца ў дрымотным бары…*
*Трэба няспынна ісці да зары!* [19, с. 71].

Гераіня Наталлі Арсенневай, наадварот, імкнецца да прыроднай гармоніі, здольна бясконца слухаць цішыню. Яе ўлюбёная пара сутак — «час маўклівы змяркання». Пад знакам цішыні, маўчання адбываюцца несупынныя змены ў прыродзе, у настроі:

*Сыплюцца з клёнаў лісты,*
*сыплюцца ціха, маўкліва,*
*крыюць зямлю і кусты*
*пражаю жоўтай, шасьцівай* [3, с. 19].

Адметны шлях Наталлі Арсенневай выбраны свядома, у яе — свая мэта: дакрануцца да суладдзя вечнай красы, адчуць і зразумець яе, растварыць у ёй свае душэўныя пакуты:

*Я ішла… Ціхі месяц глядзеў з вышыны,*
*Рассыпаючы ласкі і сны.*
*І хоць прыкра ў той вечар балела душа,*
*Я глядзела у неба і йшла…* [3, с. 45]

Ёсць яшчэ адзін значны момант, які збліжае творчасць паэтаў: любоў да беларускага фальклору, наследаванне народнапесенных матываў, выкарыстанне фальклорных сюжэтаў. Творы часам нараджаліся ад запалых у душу гукаў народнай песні: «Аднекуль з'явілася мелодыя. Яна кужэльнай ніткай пацягнула



за сабой вобразы, вобразы — рыфмы, апошнія ляглі ў верш. А ўвесь гэты абвал выклікала мелодыя забытай матчынай песні…» [20, с. 9]. Вобраз кужэльнай ніткі, што сплывае з прасніцы разам з матчынай песняй, — як жа сугучна гэта вершу Наталлі Арсенневай «Маці»:

*Маці!*
*За кужэльную нітку даўжэйшы твой смутак па нас,*
*За кужэльную шэрую нітку з твайго калаўроту* [3, с. 180].

Праз многа гадоў у гутарцы з даследчыкам заходнебеларускай літаратуры Міколам Мікулічам Максім Танк узгадвае пра паэтку з шчырай прыязнасцю. Тую памятную сустрэчу ў Вільні называе цікавай. Толькі добрае напісана пра Наталлю Арсенневу тымі, хто яе ведаў, але такой высокай ацэнкі чалавечым якасцям гэтай асобы, дзе гучыць і павага, і захапленне, сустракаць не даводзілася: «Вельмі сімпатычная яна была, таварыская, нейкі вітальны чалавек. У цяжкіх сітуацыях галавы не апускала, неяк па-баявому сустракала нягоды. Як на жанчыну — столькі энергіі ў яе было! Энергіяй яна была проста зараджана…» [27, с. 180].

Шляхі Наталлі Арсенневай і Максіма Танка разышліся назаўсёды ў гады вайны. Тут будзе дарэчы слова пісьменніка Валянціна Тараса, ветэрана той вайны, партызана. Слова мудрае, мужнае і шчырае, да якога нельга не прыслухацца: «З таго часу прайшло шэсць з гакам дзесяцігодзьдзяў, і нельга, немагчыма для нармальнага чалавека жыць колішняй нянавісьцю, зацятай непрымірымасьцю да ўсіх тых суайчыньнікаў, якія ў гады вайны апынуліся на нямецкім баку, асабліва да паэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў. Творы не нясуць адказнасьці за тыя ці іншыя ўчынкі аўтараў, творчасьць паэта, пісьменьніка, мастака ня можа быць закрэсьлена нейкім фактам ягонай біяграфіі ці нейкім адным творам. Літаратура, мастацтва, наагул культура непадзельная на "чыстыя" і "нячыстыя", на "наскія" і "нянаскія" — усе сапраўдныя творцы наскія! І Аркадзь Куляшоў, і Натальля Арсеньнева, і Максім Танк, і Ларыса Геніюш дзеці адной маці — Беларусі, усе любілі яе кожны па-свойму, усе, ідучы рознымі дарогамі, сышліся ў адным Доме — у Доме беларускай паэзіі. А сапраўд-

ная паэзія не бывае ні савецкай, ні антысавецкай — яна проста Паэзія» [28, с. 183].

Так, лёс развёў іх па розных дарогах. На розных кантынентах знайшлі свой прытулак Наталля Арсеннева і Максім Танк. Але свяціла ім адна і тая ж зорка — Паэзія, слугавалі яны аднаму Краю — Беларусі.

## ПАЭЗІЯ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ І АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА ВАЕННАГА ЧАСУ

Вайна яшчэ больш умацавала тыя межы, што існавалі між Наталляй Арсенневай — заходнебеларускай паэткай, пясняркай сіняга неба — і беларускімі савецкімі паэтамі. Але было і тое, што аб'ядноўвала: любоў да роднай зямлі, спагада спакутаванаму краю. Творцы заставаліся выразнікамі дум і памкненняў беларускага люду.

Кожны па-свойму асэнсоўваў час ваеннай навалы. Наталля Арсеннева і Аркадзь Куляшоў — знаныя беларускія паэты, што воляй лёсу апынуліся па-розныя бакі фронту.

Для Наталлі Арсенневай, якая зведала жахі савецкага ГУЛАГу і толькі вясной 1941 года вярнулася ў Беларусь, вайна — гэта вялікая трагедыя, знішчэнне, руйнаванне, гібель людзей. Паэтка выступае найперш як гуманістка. Ейны гуманізм часам успрымаецца як абстрактны, усёахопны. Адзін з першых вершаў гэтага часу — «Палеглым», што гучыць як праніклёны рэквіем па няшчасных ахвярах крывавага молаху. Першая рэакцыя паэткі, жанчыны, маці.

Антон Адамовіч, аўтар прадмовы да выбранага Наталлі Арсенневай «Між берагамі», не пакінуў па-за ўвагай верш «Палеглым»: «Гэта спроба “выплавіць” калі не “гімн”, дык прачулы рэквіем, якім паэтка ўпершыню рэагавала на самую вайну, а не разважала над стаўленнем да яе паэты — гэта адзін з найлепшых твораў Наталлі Арсенневай не толькі ваеннае пары, а мой наогул» [18, с. XXXIII].



І сапраўды, найперш тут воля аддадзена пачуццям. Паэтка — тая ж жоўтая восень. І гэтак жа — над схваткай, але не абыякавай сузіральніцай, а спакутаванай маці, бо ўсе яны, палеглыя, — ейныя дзеці, гэткія юныя і гэтак вартыя жыцця. Усё перамяшалася ў пякельнай куламесе, маладыя целы сталі зямлёю:

*Зьмяшалася зь пяском чупрына маладая,*
*боль выпаў сінь вачэй і сьвежых вуснаў кроў.*
*Васковаю сьвячой над імі восень тае,*
*і сьніць*
*адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро* [3, с. 82].

Смерць зраўняла колішніх ворагаў. Іх шляхі абарваныя, а пачуцці, імкненні — у мінулым.

Як апошні, такі ўзнёслы і такі прачулы акорд рэквіема ўспрымаюцца заключныя радкі верша. Дзень сімвалізуе тут само жыццё, святло, за якім надыходзіць вечная цемра:

*Пахучай сьвечкай з воску залатога*
*канае*
*над палеглымі*
*асеньні дзень…* [3, с. 82]

Даследчыца беларускай эміграцыі Лідзія Савік называе верш па-мацярынску няўцешным плачам «па палеглых на палях бітваў, пры тым без усялякага падзелу на “сваіх” і “ворагаў”. Яна аплаквае смерць салдат як ахвяраў вайны, кажа пра жыццё, як пра Божы дар, зыходзячы з агульначалавечых, хрысціянскіх запаветаў, а не з ідэалагічных установак сталінскай або гітлераўскай таталітарнай сістэмаў» [4, с. 77].

Гэта быў першы з апублікаваных у ваенным часе вершаў паэткі пад назвай «Паўшым». Пазней Наталля Арсеннева змяніла назоў на больш дасканалы, больш характэрны для беларускай мовы. Антон Адамовіч сцвярджае, што верш быў надрукаваны ў «Беларускай газеце», Лідзія Савік у каментарох да выдання твораў паэткі ў «Беларускім кнігазборы» — у № 6 газеты «Раніца». Відавочна, мае рацыю Лідзія Савік.

У спадчыне Аркадзя Куляшова той пары таксама ёсць велічны рэквіем — верш «Над брацкай магілай». Лічыцца адным з

лепшых твораў ваеннага часу. Пачуцці перададзены надзвычай стрымана. Калі ў Наталлі Арсенневай верш «Палеглым» — плач, то тут — суровае развітанне, у якім герой увесь час (а гэта калектыўнае «мы») унікае слёз: «*Мы без слёз іх хаваем*», «*Нашы слёзы саромяцца / мужных вінтовак і касак*», «*Мы не плачам*» [29, с. 63].

Верш пачынаецца «велічна, ціха, эпічна спакойна… Але гэта ні ў якім разе не бясстрасны, мастацка нейтральны пейзаж, а пейзаж лірычны, за кожным радком і кожным словам якога адчуваецца чалавек, які любіць сваю зямлю, свой родны беларускі край» [30, с. 100]. Паэт, савецкі патрыёт, здольны ўспрымаць толькі адну праўду, толькі адну трагедыю — гібель сваіх таварышаў. Гібель гэтак жа няшчасных, кінутых у бойню гітлераўскім фашызмам успрымаецца ў лепшым выпадку нейтральна, як фон, як элемент пейзажу. Мёртвыя падзелены на тых, хто загінуў «чэсна» і «нячэсна». Але ж яны ўжо там, дзе гэтага падзелу няма. Спрэчным і сёння недарэчным падаецца сцверджанне, што беларускія хлопцы «палі ў баях… за камунізм» [30, с. 100].

Варлен Бечык назваў верш «велічным эпілогам вялікай бітвы» [31, с. 113]. Гэтае пафаснае выказванне цалкам адпавядае той урачыстасці, што гучыць у творы. У Наталлі Арсенневай гэтай пафаснасці няма. Смерць, знішчэнне яна адлюстроўвае ў непрыхарошаным, страшным святле.

У тым няпростым часе і Наталля Арсеннева, і Аркадзь Куляшоў напісалі вершы з аднолькавай назвай — «Маці». Верш Аркадзя Куляшова мае падзагаловак «народная балада». Даючы такі падзагаловак, паэт падкрэсліваў далучанасць сваёй творчасці да народна-паэтычнай традыцыі. Гэты сюжэтны ліра-эпічны верш напоўнены гераічным зместам. Ужо сам пачатак яго ўзвышаны, гераізаваны: «*На бітву крывавую сына праводзіўшы з хаты*» [29, с. 68]. Асабісты пачатак тут прыглушаны, схаваны за значнай, усенароднай справай — барацьбой з ворагам. Пачуцці маці выказаны надзвычай лаканічна: «*Дарэмна ўздыхала, / Чакала, / І шчасця, і долі…*» [29, с. 68]. Гераічны пачатак ва ўсім змесце твора. І змаганне сына з ворагам, і сам вобраз маці пазначаны гэтай рысай. Яна — мужная, смелая, ахвярная, здольная на ўчынак незвычайны, на подзвіг. Аддае сваё жыццё, каб засцерагчы ад гібелі сына. Фантастычны баладны элемент, тройчы вымаўленае праклянцце — усё гэта лучыць твор з народнай баладай.



У вершы Аркадзя Куляшова маці — гераіня. У вершы Наталлі Арсенневай гераізацыя адсутнічае. Верш трымаецца на адлюстраванні пачуццяў жанчыны. Пакутныя начныя гадзіны напоўнены ўспамінамі-згадкамі з далёкага мінулага: «*Успамінаеш трывожны дотык / кволых, цёплых дзіцячых рук*» [3, с. 91]. На першым плане — незагойны боль, што ўвасабляецца ў вобразе крыважэрнага звера: «*Падпаўзае галодным воўкам / боль, / высмоктваць з сэрца кроў*» [3, с. 91]. Уяўленне паслужліва малюе для маці жахлівую карціну гібелі яе сына:

*…упарта сьніцца —*
*паараны вайной папар,*
*абгарэлы нямы сасоньнік,*
*няўмыты зімовы дзень,*
*адубелыя трупы коняй,*
*дзіўна знаны, расьпяты сьцень…*
*Твар у гліну рудую туліць,*
*жах сьмяротны ў сівых вачах,*
*захлынаецца —*
*ой…*
*матуля…* [3, с. 92]

Калі ў народнай баладзе Аркадзя Куляшова, дзе гераіня праз ахвяру свайго жыцця выратоўвае сына, фінал гучыць аптымістычна, то элегічны верш Наталлі Арсенневай гэтак жа заканчваецца жыццесцвярджальнай, прасветленай нотай. У фінале — філасофскае асэнсаванне гібелі чалавека. Гэта не марны сыход, а перадумова таго, каб квітнела жыццё, дзеля будучыні:

*Зразумееш, што сьмерць, руіны,*
*гэта ў будучыні —*
*жыцьцё!* [3, с. 92]

У вайны і жаночы твар таксама. Тых, што верна чакаюць сваіх каханых. Як гераіня верша Наталлі Арсенневай «Спары-

шы». У тых, што апынуліся ў акупацыі, у няволі. Адзін з самых кранальных вершаў Аркадзя Куляшова «Ліст з палону», «дзе магутна прагучаў адчайны плач беларускай дзяўчыны, якую напаткала страшная доля» [32, с. 38] — выгнанне ў Нямеччыну. М. І. Мішчанчук сцвярджае, што сюжэт у баладах Аркадзя Куляшова «лакальны, сціснуты і аголены, што не дае магчымасці аўтару выйсці на філасофскі падтэкст, пашырыць яго ў часе і прасторы» [33, с. 86]. Калі ў адносінах да іншых баладаў гэта цалкам справядліва, то да верша «Ліст з палону» ніяк не стасуецца. Змест твора якраз і выходзіць далёка за ягоныя рамкі. Найперш з-за згадкі пра Турэччыну: даўнія крывавыя падзеі, набегі паўднёвых суседзяў на славянскія землі, у выніку чаго жанчыны станавіліся паланянкамі. Больш за тое, гэты верш сёння мог бы мець прысвячэнне ўсім жанчынам, што гвалтам былі вывезены ў рабства. І не істотна, ці на Захад, ці на Усход. Хіба ў вершы не бачыцца шлях гераіні з аўтабіяграфічнага рамана Яўгеніі Гінзбург «Круты маршрут»? Але самае галоўнае ў нашым кантэксце: сама Наталля Арсеннева была гэткай жа гераіняй, паланянкай. Гэта яе імчаў цягнік у няволю, у ГУЛАГ. І гэтак, як гераіня верша стварала свой лірычны маналог-ліст, так і ў душы Наталлі Арсенневай нараджаліся паэтычныя радкі: «Было страшэнна пуста, сумна і безнадзейна. Я ўвесь час сядзела ля вакна і глядзела на кавалачак сіняга неба, што было відаць у шчыліну… “*Толькі вясною бывае неба такое сіняе, толькі вясною бываюць далі такія чыстыя*…” — настырліва, у такт колаў, звінела ўвушшу» [14, с. 478]. Яна зведала горкую долю бяспраўнай рабыні.

Аркадзь Куляшоў — савецкі паэт, выразнік пэўнай ідэалогіі, быў абмежаваны ў гэтым разуменні. Але ён быў вялікім паэтам. Маналог дзяўчыны-паланянкі выходзіць далёка за вызначаныя савецкімі ідэалагічнымі нормамі межы верша, калі рабыня ўяўлялася толькі паланянкай нялюдскай фашысцкай сістэмы:

*Я рабыня, рабыня,*
*Я чорная, чорная, чорная,*
*Любы мой, не з табой,*



*А з праклятай бядой*
*Заручоная…* [29, с. 66]

Ды і хіба сёння верш гучыць неактуальна, хіба ў сённяшнім свеце не існуе жаночага рабства?

Даследчыкі творчасці Куляшова адзначаюць надзвычайныя мастацкія вартасці твора, дасканалую рыфмоўку, рытмічны малюнак. «Здаецца, што сам верш з яго падкрэсленай алітарацыяй на “р”, “б” і “г” рыдае невыносна горкім рыданнем, несуцешным, як на хаўтурах, галашэннем» [32, с. 38].

Шмат спрэчак выклікае сёння «Балада аб чатырох заложніках» Аркадзя Куляшова. На старонках часопіса «Крыніца» разгарнулася дыскусія вакол твора. Так, Леанід Галубовіч піша пра «антыгуманны цынізм», ставіць рытарычныя пытанні: «Не мае бацькоўскага права?! Хто ж пазбавіў гэтага права бацьку Міная? Партыйная і ваенная дысцыпліна? Але кожны бацька ведае, што нават уласная смерць не можа пазбавіць яго гэтых правоў. Гэта можа зрабіць толькі смерць дзяцей… Куляшоў і не заўважыў, як трапіў у пастку партыйнага маралітэ. Ці прага творчага патрыятызму і гераізацыі настолькі абясцэньвалі чалавечае жыццё?» [34, с. 46]. Шэраг гэтых пытанняў можна дапоўніць: Ці знойдзецца жанчына, якая захоча нараджаць дзяцей такому, як бацька Мінай? Калі яна сама не шахідка. Небяспека такіх ідэалагічных установак найперш бачыцца ў тым, што вынікі іх скіраваны ўрэшце супраць самога жыцця. Апалагетам гэткай гераізацыі паўстае крытык Алесь Марціновіч, што як вышэйшую праўду ўспрымае заключныя радкі балады, якія Леанід Галубовіч называе «пафасна-цынічнымі». Крытык сцвярджае: «Але тут не віна Міная, які сам стаў заложнікам абставін. Віна фашызму — чалавеканенавісніцкай тэорыі, што не шкадуе ні ў чым не вінаватых дзяцей» [35, с. 61]. І ні слова пра тое, што бацька Мінай прадстаўляе сабой не менш чалавеканенавісніцкую сістэму — сталінізм, дзе «ворагамі народа» станавіліся сем’і, дзеці. І, канешне, у гэтым кантэксце не можа быць нават згадкі, як знішчаліся дзеці (таксама ж невінаватыя) ворагаў, здраднікаў, паліцаяў. Ці вартасць жыцця гэтых дзяцей іншая? Далей крытык

цалкам слушна супрацьпастаўляе фашызму народную мараль, «паводле якой старэйшы і дужэйшы заўсёды, наколькі магчыма, павінен клапаціцца аб маладзейшым, а таму і слабейшым, больш безабаронным» [35, с. 61–62]. У якасці доказу — паводзіны цёткі, сястры Міная, што гіне разам з дзецьмі, але да апошняй хвіліны засланяе дзяцей ад болю. Але ж уся справа ў тым, што самы дужы тут — бацька.

Звернемся да ацэнкі такіх падзеяў вялікай паэткай нашай зямлі, мужнай і мудрай Ларысай Геніюш. Як загад, як просьба гучаць яе словы: «*Калі судзіш ворага на згубу, / першым чынам засланяй сваіх*» [11, с. 150]. Канешне, магутнае ўздзеянне той ідэалогіі, што амаль праз стагоддзе навязвалася нашаму люду, не дасць магчымасці многім успрыняць яе верш «Партызаны», але ці можна не згадзіцца з наступным:

*Продак мой, спыняючы нашэсце,*
*кідаўся на ворага з мячом,*
*толькі б не цярпелі сем'і, дзеці,*
*за плячыма заставаўся дом.*
*І стаялі насмерць, усенародна,*
*супраць недругаў, суровых і ліхіх,*
*і не пакідалі безбаронных,*
*ворагаў наклікаўшы на іх* [11, с. 148].

Магутны талент Аркадзя Куляшова быў кінуты на алтар «новай веры», у аснове якой — адмаўленне не толькі рэлігіі, веры, але і агульначалавечых каштоўнасцяў. Гэтак дасканала адшліфаваныя, сапраўды «стальныя» радкі з верша «Камуністы» і ёсць праўдзівым сімвалам гэтай «новай веры»:

*Мы не верым ані ў бога, ні ў малітвы,*
*І няма для нас другіх сваццейшых слоў,*
*Апроч лозунгаў і заклікаў да бітвы,*
*Апроч песень, ад якіх бунтуе кроў* [29, с. 98].

Наталля Арсеннева свой талент у тым страшным часе скіравала на іншае: стварыла непераўзыдзеную па сіле ўздзеяння, глыбокім патрыятызме велічную «Малітву». Так, стварыла па



замове мітрапаліта. Але святарства не ўспрыняло гэты твор: занадта патрыятычны. Гэтак як пазней «шчырыя» беларусы адмаўляліся ад яго: занадта малітоўны. Але сапраўдная паэзія, праўдзівая малітва не згубілася. Сёння яна ўспрымаецца як духоўны беларускі гімн, гучыць у нашых храмах. У Магілёве праводзіцца фестываль духоўнай музыкі пад назвай «Магутны Божа».

*Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,*
*вялізных сонцаў і сэрц малых,*
*над Беларусяй, ціхой і ветлай,*
*рассып праменьне Свае Хвалы* [3, с. 115].

Калі паэзія Аркадзя Куляшова ў гады вайны літаральна «замыкаецца» на жанры балады, гераічнага верша, то ў творчасці Наталлі Арсенневай, наадварот, адбываецца працэс, які даследчык беларускага замежжа Ян Чыквін назваў «размыканнем лірычнага верша» паэткі. Гэта «адбывалася як своеасаблівае яго ўзбройванне супраць вайны. Тэма вайны стаецца неадчэпнай, стрыжнявой тэмай амаль усіх яе тагачасных вершаў. Аднак вайну паказвае Наталля Арсеннева не падрабязна, не праз мілітарысцкую канкрэтыку, не праз пайменнае геройства, але абагуленым, метафарычным вобразам. Вайна для паэтэсы — ноч, змрок, чорная сажа» [12, с. 48]. Літаратуразнаўца прыводзіць шматлікія прыклады гэтай «смутнай» метафарычнасці, якія можна доўжыць бясконца, адзначае тое адметнае ва ўспрыняцці вайны, што не знаходзім ні ў аднаго з нашых паэтаў: «Як усеагульнае нялюдскае няшчасце, выразна па-жаночаму, з увогуле нетрадыцыйным для беларускай літаратуры арыстакратызмам» [12, с. 49].

Многія вершы паэткі прысвечаны асэнсаванню ролі мастацтва ў часы знішчэння і гвалту. У розных іпастасях паўстае творца, розныя думкі, пачуцці хвалююць яго. Часам паэт узвышаецца, як сапраўдны асілак, чараўнік, здольны перакрэсліць і час, і прастору, падпарадкаваць сабе нават смерць:

*Ці ж не фікцыяй*
*час для яго і прастора?*

*Нават сьмерць яму — пыл,*
*бо цялесны кажух*
*ён ськідае часам, як стаптаны апорак!*
*Так, паэт — валадар!..* [3, с. 117]

Найперш паэт — валадар Слова. А ў часы, калі ў Краі пануе вораг, акупант, ён здольны праз сваё мужнае слова выказаць ворагу нязгоду. Наталля Арсеннева, бясспрэчна, рызыкуючы, здолела зрабіць гэта. У сваім знакамітым вершы «Годзе!», які быў надрукаваны ў 1942 годзе ў «Беларускай газеце», паэтка смела выказала нязгоду з акупантам:

*Годзе!*
*Годзе нарэшце,*
*Годзе*
*Чарвякамі зьвівацца, поўзаць!*
*Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,*
*Хоць ісьці нам парой і коўзка, —*
*Насьмяёмся яшчэ і зь ліха!*
*Досыць падаць прад кожным ніцма!* [3, с. 120]

А гэта ж была афіцыйная газета. Нядобразычліўцы беларускай паэткі часта падкрэсліваюць: у гады вайны Наталля Арсеннева працавала ў «прафашысцкай» «Беларускай газеце». Для яе і іншых патрыётаў гэта была найперш газета беларуская. Ці быў у гісторыі нашай журналістыкі яшчэ хоць адзін праўладны перыёдык, у якім была б змешчана гэтак знішчальная крытыка на адрас пануючай улады? Відавочна, не. Гэта быў смелы выпад, выклік. І ў зборніку «Сягоньня», што выйшаў у 1944 годзе ў акупаваным Мінску, верш «Годзе!» пакінуты.

Трагедыя беларускіх патрыётаў у тым, што лёс не даў ім іншага часу. Адно толькі пад крывавай фашысцкай свастыкай. І яны імкнуліся выкарыстаць і гэты змрочны час, і тыя невялікія магчымасці для вялікай справы. Паэтка шчыра сведчыць: «Якім бы цяжкім ні было жыццё пры немцах, мы і ў тагачасных умовах стараліся зрабіць як найбольш. Мы змагаліся за адчыненне беларускіх школаў, стваралі тэатр, адным словам, арганізавалі сваё беларускае культурнае жыццё. Людзі галадалі, шмат чаго



не ставала, але ж трэба было неяк жыць. Усе мы імкнуліся будаваць Беларусь!» [14, с. 515].

А ў сваёй творчасці, як слушна сцвярджае Лідзія Савік, Наталля Арсеннева «ў ваенны лёсавызначальны час смела і бескампрамісна ставіла вострапраблемныя пытанні, імкнулася паказаць выдатным беларускім словам, што такое вольная, не залежная ні ад якіх акупантаў Бацькаўшчына, тым самым дапамагаючы беларусам адчуць сябе народам, выстаяць у гэтай непатрэбнай бойні дзвюх дыктатур, захаваць сваю нацыянальную адметнасць, мову, памяць пра слаўных змагароў за Беларусь» [4, с. 87].

## ДВА СВЕТЫ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ: творчасць паэткі ў ацэнцы Уладзіміра Калесніка

Як гэта ні парадаксальна, але шлях знанага даследчыка заходнебеларускай літаратуры Уладзіміра Калесніка да творчасці Наталлі Арсеннеевай — адной з вядучых паэтак таго перыяду — быў надзвычай няпростым, пакручастым. Зразумела, крытык не быў вольным у сваіх ацэнках за савецкім часам, а імя паэткі знаходзілася пад жорсткай забаронай. Рыхтуючы раздзелы «Літаратура Заходняй Беларусі» для падручніка «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917–1940», аўтар мусіў абмінаць гэтае імя. Так, у раздзеле пра літаратуру 30-х гадоў Наталля Арсеннева не згадана ні разу, а ў аналізе паэзіі 20-х гадоў згадваецца ўсяго двойчы. Згадваецца толькі між іншымі і, на жаль, рэзка негатыўна. Як і ўсе аўтары таго часу («Гісторыя…» выйшла ў 1981 годзе), Уладзімір Калеснік не пазбягае ідэалагічных штампаў. Творчасць Наталлі Арсеннеевай выкарыстоўваецца ў якасці ўзору «кансерватыўна-рамантычнай» плыні паэзіі. Наогул, усё, што звязана з паняццем «эстэтычнае», падаецца як адмоўнае, супрацьлеглае «прагрэсіўнай» літаратуры: «Рамантычная паэзія гэтай пары, нягледзячы на рэпрэсіі, развівалася, паспяхова перамагала эстэцкія тэндэнцыі, што ахoплівалі кансерватыў-

на-рамантычную яе плынь. Ва ўмовах абвостранай ідэйнай барацьбы гэтыя тэндэнцыі маглі набываць аналітычную, а часам і адкрытую антысавецкую афарбоўку. Так, нехта Язэп Светазар, расхваліўшы паэзію Н. Арсенневай, якая, па яго словах, належала “да невялікай групы беларускіх імпрэсіяністаў” і складала “карункавыя вершы, апавітыя тугою нібы ніткамі бабінага лета”, раптам накінуўся на Беларускае выдавецкае таварыства з прэтэнзіяй, чаму яно не выдала гэткіх вершаў…» [36, с. 65].

Згадвае Уладзімір Калеснік і альманах «Веснаход», які меўся стаць органам творчага аб’яднання, ізноў дзеля таго ж супрацьпастаўлення: «Поруч з эстэцкімі кволымі вершамі Н. Арсенневай прыведзеныя вышэй радкі П. Пестрака, які вядзе бітву супраць кансерватыўна-рамантычнай паэзіі, прасякнутай хрысціянскай містыкай» [36, с. 67].

Уладзімір Калеснік хіба што першым пачаў знішчаць сцяну маўчання, узведзеную вакол паэткі. Калі нельга было наўпрост згадваць пра яе, рабіў гэта ўскосна. Так, у нарысе «Пражскі эпісталярый», дзе поруч з разглядам творчасці Уладзіміра Жылкі названы імёны Антона Навіны, Ігната Дварчаніна, Леапольда Родзевіча і іншых, імені Наталлі Арсенневай няма. Затое пішучы пра бясплатную сталоўку для інтэлігенцыі, адкрытую на сродкі амерыканскага Чырвонага Крыжа, Уладзімір Калеснік піша: «У той сталоўцы працавала маці Наталлі Арсенневай, на чые рукі лёг пасля смерці мужа ўвесь цяжар утрымання сям’і» [37, с. 249].

Крытык адным з першых пачаў пераасэнсоўваць створанае раней. У гэтым плане надзвычай важнае месца мае артыкул «Ачышчэнне памяці» («Полымя», 1989). Ужо ў самой назве — імкненне «ачысціць» напісанае (найперш маецца на ўвазе «Гісторыя беларускай літаратуры») ад «сацыялагізатарскага крытыцызму». Аўтар падкрэслівае, што найбольш недаследаванымі ў літаратуры Заходняй Беларусі аказаліся «проста дэмакратычная, агульнагуманістычная і тым больш чыста эстэтычныя плыні» [38, с. 190]. Упершыню ў працах Уладзіміра Калесніка постаці Наталлі Арсенневай адводзіцца тут значнае месца. Даволі падрабязна разглядаецца творчасць паэткі 20–30-х гадоў і ваеннага часу. Тут знаходзім і высокую ацэнку першаму



зборніку «Пад сінім небам», які, па словах крытыка, «аказаўся ў ліку лепшых паэтычных кніг 20-х гадоў» [38, с. 202], і аповед пра тыя няпростыя стасункі, што склаліся ў Наталлі Арсенневай з маладымі паэтамі.

Як глыбока, пранікнёна аналізуе крытык асаблівасці гэтага паэтычнага таленту: «Муза Арсенневай несла моцна індывідуалізаванае ўспрыманне свету прыроды і самых далікатных чалавечых памкненняў — прывязанасці, мройнага кахання, растварэння ў красе, лятункаў пра шчасце, імкненняў да праўды і дабра… Гэта быў голас, які падавала чыстая і шчырая душа пра сваю прысутнасць у жорсткім, чорствым, але і загадкавалюбым свеце» [38, с. 202]. Адзначана і надзвычай натуральнае далучэнне паэткі да здабыткаў народнай культуры. Яна, услед за ўлюбёным паэтам Максімам Багдановічам, станавілася на «забыты шлях» — шлях беларускі. Маецца на ўвазе найперш цыкл «Зачараваны кут»: «Фантазія паэткі натхнялася вобразамі народных балад, казак, легенд» [38, с. 202].

Аднак за надзвычай дакладнымі, змястоўнымі характарыстыкамі стылю паэткі ўвесь час улоўліваецца імкненне апраўдаць гэтую «індывідуалістку», пані афіцэрову, што дазваляла сабе быць апалітычнай, заставацца апалагеткай красы: «У заходнебеларускай, пераважна грамадзянскай паэзіі творчасць Арсенневай вылучалася знешняй апазіцыйнасцю, якая, аднак, узгаднялася і гарманізавалася агульначалавечымі акцэнтамі дабра і харацтва» [38, с. 202]. Паэтцы як бы даецца права быць такой. Яна быццам бы яшчэ ўсё патрабуе рэабілітацыі.

Зрэшты, ролю бязгрэшнага суддзі Уладзімір Калеснік у гэтым артыкуле спраўджвае да канца. І суддзя гэты не толькі апраўдвае, рэабілітуе, але і выносіць вельмі жорсткі, безапеляцыйны прысуд. Так, Наталля Арсеннева апынулася ў часе той страшнай вайны «з іншага боку фронту». Доказам ейнай віны — «факты грамадзянскай дзейнасці як кіраўнічкі культурнага аддзела акупацыйнай машыны на Беларусі» [38, с. 205]. Але ж хіба праца «культурнага аддзела» не была скіравана ў будучае? Адкрываліся беларускія школы, тэатры, выдаваліся кнігі. Моладзь у тых

школах узгадоўвалася ў беларускім патрыятычным духу. За гэта, як палічыў Уладзімір Калеснік, «апраўдання людзям з таго боку фронту Вялікай Айчыннай вайны не можа быць. Міласэрнасць і дараванне яны могуць заслужыць публічным шчырым пакаяннем. Праўда ў той вайне належыць і вечна павінна належаць нам адным» [38, с. 205]. Таленавіты крытык не перамог у гэтым артыкуле савецкага ідэолага.

Лепшай працай Уладзіміра Калесніка пра творчасць паэткі стаў артыкул «Наталля Арсеннева. Віленскія гады». Мяркуецца, гэта праца павінна была стаць першай у шэрагу іншых, бо віленскі — толькі першы перыяд творчасці. Але гэтаму артыкулу суджана было застацца першым і адзіным. Бо ішоў ужо апошні, адведзены творцу, год — 1994-ы.

Значнасць гэтай працы не столькі ў вызначэнні тых уплываў, што спрыялі такой незвычайнай метамарфозе: руская па нацыянальнасці і ўзгадаванні юная асоба становіцца беларускай паэткай-патрыёткай. Гэтыя факты агульнавядомыя: атмасфера беларускай гімназіі, уплыў знаных беларусаў-выкладчыкаў, найперш Максіма Гарэцкага. Уладзімір Калеснік падкрэслівае, што беларускі рух захапіў «бескарыслівасцю, згуртаванасцю, уменнем забываць пра голад і холад, арганізоўваць гурткі, ісці да народа, збіраць у зале віленскіх патрыётаў, паднімаць дух на адраджэнне народа» [39, с. 14].

Галоўным тут бачыцца годнае вяртанне паэткі ў належны кантэкст, адкуль яна гвалтоўна была выкінута. Яе творчасць ацэньваецца як адна з вяршыняў заходнебеларускай паэзіі: «Паэтычных важакоў крытыкі вылучалі трох — М. Машару, Н. Арсенневу і М. Танка» [39, с. 14].

Аналізуючы вершы паэткі, Уладзімір Калеснік упершыню прапаноўвае ідэю двух светаў: «Свет у Арсенневай падзяляўся на два светы: свет рэальны, жорсткі, цяжкі для многіх і свет мары, паднебны, сіні» [39, с. 14]. Далей аналіз і скіраваны на гэтыя адзінства і супрацьлегласць, на імкненне лірычнай гераіні паэткі да высокага, светлага, прыгожага. Даследуюцца розныя творчыя этапы, больш і менш плённыя гады. Момантам творчай сталасці аўтар вызначае 1925 год, калі ў стылі паэткі пачынае



панаваць «эмацыянальная стрыманасць», відавочнай становіцца «багатая сімволіка — метафарычная трансфармацыя рэальнасці ў вобразы» [39, с. 14].

Уладзімір Калеснік зноў і зноў вяртаецца да тых светаў, што вылучыў у творчасці паэткі. Разважае, ставіць пытанні: «Які ж ён, свет рэальны, калі паэтка ўцякае ўсё ж ад яго ў свет мары, хоць і там няма патрэбнай чалавеку для жыцця лагічнасці, перспектывы ці, прынамсі, надзеі, веры?» Адказы шукае ў вершах паэткі. У прыватнасці, у вершы «Паэт».

У гэтым артыкуле ўжо зусім новы падыход да «апалітычнасці» паэткі, яе «ўцёкаў» ад грамадскага жыцця. Тут — разуменне і поўнае прыняцце гэтага адметнага таленту. Больш за тое: удзячнасць лёсу за магчымасць такога шырокага, шматграннага і рознабаковага развіцця паэзіі, чаго ў беларускай савецкай літаратуры 30-х гадоў, зразумела ж, быць не магло: «Гаварыць пра ізаляванасць Арсенневай ад беларускай рэальнасці, ад яе злыбед і нягодаў, паражэнняў руху ў змаганні з паланізатарскім рэжымам таксама было б нацягнутым. Баевікі хацелі ад яе публіцыстычных асуджэнняў ворагаў і ўсхвалення юных змагароў, а яна выказвалася метафарычна, іншасказальна. Такі маці-прырода падаравала ёй талент. З гэтым патрэбна было пагадзіцца і падзякаваць лёсу, што дае заходнебеларускай паэзіі шырокі веер індывідуальнасці» [39, с. 14].

Няма ўжо тут патрэбы хаваць, каму належала ініцыятыва стварэння творчага аб’яднання «Веснаход», хто быў абраны старшынёй. Так, гэта была Наталля Арсеннева. І Уладзімір Калеснік урэшце аддае належнае яе таленту арганізаткі, кіраўнічкі: «І тут яна аказалася інтэлігентнай, растароплівай і прадбачлівай» [39, с. 14].

Артыкул успрымаецца як па-чалавечы зразумелае імкненне аўтара, літаратара і глыбей разабрацца ў творчасці паэткі, і даследаваць усе тонкасці, перыпетыі, складанасці яе жыцця, тагачаснай грамадскай атмасферы, што ўплывала на паэтычны талент, на паводзіны асобы. Уладзімір Калеснік паўстае тут чалавекам, які найперш цэніць агульналюдскія каштоўнасці, які вышэй за іншае ставіць сувязі крэўныя, сямейныя. І з гэтых

пазіцый тлумачыць паводзіны паэткі: «Зразумела, Арсеннева не магла супрацоўнічаць нават з ТБМ, бо гэта магло б фатальна адбіцца на службе яе мужа, які быў карміцелем сям'і» [39, с. 14].

Такім атрымаўся артыкул Уладзіміра Калесніка — апошняе слова крытыка пра Наталлю Арсенневу. Ёй заставалася жыць яшчэ тры гады. Хочацца верыць, што паэтка змагла пазнаёміцца з гэтай працай, па-належнаму ацаніць яе і з удзячнасцю прыняць.

## ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА


1. Багдановіч, М. Поўны зб. тв. : у 3-х т. / М. Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1993. — Т. 2 : Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. — 600 с.
2. Тарасюк, Л. Пад небам паэзіі / Л. Тарасюк // Полымя. — 1996. — № 6. — С. 247–257.
3. Арсеньнева, Н. Між берагамі : Выбар паэзіі Наталлі Арсеньневай 1920—1970 / Н. Арсеньнева. — Нью-Ёрк ; Таронта : БІНІМ, 1979. — 350 с.
4. Савік, Л. Пакліканыя : Літаратура беларускага замежжа / Л. Савік. — Мінск : Тэхналогія, 2001. — 480 с.
5. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3-х т. / М. Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1992. — Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. — 752 с.
6. Конан, У. Святло паэзіі і цені жыцця : Лірыка Максіма Багдановіча У. Конан. — Мінск : Маст. літ., 1991. — 208 с.
7. Байкоў, М. Аб творчасці Наталлі Арсенневай / М. Байкоў // Полымя. — 1927. — № 8. — С. 85–98.
8. Багдановіч, І. Э. Авангард і традыцыя : Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Э. Багдановіч. — Мінск : Бел. навука, 2001. — 387 с.
9. Арлоў, У. Імёны свабоды / У. Арлоў. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2007. — 576 с.
10. Бічэль, Д. «Уваскрэсення светлая радасць» : Лісты Наталлі Арсенневай да Дануты Бічэль / Д. Бічэль // Наша Вера. — 2007. — № 2. — С. 64–67.
11. Геніюш, Л. Выбраныя творы / Л. Геніюш. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2000. — 616 с.
12. Чыквін Я. Між Вільняй і Рочэстэрам (Творчасць Наталлі Арсенневай) / Я. Чыквін // Далёкія і блізкія : Беларускія пісьменнікі замежжа. — Беласток : ББЛА «Белавежа», 1997. — С. 39–59.
13. Пяткевіч, А. Старонкі спадчыны : культурнае памежжа Гродзеншчыны : працэсы, з'явы, асобы / А. Пяткевіч. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2006. — 240 с.
14. Арсеннева, Н. Выбраныя творы / Н. Арсеннева. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2002. — 592 с.
15. Геніюш, Л. Лісты з Зэльвы / Л. Геніюш. — Гародня ; Wrocław : Гарадзенская бібліятэка, 2012. — 450 с.
16. Бічэль, Д. Мост святога Францішка : успаміны / Д. Бічэль. — Мінск : Медысонт, 2010. — 290 с.
17. Скобла, М. Чайка з лётам арліным / М. Скобла // Геніюш, Л. Выбраныя творы / Л. Геніюш. — Мінск : Бел. кнігазбор, 2000. — С. 5–22.
18. Адамовіч, А. Натальля Арсеньнева. Між берагамі / А. Адамовіч // Між берагамі : Выбар паэзіі / Н. Арсеньнева. — Нью-Йорк — Таронта : БІНІМ, 1979. — С. IX–XXXIX.
19. Танк, М. Збор твораў : у 6-ці т. / М. Танк. — Мінск : Маст. літ., 1978. — Т. 1 : Вершы. Паэмы 1930—1945. — 526 с.
20. Танк, М. Лісткі календара / М. Танк. — Мінск : Беларусь, 1970. — 311 с.
21. Мішчанчук, М. «Між берагамі» (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай) / М. Мішчанчук // Культура беларускага замежжа. — Кн. 1. — Мінск : Навука і тэхніка, 1993. — С. 10–29.
22. Калеснік, У. Максім Танк : Нарыс жыцця і творчасці / У. Калеснік. — Мінск : Маст. літ., 1981. — 189 с.
23. Калеснік, У. Паэзія змагання : Максім Танк і заходнебеларуская літаратура / У. Калеснік. — Мінск : Дзярж. выдавецтва БССР, 1959. — 252 с.
24. Танк, М. Збор твораў : у 13 т. / М. Танк. — Мінск : Бел. навука, 2006. — Т. 1 : Вершы (1930–1939). — 374 с.
25. Сямёнава, А. На шляху сусветаў / А. Сямёнава // Выбраныя творы / Н. Арсеннева — Мінск : Бел. кнігазбор, 2002. — С. 5–24.
26. Мікуліч, М. «Мая песня — натхненне, жыцця майго чар…» : Паэзія Наталлі Арсенневай заходнебеларускага перыяду / М. Мікуліч // Тэрмапілы. — 2008. — № 12. — С. 340–351.

27. Мікуліч, М. Максім Танк : На скразняках стагоддзя / М. Мікуліч. — Мінск : Маст. літ., 1999. — 254 с.
28. Тарас, В. Хлапчук са старога здымку / В. Тарас // Дзеяслоў. — 2005. — № 15. — С. 176–195.
29. Куляшоў, А. Паміж наступным і былым : Вершы. Паэмы / А. Куляшоў. — Мінск : Маст. літ., 1995. — 542 с.
30. Бярозкін, Р. Паэзія праўды / Р. Бярозкін. — Мінск : Беларусь, 1958. — С. 73–207.
31. Бечык, В. Шлях да акіяна : Кніга пра паэзію А. Куляшова / В. Бечык. — Мінск : Маст. літ., 1981. — 270 с.
32. Бугаёў, Дз. Золата паэзіі і медзякі рыторыкі / Дз. Бугаёў // Крыніца, 1999. — № 10. — С. 30–45.
33. Мішчанчук, М. І. Ёсць у паэта свой аблог цалінны : Жанрава-стылёвая разнастайнасць сучаснай беларускай лірыкі / М. І. Мішчанчук. — Мінск : Нав. і тэхніка, 1992. — 189 с.
34. Галубовіч, Л. Свет і антысвет Аркадзя Куляшова / Л. Галубовіч // Крыніца. — 1999. — № 10. — С. 45–48.
35. Марціновіч, А. «А праўда ўся… : Куляшовым быў» / А. Марціновіч //Крыніца. — 1999. — № 10. — С. 59–67.
36. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917–1940. — Мінск : Выш. школа, 1981. — 454 с.
37. Калеснік, У. Усё чалавечае / У. Калеснік. — Мінск : Маст. літ., 1993. — 381 с.
38. Калеснік, У. Ачышчэнне памяці / У. Калеснік //Полымя. — 1989. — № 9. — С. 189–212.
39. Калеснік, У. Наталля Арсеннева : Віленскія гады / У. Калеснік // Літаратура і мастацтва. — 1994. — 9 снежня. — С. 14.





*Дадатак*

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ЛЁС НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

**1903**

20 верасня у г. Баку ў Азербайджане ў сям'і начальніка Бакінскай мытнай акругі Аляксея Арсеннева нарадзілася Наталля Арсеннева.

**1905**

У сувязі з пераводам бацькі на іншае месца службы сям'я пераехала на Валынь, а пасля ў Вільню. Пачатковую адукацыю паэтка атрымала дома. Маці, адукаваная жанчына, падрыхтавала дзяцей да паступлення ў гімназію.

**1912**

Наталля паступіла ў другі клас Віленскай Марыінскай гімназіі.

**1915**

У 1915–1918 гг. разам з сям'ёй знаходзілася ў эвакуацыі ў Яраслаўлі. Вучылася ў Яраслаўльскай Марыінскай гімназіі.

**1917**

Пад уплывам настаўніцы літаратуры ў гімназіі пачала пісаць вершы на рускай мове. Першы верш «Хмары», другі «Поўдзень». Як пісала паэтка пазней, «гэта быў ужо сапраўды добры верш, не горшы за тыя, што ўвайшлі пасля ў мой зборнік "Пад сінім небам"».

**1918**

Пасля Яраслаўльскага паўстання сям'я вырашыла вяртацца ў Вільню. Спачатку вымушаныя былі затрымацца ў вёсцы непадалёк ад Вялікіх Лукаў Пскоўскай губерні.

**1919**

Сям'я Арсенневых пераехала ў г. Дрысу на Дзвіне. Зімавалі ў недалёкай вёсцы. Наталля наведвала гімназію ў Дрысе. Упершыню пазнаёмілася з беларускай мовай, фальклорам.

**1920**

У часе вяртання ў Вільню ў дарозе захварэлі дзеці. Адразу па вяртанні ў Вільню памерла сястра Галіна. Маці працавала ў сталоўцы Беларускай гімназіі.

У канцы зімы Наталля з братам і сястрой паступіла ў Віленскую беларускую гімназію, дзе пад уплывам настаўніка беларускай мовы М. Гарэцкага восенню напісала першыя вершы на беларускай мове.

Першым стаў верш «Хай жаўцее, сьціхае сад з кожнай гадзінай», другім — «Сьветлы дзень дагарае над сумнай зямлёю».

Газета «Наша Ніва», 28 кастрычніка, паэтычны дэбют, верш «Мой родны край».

**1921**

Чэрвень, закончыла гімназію, пачала працаваць у пачатковай беларускай школе.

Верасень, паступіла ў Віленскі ўніверсітэт.

Газета «Беларускія ведамасці», № 1, надрукаваны чатыры вершы: «Зачараваны кут», «Лясун», «Балотніца», «У небе палаюць чырвоныя хмары».

Вершы друкуюцца ў іншых перыёдыках: газ. «Наша думка», час. «Родныя гоні».

**1922**

Друкуецца ў час. «Маладое жыцьцё», «Наш шлях», газ. «Беларускі звон».

9 верасня пабралася шлюбам з Францішкам Кушалем (16.02.1895–25.05.1968).

Сям'я пераехала ў г. Слонім, дзе былі размешчаны 79 і 80-ы польскія палкі, у адным з якіх служыў муж. Жылі на вуліцы 3 Мая (сённяшняя Чырвонаармейская).

**1923**

11 ліпеня нарадзіўся сын Яраслаў (1923 — 22 чэрвеня 1943).

Памерла сястра паэткі Вольга.

**1924**

Сям'я Кушаляў пераехала ў этнічную Польшчу ў г. Хэлмна. Жылі на вул. Паркавай, затым Млынскай.

4 ліпеня нарадзіўся сын Уладзімір.

**1925**

У часопісе «Студэнцкая думка», № 4 (5), урывак з паэмы «Дзяды» А. Міцкевіча ў перакладзе Н. Арсенневай.

Летам наведала Вільню, дзе мела спатканне з А. Луцкевічам, пра што згадае ў лісце да яго ад 18 студзеня 1926 г.

**1926**

Памірае бацька паэткі Аляксей Арсенneў.



**1927**

У Вільні ў друкарні Грыневіча выйшаў у свет першы паэтычны зборнік «Пад сінім небам».

Часопіс «Родныя гоні», № 5–6, артыкул М. Чэмера (У. Самойлы) «Верная дачка Сонца і Шчырай Зямелькі!»

Часопіс «Полымя», № 8, артыкул М. Байкова «Аб творчасці Наталлі Арсенневай».

**1928**

У «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, перавыдадзенай у Мінску, згадваецца творчасць Н. Арсенневай, якая захапляе шчырасцю пачуццяў, далікатнасцю тону, пяшчотнасцю вобразаў і слоў.

**1929**

У кнізе А. Навіны «Адбітае жыцьцё» артыкул “Пад сінім небам”. Характэрыстыка творчасьці Натальлі Арсеньневай».

**1933**

У польскім часопісе «Przegląd Wilenski» № 11–12 у артыкуле С. Станкевіча «Маладая беларуская паэзія» высока ацэнена паэзія Н. Арсенневай.

У даследаванні А. Навіны «Галоўныя кірункі беларускай паэзіі», выдадзенай у Вільні, адзначана паэзія Н. Арсенневай як найбольш яскравай прадстаўніцы эстэтызму.

**1935**

Пераезд сям'і Кушаляў у г. Равіч.

**1936**

На творчасць Н. Арсенневай як прадстаўніцы эстэтычнага накірунку беларускай паэзіі звернута ўвага ў кнізе «Uwagi nad literaturą białoruską», выдадзенай у Варшаве польскай даследчыцай М. Грудзінькай-Фроэліховай.

**1937**

Сям'я пераехала ў г. Пултуск.

Часопіс «Шлях моладзі», № 5, балада «Вядзьмак».

Часопіс «Калосьсе», № 2 (11), паэма «Князёўна».

Часопіс «Калосьсе», № 31–37, артыкул К. Бруевіча «На паэтычнай вышыні — аб творчасьці Натальлі Арсеньневай».

Часопіс «Калосьсе» ў хроніцы інфармуе пра падрыхтоўку да друку зборніка «Жоўтая восень».

21 снежня адбылася вечарына, якую ладзіла Беларускае навуковае таварыства, дзе сустрэліся два «важакі заходнебеларускай паэзіі» Н. Арсеннева і М. Танк. Часопіс «Беларускі летапіс» паведаміў пра гэтую імпрэзу, змясціў фотаздымак.

**1939**

15 верасня памерла маці паэткі. Муж апынуўся ў савецкім палоне. Вільня, жыццё ў сям'і брата Сяргея.

**1940**

На пачатку студзеня з сынамі апынулася ў Вілейцы, працавала ў «Сялянскай газеце».

У сакавіку разам з М. Танкам і М. Машарам была запрошана ў Мінск, дзе заходнебеларускіх пісьменнікаў віталі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Праз некалькі дзён пасля звароту была выслана з дзецьмі ў Казахстан, дзе апынулася ў вёсцы Дзмітраўка.

**1941**

У канцы лютага была выклікана ў НКВД у Паўладар, адкуль павінна была дабірацца ў Маскву, была дапытана на Лубянцы, дзе ў тым часе знаходзіўся і муж паэткі.

У траўні атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. Пасля адпачынку ў Дорах атрымала загад з'явіцца ў Беласток, дзе да пачатку вайны працавала ў рэдакцыі газеты.

Падчас нямецкай акупацыі жыла ў Менску на вул. Ленінградскай, працавала ў «Беларускай газэце», перакладала лібрэта опер для Менскага гарадскога тэатра.

**1942**

Н. Арсеннева едзе ў Берлін, адтуль у Лейпцыг, недалёка ад якога ў санаторыі апошнія дні дажываў яе брат Сяргей. Памёр, там і пахаваны.

Літаратурны вечар паэткі ў Берліне, арганізаваны доктарам Вітаўтам Тумашам.

Удзел у працы першага з'езду акруговых кіраўнікоў Беларускай народнай самапомачы.

«Беларуская газэта», 28 кастрычніка, аўтабіяграфічная даведка «Натальля Арсеньнева пра сябе», артыкул Д. Забранскага «Натальля Арсеньнева (Спроба літаратурнае "пяцімінуткі")».



**1943**

16 студзеня, Менск, прэм'ера драмы Гаўптмана «Затонуты звон», пераклад Наталлі Арсенневай.

Евангельскі хрысціянскі спеўнік, пераклады песняў Наталлі Арсенневай.

22 чэрвеня ў Менскім гарадскім тэатры пад час тэракту загінуў сын паэткі Яраслаў.

Наведала г. Слонім, дзе сустракалася з паэтам Анатолем Іверсам.

«Беларуская газэта», артыкул К. Каліноўца «Усё ж — да ўзвышшаў! (Агляд паэтычнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай)».

**1944**

Кіравала літаратурным аддзелам Беларускага культурнага згуртавання. У «Беларускай газэце» надрукавана драма «Усяслаў Чарадзей» (18, 22, 25 сакавіка). Выйшла кніга «Сягоньня: вершы 1941–1943». 23 лютага быў падпісаны ўказ пра стварэнне Беларускай краёвай абароны пад кіраўніцтвам Ф. Кушаля. У траўні была створана Беларуская афіцэрская школа.

Прымала ўздзел у 2-м Усебеларускім кангрэсе.

У ліпені з сынам Уладзімірам выехала ў Нямеччыну, куды была вывезена і школа афіцэраў, якою кіраваў Ф. Кушаль. Напачатку жыла ў Кёнігсбергу, затым у горадзе Форст у зямлі Брандэнбург, дзе з сынам правяла каля месяца. Пазней праца ў берлінскай газеце «Раніца», пазней у г. Амбергу, восенню сям'я паэткі апынулася ў Рэгенсбургу, дзе Н. Арсеннева пачала працаваць у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, выкладала французскую і нямецкую мовы. Друкавалася на старонках шматлікіх эміграцыйных перыёдыкаў.

Газета «Пагоня», 31 траўня, «Сягоньня» — рэцэнзія М. Лагоды на зборнік.

«Газэта Случчыны», 4 чэрвеня, рэцэнзія А. Палявога на зборнік «Сягоньня» «Сардэчны накіп».

Газета «Раніца», № 30–31, рэцэнзія Г. Альгердзіча на зборнік «Сягоньня» «Беларускага слова жніво».

Часопіс «Беларускі работнік», № 34, біяграфічна-літаратурны нарыс «Сучасныя беларускія паэты. Натальля Арсеньнева».

Газета «Новыя дарогі», 28 траўня, рэцэнзія М. Дальнага на зборнік «Сягоньня» «На новай хвалі».

**1946**

Пераехалі ў Міхельсдорф. Асобнай кнігай выйшла п’еса «Сіротка Гануля» (Рэгенсбург–Міхельсдорф).

Часопіс «Шляхам жыцьця», № 3, артыкул «Нашы песьняры. Натальля Арсеньнева і Масей Сяднёў».

Часопіс «Крывіцкі сьветач», № 9–10, артыкул «Натальля Арсеньнева. Да 25-х угодкаў творчае працы».

**1947**

Пабачылі свет кнігі паэткі: «Выбраныя вершы» (Ватэнштат), п’есы: «Кастусь Каліноўскі» (Міхельсдорф) і «Бацькаўшчына» ў сааўтарстве з М. Куліковічам (Міхельсдорф), песня «Магутны Божа» (Парыж), музыку да якой напісаў М. Равенскі.

**1948**

Часопіс «Сакавік», № 1 (2), фрагменты «Зьнічы», пераклад 1-га акта драмы Гаўптмана «Затонуты звон».

Часопіс «Сакавік», № 2 (3), вершы «Вазьму пяро».

**1949**

Розенгайм. У № 1 час. «Сакавік» надрукавана паэма «Зьнічы».

Выйшаў паэтычны зборнік «Жоўтая восень» (Госляр), падрыхтаваны яшчэ ў 1939 г.

**1950**

15 чэрвеня сям’я Кушаляў пераязджае на сталае жыхарства ў ЗША. На пачатку працавала на некваліфікаванай працы ў прамысловасці.

Удзельнічала ў заснаванні Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, дзе была культурна-асветным рэферэнтам (1951–1953) і сакратаром (1959–1967) Галоўнай управы.

**1951**

Удзел у заснаванні ў Нью-Ёрку Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ).

Часопіс «Kultura», № 45–46, вершы «Пясьняр», «Жыві!», пераклад на польскую Ю. Лабадоўскага.

**1952**

15 сакавіка. Нью-Ёрк, вечар, прысвечаны 30-годдзю літаратурнай дзейнасці паэткі. Даклад В. Тумаша.



Газета «Бацькаўшчына», 25 сакавіка, артыкулы С. Брагі «Ад сіняга неба да шэрай зямлі. Трыццацілетні шлях Натальлі Арсеньневай» і М. Куліковіча «Паэзія душы й розуму».

Пачала рэдагаваць газету «Беларус», дзе працавала да 1954 г.

Газета «Беларус», № 1, артыкул «На службе красы й Бацькаўшчыны. На 30-ыя ўгодкі творчасьці паэткі».

Цеснае супрацоўніцтва з газетай «Бацькаўшчына», дзе друкаваліся вершы.

Газета «Бацькаўшчына», № 94–95 і 96, успаміны «У Казахстанскай ссылцы».

**1953**

Часопіс «Наперад», № 25, пераклад драмы У. Шэкспіра «Рамэа і Джульета» (урыўкі).

**1954**

Газета «Бацькаўшчына», № 190–191, вершы «Не здрадзім».

Часопіс «Конадні», № 1, нізка вершаў «Ледзь красавік», пераклад 2-га акту драмы Гаўптмана «Затонуты звон».

Часопіс «Конадні», № 2, нізка вершаў «Адбітае», пераклад 3-га акта драмы Гаўптмана «Затонуты звон».

**1955**

Часопіс «Конадні», № 3, нізка вершаў «Брамы».

Часопіс «Конадні», № 4, нізка вершаў «Прывіды».

Выйшлі п’есы «Пралог у будучыню» (Нью-Ёрк), «Сваты» (Кліўленд).

Адна са стваральнікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва. У 1952–1954 гг. працавала ў нью-ёркскім офісе радыё «Свабода».

**1956**

Выйшла п’еса «Кастусь Каліноўскі» (Нью-Ёрк).

**1958**

Газета «Бацькаўшчына», № 431–432, 1-я ч. слуцкай аповесці «Косы».

**1959**

Газета «Бацькаўшчына», № 451–452, слуцкая аповесць «Косы» надрукавана цалкам.

**1960**

Газета «Бацькаўшчына», № 500, вершы «Сама аб сабе», успаміны «Як я сталася паэтам» і «“Кузьня духа” (Пра беларускую гімназію ў Вільні)».

Газета «Бацькаўшчына», № 530–531, вершы «У Слуцкую гадавіну».

**1961**

Газета «Беларус», № 72, артыкул «40 год на літаратурнай постані. Угодкі творчасьці Натальлі Арсеньневай».

Газета «Беларуская моладзь», № 12, артыкул «Натальлі Арсеньневай на 40-ыя ўгодкі пісьменніцтва».

17 снежня, Нью-Ёрк, вечар, прысвечаны 40-годдзю літаратурнай дзейнасці паэткі. Даклад А. Адамовіча «Аспэкты паэтычны, нацыянальны і філязафічны творчасьці Н. Арсеньневай».

**1963**

Часопіс «Конадні», № 7, нізка вершаў «Узноў».

**1964**

Часопіс «Беларус», № 84 і 90, нізка вершаў «Вясна».

**1967**

У сувязі са смерцю нявесткі Наталлі Кушаль (у дзявоцтве Куліковіч) пераехала да сына ў Рочэстэр (Нью-Ёрк) даглядаць унукаў Пятра і Наталлю.

**1968**

10 лютага, Таронта, удзел у святкаванні 65-х угодкаў з дня нараджэння В. Жук-Грышкевіча.

**1969**

16 лютага, Таронта. Літаратурны вечар паэткі. Даклад «Я — і жыццё».

Газета «Беларус», № 143, даклад «Майму жыцьцю».

**1971**

Газета «Беларус», № 175, артыкул А. Скібы «Натальля Арсеньнева. На 50-ыя ўгодкі паэтычнае творчасьці».

Газета «Беларус», № 176, артыкул В. Тумаша «Залатыя ўгодкі Натальлі Арсеньневай».



**1975**

Газета «Беларус», № 221, артыкул Р. Максімовіча «Дні беларускіх студыяў у Атаве. Вечар Натальлі Арсеньневай».

**1978**

Часопіс «Українське Народне Слово», № 23, верш «Хоць мы лісты», пераклад на ўкраінскую Л. Палтавы.

Часопіс «Наш світ», № 6, верш «Вусціш», пераклад на ўкраінскую Л. Палтавы.

Пачынае працу над перакладам паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага.

**1979**

Часопіс «Конадні», № 2, пераклад верша Ю. Лабадоўскага «Эротык».

Часопіс «Віснік», № 4, верш «Уваскрэсні!», пераклад на ўкраінскую Л. Палтавы.

Выйшла кніга выбранага паэзіі «Між берагамі» (Нью-Ёрк–Таронта).

**1980**

Святкаванне 1000-годдзя беларускай дзяржаўнасці ў Таронта. Н. Арсеннева адкрывае выставу, прысвечаную гэтай падзеі.

**1982**

Завершаны пераклад «Песні пра зубра» М. Гусоўскага.

**1983**

Лістапад–снежань, газета «Беларус». Інтэрв’ю з нагоды 80-годдзя «Я вельмі высока цаню сучасную беларускую паэзію…»

**1988**

5 верасня, Мітланд (Канада), удзел ва ўстанаўленні і асвячэнні Памятнага Крыжа ў гонар 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі.

**1989**

Часопіс «Полымя», № 9, артыкул А. Калесніка «Ачышчэнне памяці».

Газета «Ніва», № 4, артыкул А. Барскага «Наталля Арсеннева — паэтэса пошукаў».

**1990**

Удзел у Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Цэнтр «Полацк», Кліўленд.

Газета «Звязда», 22 чэрвеня, В. Каваленка «Імя — Наталля Арсеннева».

**1991**

Варшаўскі ўніверсітэт. Ганнай Кандрацюк абаронена магістарская праца па беларутэністыцы «Этыка і эстэтыка ў паэзіі Наталлі Арсенневай», выкананая пад кіраўніцтвам праф. А. Баршчэўскага.

Часопіс «Беларусь», № 1, вершы Наталлі Арсенневай.

Часопіс «Беларусь», № 3, артыкул І. Багдановіч «Наталля Арсеннева».

Газета «Голас Радзімы», 24–31 кастрычніка, артыкул Т. Антонавай «У гасцях у Наталлі Арсенневай».

Часопіс «Полымя», № 11, вершы Наталлі Арсенневай.

**1992**

У анталогіі «Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі» вершы Наталлі Арсенневай.

Зборнік «Пад сінім небам» (Факсімільнае выданне).

Газета «Беларус», ліпень, успаміны «Лістаючы бачыны мінулага».

Газета «ЛіМ», 6 сакавіка, верш «Чарнобыль».

Біябібліяграфічны даведнік «Беларускія пісьменнікі», Т. 1, артыкул «Наталля Арсеннева».

Часопіс «Роднае слова», № 3, інтэрв’ю «Я не палітык і ніколі ім не была».

Часопіс «Работніца і сялянка», № 9–10, вершы Наталлі Арсенневай.

Газета «Наша слова», 29 ліпеня, артыкул А. Іверса «Наталля Арсеннева».

Газета «Наша слова», 9 верасня, артыкул С. Чыгрына «Наталля Арсеннева ў Слоніме».

Газета «ЛіМ», 13 лістапада, артыкул С. Язерскага «Іскрацьі пяюць словы і гукі: Таямніца беларускасці Наталлі Арсенневай».

**1993**

У кнізе «Культура беларускага замежжа» артыкул М. Мішчанчука «“Між берагамі” (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай)».

У вучэбным дапаможніку М. Мішчанчука «Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў» літаратурны партрэт Наталлі Арсенневай.



«Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т. 1, артыкул «Наталля Арсеннева».

«Анталогія беларускай паэзіі», т. 2, вершы Наталлі Арсенневай.

Часопіс «Роднае слова», № 1, вершы Наталлі Арсенневай.

Часопіс «Беларусь», № 6, успаміны Наталлі Арсенневай «У Казахстанскай ссылцы», артыкул М. Тычыны «Сны аб Беларусі».

«Literatura na Świecie», вершы Наталлі Арсенневай у перакладзе А. Баршчэўскага.

Газета «ЛіМ», 5 лютага, артыкул Л. Тарасюк «Праз акіян забыцця: Паэзія Наталлі Арсенневай».

Газета «ЛіМ», 19 сакавіка, артыкул У. Гніламёдава «Слова, аплачанае лёсам».

Газета «Культура», 5 ліпеня, інтэрв’ю «Хачу толькі, каб Беларусь была свабоднай», артыкул В. Вярбоўскай «Праз слёзы адчуваецца надзея».

Газета «Культура», 21 верасня, артыкул А. Г. «Наталлі Арсенневай — 90».

«Настаўніцкая газета», 18 верасня, артыкул С. Адамовіча «Імя тваё — пякучы сымбаль болю».

Газета «Голас Радзімы», 30 верасня, артыкул А. Сямёнавай «Лёс і над лёсам: Да 90-ых угодкаў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай».

Газета «Наша слова», 10 лістапада, артыкул М. Капыловіча «Прысвечана Наталлі Арсенневай».

Газета «Наша слова», 29 снежня, артыкул І. Крэнь «Перадайце ад мяне прывітанне ўсім, хто гэта заслужыў».

**1994**

30 студзеня, газета «Ніва», інтэрв’ю з паэткай М. Ваўранюка «Я — самы звычайны чалавек, часцінка майго народа».

У кнізе Л. Пранчака «Беларуская Амерыка» інтэрв’ю з Наталляй Арсенневай.

У кнізе «На суд гісторыі: Успаміны. Дыялогі» змешчаны ўспаміны паэткі «З майго жыццяпісу».

Даведнік «Беларускія пісьменнікі», артыкул «Наталля Арсеннева».

Газета «Ніва», № 7, артыкул А. Барскага «Мая Наталля Арсеннева».

Газета «ЛіМ», 9 снежня, артыкул У. Калесніка «Наталля Арсеннева. Віленскія гады».

**1995**

«Беларусь: Энцыклапедычны даведнік», артыкул «Наталля Арсеннева».

Зборнік «А часу больш чым вечнасць. Літаратура беларускага замежжа», вершы Наталлі Арсенневай.

У кнізе «Вяртання маўклівая споведзь» артыкул А. Каўкі «Краса калючая шыпшыны: Патрыятычная лірыка беларускай літаратуры замежжа».

Зборнік «Беларуская мова і літаратура», вып. 1, артыкул У. Сенькаўца «Вывучэнне творчасці Наталлі Арсенневай у школе».

Газета «ЛіМ», 28 красавіка, Н. Гілевіч «Матывіроўка вылучэння песні М. Равенскага і Н. Арсенневай на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь».

Часопіс «Полымя», № 6, артыкул Л. Тарасюк «Пад небам паэзіі: Творчасць Наталлі Арсенневай 20–30-х гадоў».

Часопіс «Маладосць», № 6, вершы В. Аксак «У дзевяностую восень: Наталлі Арсенневай».

**1996**

Кніга «Яшчэ адна вясна: выбраныя вершы».

Часопіс «Полымя», № 6, артыкул Л. Тарасюк «Пад небам паэзіі».

Часопіс «Тэатральная Беларусь», № 6, п’есы «Кастусь Каліноўскі», «Сваты».

«Запісы БІНІМу», надрукаваны пераклад паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага.

У навуч. дапаможніку М. Мішчанчука «Літаратура бліжняга замежжа» артыкул «Настрой і колер у паэзіі Наталлі Арсенневай».

У кнізе А. Марціновіча «Дзе ж ты, храм праўды?» артыкул «Між берагамі. Аб жыцці і творчасці Наталлі Арсенневай».

Часопіс «Крыніца», № 11–12, «Бібліяграфія твораў Натальлі Арсеньневай і літаратуры пра яе ды ейную творчасьць», апрацаваная Зорай Кіпель.

Часопіс «Крыніца», № 11–12, артыкул Г. Бураўкіна «Спадарыня Наталля».

Часопіс «Крыніца», № 11–12, артыкул А. Сямёнавай «Лёс і над лёсам».

Часопіс «Крыніца», № 11–12, Л. Галубовіч «Адвольны верш да Наталлі Арсенневай».



**1997**

Газета «ЛіМ», рэцэнзія А. Бяляцкага: «Яшчэ адна вясна: Выбраныя вершы Наталлі Арсенневай».

У кнізе Я. Чыквіна «Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа», раздзел «Між Вільняй і Рочэстэрам (Творчасць Наталлі Арсенневай)».

«Antologia poezji białoruskiej» (Вроцлаў), біяграфічны нарыс і вершы Н. Арсенневай.

У «Запісах БІНІМу» ў Нью-Ёрку выйшаў пераклад «Песні пра зубра» М. Гусоўскага.

25 ліпеня а 5-й гадзіне раніцы памерла Н. Арсеннева ў г. Рочэстэры, дзе і пахаваная.

Газета «Голас Радзімы», 7 жніўня, артыкул Л. Савік «Памяці беларускай паэтэсы».

Часопіс «Крыніца», № 12, артыкул Р. Жук-Грышкевіч «Мае ўспаміны пра Натальлю Арсеньневу-Кушаль».

**1998**

Культура беларускага замежжа. Кніга 3, артыкул Л. Званаровай «Колеравая сімволіка ў паэзіі Зінаіды Гіпіус і Наталлі Арсенневай».

Газета «ЛіМ», 10 красавіка, артыкул В. Тараса «Кароткія ногі хлусні».

Газета «Голас Радзімы», 30 ліпеня, артыкул «“Чуцца часткай айчыны…” (Да ўгодкаў смерці Наталлі Арсенневай)».

Газета «Наша слова», 16 і 23 верасня, «Лісты Наталлі Арсенневай да Дануты Бічэль».

**1999**

У кнізе М. Скоблы «Дзярэчынскі дыярыюш» артыкул «З гледзішча вечнасці».

Часопіс «Спадчына», № 3, гістарычная опера ў 4 актах «Усяслаў Чарадзей».

Газета «Народная воля», 21 верасня, артыкул А. Грыцкевіча «Яна любіла Беларусь».

**2000**

Часопіс «Krasnogruda», вершы Наталлі Арсенневай у перакладзе на польскую мову Яна Чыквіна.

**2001**

У манаграфіі Л. Савік «Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа» артыкул «Жывем Айчынай мы…: Наталля Арсеннева».

**2002**

У Мінску ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» выйшаў зборнік Наталлі Арсенневай «Выбраныя творы», самае поўнае выданне твораў паэткі.

**2003**

У Гродзенскім гарадскім Доме культуры прайшла вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Наталлі Арсенневай.

У зборніку «Актуальныя праблемы літаратурнай адукацыі на сучасным этапе рэформы школы» артыкул А. Петрушкевіч «“Музыкі перш за ўсё”: Адзін з аспектаў вывучэння творчасці Н. Арсенневай».

**2004**

У кнізе А. Макміліна «Беларуская літаратура дыяспары» артыкул «Наталля Арсеннева: паэтка восені».

Часопіс «Тэрмапілы», № 8, артыкул А. Петрушкевіч «О Беларусь мая, праз боль пякучы грацы Табе…»

У зборніку «Шлях да ўзаемнасці» артыкул А. Петрушкевіч «Прастора і час у лірыцы Н. Арсенневай».

У зборніку «Руска-беларускае літаратурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучасны стан, перспектывы» артыкул А. Петрушкевіч «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі».

У зборніку «Актуальныя праблемы выкладання мовы і літаратуры ў вышэйшай і сярэдняй школе» артыкул А. Петрушкевіч «Эпітэт і яго роля ў паэтычным творы (На прыкладзе зборніка вершаў Н. Арсенневай “Пад сінім небам”)».

У зборніку «Актуальныя праблемы мовазнаўства (да 80-годдзя прафесара І. Я. Лепешава)» артыкул А. Петрушкевіч «Эпітэты, выражаныя прыдаткамі, у зборніку Н. Арсенневай “Пад сінім небам”».

**2005**

У зборніку «Надзённыя пытанні лінгвістыкі (да 75-годдзя праф. П. У. Сцяцко)» артыкул А. Петрушкевіч «Прыёмы паэтычнага сінтаксісу ў нізцы вершаў Н. Арсенневай “Прывіды”».



У зборніку «Рэспубліканскія Калеснікаўскія чытанні» артыкул А. Петрушкевіч «Два светы Н. Арсенневай: Творчасць паэткі ў ацэнцы Уладзіміра Калесніка».

**2006**

У кнізе А. Пяткевіча «Старонкі спадчыны: культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з’явы, асобы» ў артыкуле «Літаратурны рух і фармаванне нацыянальнай свядомасці насельніцтва Заходняй Беларусі» звернута ўвага на паэзію Наталлі Арсенневай.

Часопіс «Studia wschodniosłowiańskie» (Беласток), т. 6, № 2, артыкул А. Петрушкевіч «Шляхі ў паэзію Н. Арсенневай і М. Танка».

У зборніку «Фальклор і сучасная культура» артыкул А. Петрушкевіч «Фальклорныя матывы ў творчасці Наталлі Арсенневай».

У зборніку «Куляшоўскія чытанні» артыкул А. Петрушкевіч «Паэзія Н. Арсенневай і А. Куляшова ваеннага часу».

Часопіс «Тэрмапілы», № 9, артыкул А. Петрушкевіч «Колеравая палітра Наталлі Арсенневай».

**2007**

Часопіс «Наша вера», № 2, публікацыя Д. Бічэль «Уваскрэсення светлая радасць». Лісты Наталлі Арсенневай да Дануты Бічэль.

У кнізе У. Арлова «Імёны свабоды» надрукавана эсэ пра Наталлю Арсенневу.

**2008**

«Nie chilim czła przed mocą. Antologia poezji białoruskiej od XV do XX wieku» вершы Наталлі Арсенневай у перакладзе А. Паморскага і Ч. Сэнюха.

Часопіс «Тэрмапілы», № 12, артыкул М. Мікуліча «Мая песня — натхненне, жыцця майго чар…» Паэзія Наталлі Арсенневай заходнебеларускага перыяду.

Часопіс «Наша вера», № 3, артыкул А. Петрушкевіч «Яна малілася за Беларусь: Хрысціянскія матывы ў творчасці Наталлі Арсенневай».

**2009**

У манаграфіі «Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» артыкул А. Петрушкевіч «Біблейскія матывы ў паэзіі Наталлі Арсенневай».

**2010**

«Запісы БІНІМ», № 33, публікацыя Н. Гардзіенкі «Лісты з часу страчаных надзеяў: Антон Адамовіч да Натальлі Арсеньневай».

У зборніку «Беларусіка…» артыкул Н. Пяткевіч «Віленскія старонкі жыцця Наталлі Арсенневай».

Часопіс «Białorutenistyka Białostocka», № 2, артыкул А. Петрушкевіч «Два вершы-прысвячэнні Наталлі Арсенневай».

Часопіс «Studia białorutenistyczne» (Люблін), артыкул А. Петрушкевіч «Максім Багдановіч у паэтычным свеце Наталлі Арсенневай».

**2011**

У зборніку «Dwudziestolecie mniej znane. O kobietach piszancych w latach 1918–1939» (Кракаў) артыкул А. Глагоўскай «Okres pomorski w życiu i tworczości Natalii Arsieńniewej».

**2012**

У зборніку «Kobiety w życiu kulturowym Polski i świata» (Гданьск) артыкул А. Глагоўскай «Kobiety w białoruskim ruchu narodowym. O Natalii Arsieńniewej, poetce i dzialaczce».

Часопіс «Дзеяслоў», № 3, артыкул А. Петрушкевіч «Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш: жыццёвыя і творчыя пераэовы».

У зборніку «Беларусь на скрыжаванні стагоддзяў: ад класікі да сучаснасці» артыкул А. Петрушкевіч «Янка Купала ў паэтычным свеце заходнебеларускіх паэтаў».

«Запісы БІНІМ», № 35, публікацыя Н. Гардзіенкі «Геніюш, Ларыса. Лісты да Натальлі Арсеньневай».



# ЗМЕСТ

Даследуецца чыстая лірыка. *Аляксей Пяткевіч* ..... 3
*Замест уступу.* Час вяртання, або Мой шлях да Наталлі Арсенневай ..... 5

*Раздзел I.* **Наталля Арсеннева ў кантэксце часу і па-над ім**

Літаратура беларускага замежжа ***(кароткі агляд)*** ..... ***13***
Загадка Наталлі Арсенневай ..... 21
Калыханка на ўскраіне Слоніма ..... 25
«О Беларусь мая, паўз боль пякучы грацць табе…»: песенны лад паэзіі Наталлі Арсенневай ..... 27
Прастора і час у лірыцы Наталлі Арсенневай ..... 40
Яна малілася за Беларусь: біблейскія матывы паэзіі Наталлі Арсенневай ..... 58
Колеравая палітра лірыкі Наталлі Арсенневай 20–30-х гадоў ..... 73
«Патаёмнае» Наталлі Арсенневай ..... 83
Эпітэт і яго роля ў зборніку вершаў Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам» ..... 94
Выкарыстаная літаратура ..... 106

*Раздзел II.* **Творчасць Наталлі Арсенневай у айчынным літаратурным кантэксце**

Услед за ўлюбёным паэтам: Наталля Арсеннева і Максім Багдановіч ..... 111
Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш: жыццёвыя і творчыя пераэовы ..... 123
Шляхі ў паэзію Наталлі Арсенневай і Максіма Танка ..... 133
Паэзія Наталлі Арсенневай і Аркадзя Куляшова ваеннага часу ..... 144
Два светы Наталлі Арсенневай: творчасць паэткі ў ацэнцы Уладзіміра Калесніка ..... 153
Выкарыстаная літаратура ..... 158

**Дадатак**

Жыццёвы і творчы лёс Наталлі Арсенневай ..... 161

*Навуковае выданне*

**Петрушкевіч** Ала Мікалаеўна

**Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі**

*Манаграфія*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Пяткевіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 15.03.2013. Фармат 60х84 $^{1}/_{16}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 7,38. Ум. друк. арк. 10,46.
Наклад 100 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.